–Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
30
КРАСАВІКА
1993 г.

№ 17 (3687)

КОШТ
3 рублі



## *АЎТАПАРТРЭТ З КОШКАЙ І ПТУШКАЙ*


*Птушыны ўладар*


*Нацюрморт з сухімі кветкамі*

Гады вучобы Яны ПЕРВЯКОВАЙ у Беларускай акадэміі мастацтваў супалі з часам радыкальных перамен на велізарным абшары, які калісь называўся «Савецкі Саюз». Гэтая хваля не магла, зразумела, абмінуць і сферу культуры. Не магла не закрануць эстэтычныя стэрэатыпы савецкага грамадства. Сённяшнія маладыя творцы валодаюць большай свабодай самавыяўлення, чым іхнія папярэднікі, што пражылі немалую частку жыцця пры «сацрэалізме». Шырокія перспектывы, што адкрыліся досыць нечакана, сяго-таго нават збянтэжылі. Выпрабаванне свабодай аказалася такім жа цяжкім, як і выпрабаванне цэнзурай.

Для мастачкі Яны Первяковай свабода — натуральны стан. Менавіта таму, скончыўшы навучанне ў акадэміі, яна працуе лёгка і натхнёна. Первякова прытрымліваецца фігуратыўнага мастацтва, але яе жывапіс нельга аднесці да традыцыйнага «передвижнического» рэалізму, які панаваў /дакладней, насаджаўся/ у беларускім мастацтве на працягу ўсіх пасляваенных дзесяцігоддзяў.

Але я не стаў бы дапасоўваць яе мастацтва і да шырокай авангардысцкай плыні, што набыла сілу ў апошнія /«перабудовачныя»/ гады. Авангард зарыентаваны на рынак і свабодную канкурэнцыю, але падобна на тое, што некаторыя авангардысты былі б не супраць стаць выразнікамі новага афіцыёзу, заняць у культурным працэсе месца, раней дырэктыўна замацаванае за «сацрэалізмам»...

Можа, таму Яна трымаецца як мага далей ад усялякіх груп і плыняў, ад спрэчак аб суадносінах мастацтва і палітыкі. На яе думку, творчасць — галоўны і адзіны аргумент мастака ў любой дыскусіі. А творчасць — рэч суб'ектыўная. Ды і ці павінен мастак кагосьці пераконваць, ці дзеля гэтага пішуцца карціны?

Істоты і рэчы на карцінах Первяковай успрымаюцца як нешта вельмі знаёмае, тыповае, але адначасова з індывідуальнымі рысамі. Яе творы настраёвыя, але не пазбаўлены псіхалагізму. Фантазія мастака трансфармуе рэальныя аб'екты ў сімвалы жыцця. Мабыць, невыпадкова ў сваёй дыпломнай рабоце мастачка звярталася да хрысціянскай тэматыкі. Кожная творчая асоба павінна, рана ці позна, вызначыць свае духоўныя арыенціры, суаднесці свой унутраны свет з высокімі ідэаламі.

Карціны Яны — гэта не столькі адлюстраванне жыццёвага вопыту, колькі мадэль гарманічнага свету дабрыні і справядлівасці. Хоць у нашай рэчаіснасці быць справядлівым і адначасова добрым вельмі цяжка.

**П.В.**

*Фота У. ПАНАДЫ*

# КОЛА ДЗЁН

*Пасля доўгай халоднай вясны на Беларусь у красавіку прыйшло... лета. За некалькі дзён змянілі мы цёплыя курткі на лёгкія кашулі з кароткімі рукавамі. На жаль, палітычнае надвор'е не можа змяняцца гэтак хутка. Шлях ад дыктатуры адной партыі да сапраўды дэмакратычнага грамадства доўгі і няпросты. І жыццё паказвае, што надрад ці паскорыць яго розныя рэферэндумы і галасаванні. «Старая гвардыя» з апошніх сіл трымаецца за ўладу. Але законы прыроды няўмольныя. За зімою прыйшла вясна, за вясною прыйдзе лета. І, спадзяемся, мы яшчэ ў ім пажывём...*

**ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ**

25 красавіка ў Расіі адбыўся рэферэндум. Канчатковыя вынікі яго ў гэтай вялізнай і пакуль малакамп'ютэрызаванай краіне будуць падведзены праз некалькі дзён. Папярэднія ж падлікі паказваюць, што расіяне падтрымліваюць свайго прэзідэнта і ўрад. Спадзеючыся на гэта, Ельцын неаднаразова заяўляў, што скарыстае свой шанц і давер народа, каб паскорыць рэфармаванне краіны. Да практычных крокаў пакуль не дайшло. Тым часам з'езд народных дэпутатаў Расіі працягвае палітыку канфрантацыі з прэзідэнтам, адмяняючы адзін за адным яго ранейшыя ўказы. У Маскве наспявае новая крызісная сітуацыя.

**СУСТРЭЧА ТЫДНЯ**

Кіраўнікі ўрадаў дзяржаў СНД 28 красавіка сабраліся ў Мінску. Толькі пяць дзяржаў /Расія, Украіна, Арменія, Таджыкістан і Беларусь/ былі прадстаўлены прэм'ер-міністрамі. Астатнія прыслалі ў Мінск віцэ-прэм'ераў. На сустрэчы прынята 14 дакументаў. Галоўны ж вынік яе — стварэнне Каардынацыйна-кансультацыйнага камітэта, які стане пастаянна дзеючым органам СНД.

**НАВІНА ТЫДНЯ**

Вярхоўны Савет Расіі ратыфікаваў так званы ваенны дагавор паміж Беларуссю і Расіяй. Нагадаем, што падобны дагавор аб супрацоўніцтве ў ваеннай сферы Беларусь падпісала на мінулым тыдні з Польшчай, а яшчэ раней — з Летувою і Латвіяй.

**ПАЕЗДКА ТЫДНЯ**

Прэм'ер-міністр Беларусі В.Кебіч наведаў Брэсцкую вобласць. Гэты візіт яшчэ раз паказаў настальгію Вячаслава Францавіча па былых метадах работы, якія «добра зарэкамендавалі» сябе ў гады застою і ўсемагутнага ЦК.

**ПРАГНОЗ ТЫДНЯ**

На ўласнай сыравіне можа працаваць буйны горна-металургічны камбінат, пабудаваць які на Беларусі прапануюць вучоныя Беларускага эканамічнага універсітэта. Радовішчы жалезных руд з высокім утрыманнем жалеза адкрыты ў Стаўбцоўскім і Карэліцкім раёнах. Прагназаваных запасаў /больш чым 700 млн.т/ хопіць на працяглы перыяд работы буйнога камбіната.

**АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ**

Мінск у свеце, пэўна, усё ж успрымаецца сталіцай СНД. Інакш чаму галоўны камісарыят ААН па справах бежанцаў вырашыў правесці тут свой семінар? Якраз у нас такой праблемы пакуль няма.

**ХАЎРУС ТЫДНЯ**

XXXII /нечарговы/ з'езд незарэгістраванай і немаючай статута кампартыі Беларусі адбыўся ў Мінску. 236 дэлегатаў з 286 прынялі рашэнне аб уваходжанні КПБ у ПКБ. Да II з'езда ПКБ, які адбудзецца ў траўні, былыя кіраўнікі КПБ на чале з Малафеевым і Камаем засталіся без пасад. На пытанне, пастаўленае некалі «ЛіМам», — «КПБ-ПКБ?» дадзены станоўчы адказ.

**СЮРПРЫЗ ТЫДНЯ**

Урад Летувы выдзеліў 6 мільёнаў талонаў на вывучэнне стану і магчымасцей рэстаўрацыі замкаў, у тым ліку і тых, што знаходзяцца на тэрыторыі суверэннай Беларусі. Навагрудскі, Крэўскі, Лідскі і іншыя замкі летувісы, дайце веры, лічаць сваімі...

**КУР'ЁЗ ТЫДНЯ**

Праўленне грамадска-культурнага аб'яднання «Палессе» выступіла са зваротам да Вярхоўнага Савета Беларусі і сродкаў масавай інфармацыі, у якім прапануюцца ўнесці змены ў Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь»: прызнаць раўназначнымі дзяржаўнымі мовамі беларускую і рускую мовы, а ў мясцінах кампактнага пражывання заходніх палешукоў, летувісаў, палякаў, украінцаў і іншых народаў у якасці трэцяй афіцыйнай мовы — іх родныя мовы. У каторы раз, трапіўшы ў палон сваіх дробязных інтарэсаў, кіраўнікі «Палісся» здраджваюць інтарэсам Беларусі, і выдатна ведаючы сённяшнюю моўную сітуацыю ў рэспубліцы і паходжанне так званых «заходніх палешукоў», займаюцца ні больш ні менш блюзнерствам. Дарэчы, атакі на дзяржаўнасць беларускай мовы з боку інтэрнацыяналістаў, русафілаў і касмапалітаў становяцца ўсё больш настойлівымі. Славянскі Сабор «Белая Русь» збірае зараз подпісы пад патрабаваннем аб правядзенні рэферэндуму, які замацаваў бы двухмоўе, В.Кебіч на сустрэчы з вайскоўцамі ў Брэсце заявіў: «Я выступаю за равноправие двух языков — белорусского и русского. Нельзя лишать наших детей, внуков возможности учиться и разговаривать на великом русском языке...» Брава, Вячеслав Францевич!..

З НАГОДЫ

# ПРАЗ СЕМ ГАДОЎ...

Здавалася б, амаль усе жахлівыя вынікі чарнобыльскай катастрофы нам ужо вядомы. На самай справе гэта не так. І пераканацца ў гэтым мяне прымусілі мерапрыемствы, прысвечаныя сёмай гадавіне трагедыі і праведзеныя Дзяржкамчарнобылем, Беларускай дзяржтэлерадыёкампаніяй ды шэрагам грамадскіх арганізацый.

Сваю перадачу «Зямля гамоніць сполахам трывожным» БТ пачало з прамога ўключэння фрагмента тэлемарафона «Званы Чарнобыля» Украінскага ТВ. Уключэнне было цікавым, вядома, не таму, што гэта быў першы вопыт супрацоўніцтва з сумежнай дзяржавай. Цікавай, у першую чаргу, была інфармацыя, якую паведамілі гледачам міністр па пытаннях аховы насельніцтва ад вынікаў аварыі на ЧАЭС Украіны і адказныя асобы Чарнобыльскай станцыі. Цікавай і надзвычай трывожнай.

Вялікую небяспеку ўсё яшчэ ўяўляе сабою забруджаная зона, адкуль адбываецца міграцыя радыенуклідаў. Пагражальнае становішча склалася вакол, а дакладней пад саркафагам. Знутры ідзе разбурэнне яго канструкцый. І калі зараз гэты працэс яшчэ можна кантраляваць, то праз некалькі гадоў сітуацыя можа атрымаць непрадказальнае развіццё. У сувязі з гэтым урад Украіны аб'явіў конкурс сярод вучоных свету на лепшы праект экалагічна бяспечнага саркафага.

Разбурэнне ідзе не толькі ў жалезабетонных канструкцыях, але і ў арганізмах людзей, і перш за ўсё дзяцей. Жахлівы рэпартаж тэлежурналісткі Т.Ягоравай «Рэквіем па Сашу», што выйшаў у эфір у горшы дзень 26 красавіка, які ўжо раз нагадаў аб гэтым. Далёка не ўсе «людзі ў белых халатах» памятаюць клятву Гіпакрата. Спакойна бяруць яны на сваё сумленне смерць пакутлівых ад Чарнобыля дзетак, знаходзяць для апраўдання інструкцыі, загады, іншыя прычыны.

Не ўсё, праўда, залежыць ад урачоў: не хапае лекаў, апаратуры і г.д. У святле гэтага падзею, якая адбылася ў той жа дзень у Доме літаратара, пераацаніць цяжка. А адбылася там прэзентацыя новай дабрачыннай арганізацыі — Дзіцячага фонду духоўнага і інтэлектуальнага адраджэння «Сакавік». Утварэнню фонду, які асноўнымі сваімі мэтамі мае садзейнічанне ў арганізацыі аздараўлення дзяцей і падлеткаў Беларусі, а таксама іх духоўнае і інтэлектуальнае развіццё, выхаванне дзяцей у духу нацыянальнай культуры і агульначалавечых каштоўнасцяў, папярэднічала двухгадовая праца сумесна з Беларускім фондам дапамогі ахвярам радыяцыі ў Лондане. За гэты час наладжаны цесныя сувязі з паліклінікамі, бальніцамі, дзіцячымі дамамі ў Беларусі.

Старшыня дабрачыннага фонду «Сакавік» народны дэпутат Першамайскага райсавета сталіцы М.Міцкевіч упэўнена, што ўтварэннем фонду шмат каго пазбавіць ад бюракратычных перашкод у справе аздараўлення і развіцця дзяцей. Гарантыяй гэтага — і тыя людзі, што прыйшлі на вечарыну ў Дом літаратара: навукоўцы, грамадскія і культурныя дзеячы, народныя дэпутаты, прадстаўнікі дзяржаўных структур і дзелавых колаў.

Яўген ЛЮТЫ



*Курапаты... Сення гэтае слова зрабілася сімвалам. Сімвалам крывавых і бессэнсоўных злачынстваў таталітарнага рэжыму, які знішчыў сотні тысячаў жыццяў. Сімвалам варварства, калі нашчадкі закатаваных раскопваюць магілы ахвяр у пошуках залатых драбніц, што перажылі сваіх гаспадароў. Сімвалам пакаяння, якое не адбылося, бо адна частка грамадства парнейшаму імкнецца даказаць другой, што масавыя забойствы сталінскага часу — гэта міф, створаны іхнімі ідэйнымі ворагамі...*

*На Радаўніцу тут зноў сабраліся людзі. Гэтым разам — не дзеля таго, каб вырашаць свае спрэчкі. У гэты дзень беларускія святары — як каталіцкія, так і праваслаўныя — служылі тут імшу ў памяць усіх забітых і пахаваных тут у тыя страшныя гады. Людзей аб'ядпала вера. Можа, менавіта яна зробіць Курапаты сімвалам яднання?*

У.ПАНАДА

# ОЙ ЛЯЦЕЛІ ЖАВАРОНАЧКІ...

Запазнілася сёлета вясна і, цяпер, як адчуваючы за сабой гэтую пагрэшнасць, спяшаецца аддаць шчодрасць сонечных промняў. За некалькі дзён праклюнуліся пупышкі на дрэвах, порстка прабіваецца праз халодную яшчэ зямлю трава. І ад гэтага абнаўлення прыроды святлей робіцца на душы. Значыць, жыццё працягваецца, нягледзячы на палітычныя катаклізмы, не складаную эканамічную абстаноўку. Толькі ж вельмі нагадвае сёлетняя вясна тую, сямігадовай даўнасці, чарнобыльскую. Таксама яна няспешна надыходзіла, і таксама надзвычай шчодрай была перадмайская квецень. Асабліва тут, на Гомельшчыне...

У мінулую нядзелю ў Жыткавіцкім раёне святкавалі прыход вясны, вярталі з небыцця адзін з самых даўніх народных звычаяў — гуканне вясны. Здаецца, ніколі яшчэ раённы цэнтр не бачыў столькі ўзбуджаных, вясёлых людзей. Паўсюдна чуліся смех, жарты, гучалі песні яшчэ задоўга да афіцыйнага адкрыцця свята. Месца яно адбыцца ў ваколіцах горада, за кіламетры чатыры ад цэнтра. Па вуліцы, якая вяла туды, было ні прайсці, ні праехаць. Доўгім ланцугом цягнуліся фурманкі, у якіх — мужчыны, жанкі, моладзь у нацыянальных строях. За фурманкамі сотні людзей спяшаліся пехам. Здаецца, усе Жыткавічы зрушылі з месца. Клопату ў людзей вясною хапае, нездарма кажуць, што вясновы дзень год корміць, але ж — песня ў працы падмога. Адпачнеш крыху — бадзёрасці і настрою надоўга хопіць. Арганізатары ж свята /рэжысёр М.Макарцоў/ парупіліся, каб не проста адбылося масавае відовішча, а вярнуўся з даўніны сам дух абраду гукання вясны.

На месцы правядзення свята няма традыцыйнай сцэны. Замест звыклага насціцу з дошак — салома, разасланая па апоках і жэрдках. Такія саламяныя пляцоўкі — ажно тры, у розных месцах, каб адначасова маглі адбывацца некалькі канцэртаў.

Удзельнікаў жа — не злічыць. Ці не з кожнай вёскі сабраліся песні, танцоры. Хто прыехаў, а хто, паўтаруся, і прыйшоў, не адзін дзесятак кіламетраў наматаўшы адмераў. Прычына — зразумелая: з палівам нявыкрутка, раней непаслухмяным старшыням райком партыі загадаць мог, а цяпер... А цяпер знайшліся і такія старшыні, што проста ўдзельнікаў самадзейнасці на гуканне вясны не пусцілі.

Ды Бог ім суддзя — свята ўсё ж адбылося. І не па прынцыпу, а па душэўнай патрэбе. І тут чалавека нішто не спыніць, не тое што адлегласць. Наталля Балбуцкая, напрыклад, швачкай у Салігорску

У КАМІСІЯХ ВС БЕЛАРУСІ

# ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЕ — БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны прыняла пастанову «Аб ажыццяўленні Закона аб мовах у сістэме ВНУ рэспублікі /паводле матэрыялаў працы рабочай групы камісіі ў БДУ і некаторых іншых установах вышэйшай школы Беларусі/». Прадугледжана шэраг дадатковых мер аб выкананні Закона аб мовах.

У прыватнасці, працэс пераводу лекцыйных курсаў на беларускую мову рэкамендуецца абавязкова суправаджаць абнаўленнем праграмы і зместу самога курса. Стымуляваць яго, акрамя маральнага заахвочвання, і першачарговым выданнем падручнікаў, дапаможнікаў, слоўнікаў, метадычных матэрыялаў адпаведных аўтараў.

Прапануецца стварыць сетку бясплатных для слухачоў, у т. л. і абавязковых, курсаў для студэнтаў, аспірантаў, выкладчыкаў і навуковых работнікаў ВНУ для вывучэння беларускай мовы, гісторыі і культуры. Пасля заканчэння выдаваць адпаведныя пасведчанні, для выкладчыкаў — на права выкладання на беларускай мове. На базе гістфака БДУ стварыць курсы па гісторыі і культуры Беларусі для студэнтаў, выкладчыкаў і навуковых супрацоўнікаў усіх структурных адзінак ВНУ.

Звернута ўвага на неабходнасць арганізацыі міжведамаснага рэспубліканскага Тэрміналагічнага цэнтра для распрацоўкі навуковай беларускай тэрміналогіі з выдзяленнем з рэспубліканскага бюджэту мэтавага фінансавання. Зрабіць гэта ці на базе БДУ, ці на базе Акадэміі навук. Гаворыцца і аб мэтавым фінансаванні праграм навукова-даследчай дзейнасці на філалагічным факультэце, пра распрацоўку дзяржаўнай праграмы развіцця гуманітарных навук.

Указваецца на неабходнасць стварэння дзяржаўнай праграмы выдання падручнікаў, навукова-метадычнай і дапаможнай літаратуры для ВНУ, устанаўлення льготнага парадку прыёму ў ВНУ выпускнікоў сельскіх школ; правядзення «круглых сталоў» па абмеркаванні комплексу пытанняў, звязаных з ажыццяўленнем Закона аб мовах, і рэспубліканскай канферэнцыі /да верасня 1993 года/ навуковых работнікаў і выкладчыкаў ВНУ з мэтай абмеркавання стратэгіі арганізацыі навуковай дзейнасці і развіцця сістэмы адукацыі ў рэспубліцы.

Камісія рэкамендуе дзяржаўным сродкам масавай інфармацыі актыўна прапагандаваць станоўчы вопыт пераходу навучальна-выхаваўчага працэсу і навуковай дзейнасці ва ўстановах вышэйшай школы на беларускую мову, на беларускую нацыянальна-культурную аснову.

## БНФ РЫХТУЕЦЦА ДА З'ЕЗДА

25 красавіка адбыўся чарговы сойм Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». На парадку дня было адзінае пытанне: падрыхтоўка да III з'езда БНФ, які мае адбыцца 29-30 мая гэтага года ў Мінску. Былі абмеркаваны праграмныя палажэнні БНФ, якія выклаў намеснік старшыні сойма Ю.Хадыка. Асноўная думка, якая ўтрымліваецца ў палажэннях, — захаваць шырокі фронт партый дэмакратычнага напрамку ў БНФ. Больш дэталёвае абмеркаванне гэтых пытанняў даручана камісіі БНФ.

Сойм БНФ прыняў тэкст тэлеграмы, якая ў той жа дзень была адпраўлена прэзідэнту Расіі Б.Ельцыну: «Мы поддерживаем вашу борьбу с силами тоталитаризма и попытками реанимации коммунистической империи. Желаем демократической России полной победы за нашу и вашу свободу». Нагадаю, што ў гэты ж дзень у Расіі праходзіў рэферэндум аб даверы прэзідэнту і яго курсу рэформ.

І яшчэ адзін дакумент прыняў сойм БНФ — заяву па Чарнобылю.

**М.Б.**

## КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў БЕРАСЦІ

Год назад у Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны нечакана завіталі польскія калегі — кіраўнікі Фундацыі імя Анджэя Фрыча Маджэўскага прафесар Эдвард І. Палыга і доктар Войцех Агнежа. Тады ж было заключана паміж гэтымі дзвюма ўстановамі пагадненне пра навуковае супрацоўніцтва. І вось першае буйное сумеснае мерапрыемства — міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуска-польскае ўзаемадзеянне ў грамадска-палітычнай, культурнай і адукацыйнай сферах», арганізаванае пры непасрэднай дапамозе Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. Пушкіна і Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, пры ўдзеле Брэсцкага аддзялення Беларускага фонду культуры і Брэсцкага аддзялення Саюза палякаў Беларусі.

Навукоўцы з розных рэгіёнаў Беларусі і Польшчы сабраліся ў Берасці, на мяжы дзвюх дзяржаў, у гасцінных аўдыторыях мясцовага педінстытута. За два дні было заслухана і абмеркавана каля пяцідзесяці дакладаў па актуальных пытаннях беларуска-польскага ўзаемадзеяння, з якімі выступілі прафесары С. Александровіч, А. Баршчэўскі, Т. Дамбкоўскі, У. Калеснік, Г. Малажай, А. Мальдзіс, дацэнты М. Дабрынін, С. Кавалёў, Д. Караў, Г. Няфагіна і інш.

Своеасаблівым сюпрызам для польскіх гасцей з'явіліся тры даклады пра дзейнасць патрона іх Фундацыі А. Ф. Маджэўскага, адзін з якіх зрабіла наша зямлячка, дацэнт Марыйскага універсітэта /Йашкар-Ала/ В. Новік. На наступнай канферэнцыі, якая мае адбыцца праз год у Польшчы, польскія вучоныя выступяць з дакладамі пра патрона Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра -- першадрукара і асветніка Францішка Скарыну.

**Вячаслаў РАГОЙША**





## ПЕРАД РАЗВІТАННЕМ...

Папаўненне ў шэрагах кіраўнікоў самадзейных калектываў і фальклорных ансамбляў. Дыпломы спецыялістаў атрымалі яшчэ трыццаць выпускнікоў Мінскага інстытута культуры. Перад тым, як раз'ехацца па гарадах і сёлах рэспублікі, дзе ім прадстаіць працаваць на ніве адраджэння беларускай культуры, яны выступілі са справаздачай перад педагогамі і студэнтамі «альма-матэр».

*На здымках: фрагмент выступлення выпускнікоў інстытута;*

*выпускніца інстытута Маргарыта Шабуня — музработнік мінскага дзіцячага садка N 408.*

**Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА, БЕЛІНФАРМ**

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## ЗА АДРАДЖЭННЕ!

Гэтыя словы, блізкія сёння кожнаму свядомаму беларусу, вынесены эпіграфам да газеты «Народная трыбуна», якая выдаецца ў Брэсце. Выданне не новае, першы нумар «НТ» з'явіўся яшчэ ў канцы 1990 года, але тады газета выходзіла на рускай і беларускай мовах. Чытачы атрымалі роўна сто нумароў, калі выданне апынулася на мяжы закрыцця.

Пытанне аб далейшым лёсе «Народнай трыбуны» было пастаўлена на адной з сесій абласнога Савета. Да гонару народных выбраннікаў, яны з разуменнем паставіліся да патрэб выдання.

Ініцыятыва ж сыходзіла ад галоўнага рэдактара, дэпутата абласнога Савета Расціслава Пратасевіча. Ён жа выказаўся і за тое, каб «НТ» стала «абласной беларускай газетай». Шмат захадаў, каб дапамагчы газеце, зрабіў старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н.Гілевіч.

З сёлетняга года і выходзіць у Брэсце абласная беларуская газета «Народная трыбуна». На яе старонках асабліва вялікая ўвага ўдзяляецца пытанням нацыянальнага адраджэння. І невыпадкова, Брэстчына ж — рэгіён, дзе сутыкаюцца межы трох славянскіх народаў — беларусаў, украінцаў і палякаў. Каму ж, як не «НТ», стаць голасам адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Дарэчы, на гэтых аспектах засяродзіў увагу ва ўступным слове «У добры час!», змешчаным у першым нумары новай «Народнай трыбуны», Уладзімір Калеснік.

І яшчэ аб адным хацелася б сказаць. Цяпер, калі пачалася падпіска на перыядычныя выданні на другое паўгоддзе, на дапамогу «НТ» прыйшлі сувязісты Брэстчыны. Распаўсюджваць газету яны будуць па самых мінімальных расцэнках, а ў выніку падпіска на «НТ» будзе каштаваць куды менш, чым на іншыя выданні.

**Н.К.**

РЭПЛІКА

## ЗА ІДЭАЛЫ ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ...

Усе мы ведаем, як абражаюцца сучасныя камуністычныя лідэры, калі ім нагадваюць, што іх рух у асноўным «ветэранска-пенсіянерскі». У нас вельмі многа моладзі, пярэчаць яны, спрабуючы падкрэсліць перспектыўнасць ідэй камунізму. Але ж ці так гэта? Лічбы, што трапілі мне ў рукі, пераконваюць у зваротным.

Не так даўно маскоўскія газеты надрукавалі інфармацыйнае паведамленне аб адмове расійскага ўрада фінансаваць ленінскі маўзалей. Натуральна, што такое рашэнне ўрада суседняй дзяржавы знайшло, як пісалі раней, «гарачы водгук у сэрцах» пэўнай катэгорыі жыхароў Мінска. Пачаўся збор сродкаў на падтрымку саркафага з муміяй правадыра сусветнага пралетарыяту. Хто ж тыя людзі, што не пашкадавалі грошай на свайго ідала?

Ды ўсе яны — пенсіянеры і ветэраны Узброеных Сіл. Так, толькі ў Першамайскім раёне сталіцы яны сабралі амаль 36 тыс. рублёў. Ветэраны з ЖЭС-110 перадалі старшыні сваёй арганізацыі Н.Лrevановічу 8920 рублёў. Яшчэ 7 тысяч дакляравалі сваім калегам — вучоным маўзалейнай групы — ветэраны Акадэміі навук Беларусі. Можна было б і далей пералічваць сумы, сабраныя ў розных раёнах і ўстановах беларускай сталіцы, але грошай эфемернай «камуністычна настроенай моладзі» там амаль што няма.

Асабіста ў мяне з гэтай нагоды ўзнікае, як мінімум, два пытанні. Першае. А ці так ужо вабіць новае пакаленне «сацыялістычны» выбар, як нам спрабуюць даказаць новыя партбосы? І другое: не такія ўжо, мабыць, і благія ў нас пенсіі?

**Я.ЛЮТЫ**

працуе. Ад роднага Запясочча не так і блізка. Асабліва па сённяшніх мерках, калі дарога ў капейчыну абыходзіцца. Ды не думае пра гэта Н.Балбуцкая, рэгулярна прыязджае на рэпетыцыі фальклорнага гурту, што так і называецца «Запясочча». А што ўжо казаць пра розныя святы?! Хіба ўседзіш тады ў горадзе, душа ж ірвецца да родных ваколіц. Падалей ад тлуму, бліжэй да нерушу.

Неруш... Цяжка знайсці сёння на Беларусі мясціны, якія б не накрыў сваім чорным крылом Чарнобыль. Жыткавіцкі раён у гэтым сэнсе — не выключэнне. Нездарма старшыня раённага Савета народных дэпутатаў, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь А.Сцепаненка, адкрываючы свята, нагадаў пра гэта. Але гаварыў ён і пра тое, што агульная бяда яшчэ болей зблізіла, згуртавала людзей. І тыя шэраг народных святаў, гулянняў, што прайшлі менавіта ў пасьлячарнобыльскія гады, засведчылі — жыве ў людзей цяга да прыгожага. Цяпер жа, калі пачалося адраджэнне, як ніколі раней ёсць патрэба ў вяртанні да вытокаў.

Ды і як жа інакш! «Наўрад ці знойдзеш народ больш тэатральны, чым беларускі, — сказаў галоўны рэдактар часопіса «Тэатральная Беларусь», доктар мастацтвазнаўства А.Сабалеўскі. — Элементы тэатральнасці спадарожнічаюць чалавеку літаральна праз усё жыццё. Адсюль і такая цікавасць да масавых гулянняў». Добрай сяўбы і багатага ўраджаю пажадаў ён і артыстам, і ўсім удзельнікам свята, маючы на ўвазе, вядома ж, і сяўбу духоўную.

Пра духоўнае гаварыў і айцец Канстанцін, настаяцель Свята-Троіцкай царквы. З вуснаў святара прагучалі радкі верша Н.Арсенневай «Малітва»:

Магутны Божа! Уладар сусветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменне Свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласць дай!

Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ!

«Хрыстос уваскрос!» — тройчы прамовіў айцец Канстанцін і тройчы адказалі дружным хорам удзельнікі і госці свята. А пасля гэтага на кожным з трох насцілаў загучалі народныя мелодыі. Спяваў, весяліўся народ. Душа адпачывала ад доўгай зімы.

І паплылі на доўгіх жэрдках проста ў людскі натоўп жаваронкі, трымаючы ў сваіх дзюбках... нумары часопіса «Тэатральная Беларусь». Заўсміхаліся людзі, бо ўжо ведалі, што да гукання вясны прымеркавана і прэзентацыя гэтага выдання.

Супрацоўнікі рэдакцыі прывезлі нумары, якія выйшлі раней, у тым ліку і сігнальны экземпляр свежага, трэцяга за сёлетні год. Маўляў, калі ласка, чытайце, знаёмцеся. А захочаце стаць сябрам «ТБ» надоўга — таксама няма праблемы, на часопіс можна было падпісацца тут жа, на свяце.

Не лішнім нагадаць, што гуканне вясны ў Жыткавіцкім раёне стала свайго роду завяршэннем іншага, не менш важнага свята: з 23 па 25 красавіка ў Мазыры праходзіў фестываль самадзейных народных тэатраў, прысвечаны памяці выдатнага беларускага драматурга Андрэя Макаёнка. Сабраліся праслаўленыя калектывы не толькі з Гомельшчыны, а і з Краснаполля, Слуцка, Горадні, іншых гарадоў Беларусі.

Наколькі цяжка зрабіць гэта сёння, калі камерцыялізацыя закранула і культуру, калі перастаюць існаваць многія калектывы, зачыняюцца клубы, бібліятэкі, кожнаму вядома. А вось тое, што культура, фальклор, калі да іх ставіцца па-сапраўднаму, змогуць выжыць, нагадаць яшчэ раз не лішне.

Дарэчы, гэта яскрава пацвердзіла свята ў Жыткавіцкім раёне.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт «ЛіМа»**

СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

# І НЯМА КАНЦА ПЫТАННЯМ...

## З нагоды аднаго эсэ

Чытаць Валянціна Акудовіча заўсёды па-свойму цікава. На філасофскім турніку ён пачувае сябе ўпэўнена і таму чытацкай аўдыторыяй успрымаецца як добраспрактыкаваны майстра. Але пачнём наш артыкул, выкліканы эсэ «Літаратура ў краіне Сакрэту» /«ЛіМ», N 1, 1993 г./, словамі з названага твора: «Гульня ў сістэматызацыю — бясконцая і блытаная, як лабірынты цара Мідаса. Таму адразу заўважым, што гэты падзел па прыналежнасцях да пануючых сення /на маю выдумку/ тэндэнцый і адвольны, і ўмоўны, і, урэшце, не надта сур'ёзны, нягледзячы на ўсю навукападобнасць лексікі і стылёвую фанафарыстасць». Адкінем убок аўтарскае нібыта самаганьбаванне, зразумела, лёгкае, хутчэй — какетлівасць, і далучымся да яго гаворкі /дзе ў пярэчанні, а дзе ў суладзе/ пра ўсіх насельнікаў краіны Сакрэту, пра іх страчаныя ці часам нявыяўленыя іншымі патэнцыялы.

Гаворачы пра духоўную дамінанту беларусаў, мы не збіраемся ўсяго толькі абазвацца; наадварот, мы сцвярджаем, што яна, дамінанта гэта, ёсць і што яна — даволі-такі ўстойлівая, калі, вядома, культуралагічны сэнс не будзем успрымаць вузка. Культура — панянцце аб'ёмістае. Гэта не толькі кнігі ў нашай мове ці яшчэ што накшталт кніг. Культура — гэта і адносіны да працы, да яе прылад і вынікаў, гэта стаўленне да суседзяў, гэта, калі хочаце, і ступень патаемнасці душы і да т. п. З усіх названых і безлічы неназваных вектараў складаецца дамінанта і беларускай душы. Сярод тых, хто вельмі ўдала яе апісаў, — Аркадзь Смоліч, наш выдатны навукоўвец і дзяржаўны дзеяч.

Цяпер пра тое, як літаратары «чэрпаюць жменькай з роднай культуры і п'юць нагбом з культур другіх». Гэта тычыцца не толькі беларускіх літаратараў. Вунь у адказе на пытанне, што такое руская літаратура, адзін з яе яркіх прадстаўнікоў — А. А. Бястужаў /Марлінскі/ у свой час пісаў: «Литература наша — сетка На ловлю иноземных рыб; Чужих яиц она наседка; То ранний плод, то поздний гриб; Чужой хандры, чужого смеха Всеповторяющее эхо!». Таму нічога дзіўнага, калі часам і ў нас пры нашых, здавалася б, «сэнсах цьмяных, рысах няўстойлівых» можна перайманць не толькі ідзі, а і гатовыя творы запазычваць, гэта значыць, што нашы аўтары ў іншай літаратуры часам прадстаўляліся як свае. Такое здарылася з «На імперыялістычнай вайне» непаўторнага і непараўнальнага Максіма Гарэцкага, адным з лепшых твораў у сусветнай літаратуры аб першай сусветнай вайне і аб страчаным пакаленні, калі яго /твор гэты/ уключылі ў анталогію рускага ваеннага апавядання XIX — пачатку XX стст. і выдалі ў 1988 г. у выдавецтве «Правда» ў Маскве. /Аб гэтым у свой час пісалася ў «ЛіМе»/. Такое назіраецца ў любых сумежных /і не толькі/ літаратурах.

Мода пайшла цытаваць забароненых ці напаўзабароненых да нядаўняга часу аўтараў. Сярод іх: М. Бярдзяеў, Л. Шастоў, В. Розанаў і іншыя /бліжэйшае замежжа/ А. Шапенгаўэр, Ф. Ніцшэ, З. Фрэйд і іншыя / дальняе замежжа/. З пералічаных мысліцеляў у эсэ В. Акудовіча прысутнічае толькі В. Розанаў і толькі тым, што згадваецца з нагоды, каб праілюстраваць супрацьпастаўленне паміж нацыяналізмам як «экзістэнцыяльнай бясконцасці духоўнай ідзяй і нацыянал-патрыятычнымі эмоцыямі». Дык вось, прадстаўніком першай іпастасі тут з волі В. Акудовіча ідзе В. Розанаў, а другой — маскоўскі рамізнік, які гатовы сваёй рукой выдзерці пэйсы ўсім жыдам, колькі іх ёсць на белым свеце. Але давайце паслухаем да самага канца і самога В. Розанава: «...я постоянно ругаю русских. Даже почти только и делаю, что ругаю их. «Пренесносный Щедрин». Но почему я ненавижу всякого, кто тоже их ругает?». Гэта з «Уединенного». А вось зноў жа адтуль, але пад нагоду, калі мы пачнём надта ім захапляцца і выстаўляць яго ў якасці ўзору і прыкладу: «Если кто будет говорить мне похвальное слово «над раскрытою могилою», то я вылезу из гроба и дам пощечину». Нельга не ўстрымацца /хай і нам будзе аплявуха/, каб яшчэ не працытаваць рускага Ніцшэ — так звалі В. Розанава яго сучаснікі — аб ролі і значэнні літаратуры: «Литература вся праздноcловие... Почти вся... Исключений убийственно мало», «Литература как орел взлетела в небеса. И падает мертвая. Теперь уже совершенно ясно, что она не есть «взыскуемый невидимый град». Гэта ўсё да таго, ці не надта мы перабольшваем ролю літаратуры, а тым больш часам нязначных у ёй дзеячаў, заносячы іх у катэгорыі «звыш», «супер» і г. д.

Распавядаючы пра спрадвечнае, праз вякі працяглае існаванне сяброў ордэна беларусаў, пра іх містычную, мройлівую зацятасць, патыхаючую панылым ірацыяналізмам, аўтар, відаць, несвядома не абцяжарвае сябе жаданнем агледзецца наўкол, каб паглядзець на той выхаваўчы эфект прадстаўнікоў літаратуры нашага вялікага суседа, якія працавалі адкрыта, нават пад жаданне з боку грамадства, паглыбляючыся ў яго духоўныя нетры. А эфект такі: пачынаючы з першых крокаў XX ст. /трэба думаць, і раней/, грамадства, за невялікім выключэннем, не звярнула ўвагі ні на рэлігійныя пошукі Ф. Дастаеўскага, ні на маральныя пропаведзі Л. Талстога, ні на памкненні іншых апосталаў духоўнасці Расіі, — а неслася стрымгалоў на разбурэнне ўласнага дома, уласнай душы. Прыклады? Зруйнаванне храма Хрыста Збавіцеля, нараджэнне і дзейнасць сістэмы ГУЛАГа і г. д. Развах кванні пра тое, што гэта чужынцы натварылі з мясцовым добрым людам, на сённяшні дзень сур'ёзна ўспрымацца не могуць. Перад намі сітуацыя, калі не супадаюць кніжны і жыццёвы кантэксты. І ці не трапляюць такім чынам усе выдатныя пісьменнікі і паэты ў пэўны ордэн кантэкставікоў? Пытанне. І не адно. І канца ім няма, як няма канца і адказам на іх. Але не будзем спяшацца.

Апошнім часам даволі часта можна пачуць амаль назойлівае, што А. Міцкевіч, Ф. Дастаеўскі паходзяць з беларусаў. Так то яно так, але давайце не толькі цягнуць за вушы, а і ў душу заглянем аб'ектам нашага пакланення. І вось таму на ўсялякія агаворкі, што, каб некаторыя класікі сусветнай літаратур і культур жылі ў другі час, яны, безумоўна, належалі б нам, хочацца запярэчыць: «А хто сказаў, што А. Міцкевіч, Ф. Дастаеўскі і іншыя ў сваёй творчасці не заставаліся беларусамі?» /Вядома, у пэўнай ступені, але, можа, таму яны, глынуўшы нагбом з беларускае душы і жыцця пры сваім патэнцыяле намнога пераўзышлі стыхію польскай і расійскай ментальнасці/. У Ж. Рэнара ўяго «Дзённіку» ёсць такая думка, што калі салаўю баліць ад страты чагось неабходнага для паўнацэннага жыцця, напрыклад, зроку, тады яго прыгожая песня робіцца надзвычай чароўнай. Можа, якраз нечым падобная сітуацыя /ганенні за любоў да Радзімы/ і вадзіла рукой А. Міцкевіча, калі ён у «Пане Тадэвушы» стажкі сена на Беларусі — на Навагрудчыне, а не ў карэннай Польшчы, — параўноўвае з зоркамі ў небе... А ў «Крымскіх санетах» паэт чуе, як дома на Літве /на Беларусі/ расце трава... Ці не праз беларускія чарадзейныя казкі — самыя старажытныя сярод вялікіх форм фальклору — перадалася яму гэта здольнасць? У казцы падаецца так: «От так прылажы вуха к траве, дык і чуваць, як яна расце». Такіх мясцін на старонках творчасці А. Міцкевіча — нямала. Што ж тычыцца яго беларускамоўных вершаў, то адзін з іх, што нейк быў надрукаваны ў беластоцкай «Ніве» колькі год назад, — проста цуд. Не будзем каменціраваць яго, але адзначым, што так сказаць мог толькі сапраўдны шчыры беларус. Вось гэты верш-двухрадкоўе:

> «На Божым судзе
> Усім ў ж..у будзе».

А ці задумваліся мы над тым, колькі беларускага стогну прысутнічае на старонках твораў Ф. Дастаеўскага? Звернем увагу на тое, што сярод рознай інфармацыі аб беларускім паходжанні класіка сусветнай літаратуры нейк мала /прынамсі — у нас/ звернута ўвагі на кнізе дачкі пісьменніка Л. Дастаеўскай «Достоевский в изображении его дочери», кнігі, якая выйшла ў пачатку стагоддзя ў Германіі на нямецкай мове. У скарочаным варыянце кніга ў 1924 г. выдадзена ў Расіі. Там знаходзім паведамленне, што Ф. Дастаеўскі пастаянна падкрэсліваў сваё нармана-літоўскае паходжанне. Не менш цікавым бачыцца і тое, што многія героі Ф. Дастаеўскага, напрыклад, Мармеладаў, гэты «жорстка няшчасны» чалавек /«Преступление и наказание»/, з нейкім надрывам наўкол цвердзяць, што яны, маўляў, рускія. Што ж іх, здавалася б, рускіх, ды яшчэ ў Расіі прымушае гэта рабіць? А, можа, тут ёсць падсвядомая трансфармацыя-рэінкарнацыя душы пісьменніка (беларускай яе часткі) у вобразы аб'ектаў апісання? І мы назіраем працэс вырачэння беларускасці, працэс успамінаў яе, шкадавання і г. д. Хто ведае, можа, тут жа і адна з прычын наяўнасці падполля ў свядомасці пісьменніка і персанажаў яго кніг.

Нельга таксама не звярнуць увагі на праблему беларуска-польскіх адносін (на ўзроўні этнасаў), калі беларусам трэба было выстаяць праз вякі і яны выстаялі — не апалячыліся. Будучы канфесійным праваслаўным, можа, нават крыху звыш меры, Ф. Дастаеўскі ніколі не атаясамліваў рускіх і праваслаўных беларусаў, як гэта рабілі многія да яго, пры ім і пасля яго. Дададзім, што Ф. Дастаеўскі сваімі каранямі паходзіў таксама і з Арды, пра што сведчаць і яго цёплыя адносіны да татар у «Записках из мертвого дома». Яго ўсёчалавечнасць відна там і ў адносінах да яўрэяў. А таго «жыдажэрства», пра якое любяць гаварыць рознага рангу камента-тары-шавіністы, у яго мы не знойдзем нават у самым вострым на яўрэйскую тэму артыкуле «Еврейский вопрос» («Дневник писателя, 1877»)...

Адносна беларускага нацыяналізму. Калі ён ёсць, то гэта крык раба аб свабодзе; ён у нас — абаронны, а не знішчальны ў чый бы там ні было бок; ён у нас — праддэмакратычны. З беларускім нацыяналізмам можа існаваць сапраўды дэмакратычнае грамадства.

Пазбягаючы ўсялякай спробы кваліфікаваць любую праяву жыцця пакантэкстна, тым больш акрэсліваць кожнаму таму кантэксту пэўную жыццёвую плошчу, на нашу думку, сапраўдныя кантэксты не маюць берагоў. І таму, калі творы — шэдэўры, хай то будзе, к прыкладу, хоць адзін верш («Зайграй, зайграй, хлопча малы...» П.Багрыма/, аб'ёмная палітра музычных твораў /«Люблю наш край...», «Магутны Божа...» і г. д. М. Равенскага/, амаль увесь М. Гарэцкі, Я. Драздовіч, нейкая частка творчасці М. Агінскага, С. Манюшкі, У. Сыракомлі, В. Ваньковіча, В. Бялыніцкага-Бірулі і многіх іншых, насычаных беларушчынай, — яны ёсць і сам кантэкст і звышкантэкст адначасова, яны здольны і распаліць і суцішыць боль. Можна запярэчыць, што сення не асабліва імі цікавяцца, не надта чытаюць іх, не вельмі слухаюць, не вельмі глядзяць. Так, а хіба ў нашым, здавалася б, хрысціянскім свеце чытаюць Новы запавет? А калі чытаюць — дык без карысці ў асноўным гэта чытанне. Відаць, яшчэ не прыйшоў час збіраць камяні...

Улічваючы, што на Беларусі створана нямала сапраўдных духоўных каштоўнасцей, давайце не займацца бясплодным, больш таго — знішчальным самаганьбаваннем і тут жа ўзводзіць у ранг стваральнікаў непаўторнасцей тых, хто нічога асаблівага яшчэ пакуль не стварыў.

**Яўген ГУЧОК**

# І ДУХ, І ЛІТАРУ ЗАКОНА

*Пастанова III з'езда ТБМ імя Ф.Скарыны*

У мінулым нумары мы коратка паведамілі пра вынікі III з'езда ТБМ імя Ф.Скарыны. Неўзабаве рэдакцыя атрымала дапрацаваны тэкст пастановы з'езда, што цалкам змешчаны ў газеце «Наша Слова» /N 14, 1993 г./. Дакумент варты ўвагі хаця б з тае прычыны, што таварыства ад пачатку свайго заснавання як ніхто іншы апякуецца выкананнем Закона аб мовах і гэтае пытанне ўвесь час з'яўлялася галоўным у яго дзейнасці. Не стаў выключэннем і чарговы, трэці з'езд ТБМ.

У прэамбуле пастановы адзначаецца, што органы палітычнай улады ў большай частцы не выканалі сваіх абавязкаў па ажыццяўленні Закона аб мовах, і што нават «некаторыя дзяржаўныя структуры» /?/ праводзяць у галіне моўна-культурнага будаўніцтва антынацыянальную палітыку»; што «шэраг адказных работнікаў органаў дзяржаўнага кіравання, гаспадарча-вытворчых структур, прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў, асобныя групы грамадзян /?/ працягваюць беспакарана парушаць моўна-культурнае заканадаўства...». Далей канстатуецца, што заканадаўства ў галіне культуры, распрацаванае за апошнія гады, у тым ліку і Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, законы аб мовах, аб адукацыі, аб культуры і інш., — «не сталі абавязковымі для ўсіх дзяржаўных службоўцаў».

Што ж, канстатацыі ўвогуле слушныя, апрόч хіба бяздраснасці папрокаў у сімуляцыі пэўных законаў, у прыватнасці, Закона аб мовах. Незразумелы таксама і першы пункт пастановы аб патрабаванні «прызнаць неканстытуцыйнымі тыя дзеянні Вярхоўнага Савета, урада і іншых органаў дзяржаўнага кіравання рэспублікі, якія пярэчаць нацыянальным інтарэсам народа Беларусі і прыніжаюць ролю дзяржаўнай мовы ў грамадзянскім жыцці». Зноў жа: **хто** можа вынесці такое прызнанне ў неканстытуцыйнасці? Сам Вярхоўны Савет?

Разам з тым, у пастанове ёсць два змястоўныя і, на нашу думку, вельмі важныя пункты, што пэўным чынам кампенсуюць некаторую рытарычнасць цытаванай часткі пастановы. Па-першае, з'езд ТБМ выказаў пратэст у сувязі з недастаткова актыўным ажыццяўленнем артыкулаў 27 /мова ў сферы навукі/, 28 /мова ў сферы культуры/, 29 /мова сродкаў масавай інфармацыі/, 31 /мова аб'яў і паведамленняў/, 32 /мова маркіроўкі тавараў/ Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, якім вызначаны трохгадовы тэрмін выканання /да 1 верасня 1993 г./, а таксама артыкулаў 4 / абавязак службовых асоб валодаць беларускай мовай/, 7 /мова актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання/ і 12 /мова з'ездаў, канферэнцый і іншых форумаў/, якія павінны цалкам уступіць у сілу ў тэрмін 3-5 гадоў, пачынаючы ад 1 верасня 1990 года; з'езд запатрабаваў няўхільнага выканання артыкулаў 8 /мова справаводства і дакументацыі/, 14 /мова ў сферы абслугоўвання/ і 23 /»мова выхавання ў дзіцячых дашкольных установах/, час на рэалізацыю якіх вычарпаны напалову, а таксама артыкула 21 /мова міжнародных дагавораў і пагадненняў/, які ўведзены ў дзеянне з 1 верасня 1990 года. Думаецца, гэты пералік будзе чымсьці карысным адпаведным службам Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, што наглядаюць за дзяржаўным будаўніцтвам.

Па-другое, прапанавана Прэзідыуму Вярхоўнага Савета разгледзець пытанне аб стварэнні Камісіі па ажыццяўленні адзінай моўнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь. Як на добры лад, то падобную камісію трэба было б стварыць значна раней, як, напрыклад, Камісія па выкарыстанні дзяржаўных сімвалаў, каб яна была правадніком дзяржаўнай палітыкі ў сферы моўна-культурнага будаўніцтва. Дагэтуль жа Закон аб мовах існаваў сам па сабе і, відаць, якраз таму і не выконваецца як след. Само таварыства гатова арганізаваць для пачатку адмысловую службу дзеля дапамогі дзяржаўным органам у правядзенні адзінай моўнай палітыкі.

**Ю.Л.**

*13 студзеня 1593 г. у Вішневе, што на паўночны захад ад Валожына, памёр Сымон Будны — чалавек шматграннага таленту, яркая і неардынарная асоба беларускай культуры другой паловы XVI ст. Як сведчаць крыніцы, паміраў ён цяжка, у пакутах, і яго апаненты са злараднасцю гаварылі, што гэта яму пакаранне за вялікія грахі, за тое, што не верыў ні ў Бога, ні ў Ісуса Хрыста. Але ж гэта было не так.*
*Сымон Будны шчыра верыў у Бога, верыў ён і ў Ісуса Хрыста, аднак не як у Сына Божага, а вялікага і высокамаральнага чалавека, жыццё якога з'яўляецца ўзорам для ўсіх і кожнага, за што яму і была нададзена боская годнасць. Вера С.Буднага супярэчыла праваслаўным, каталіцкім і нават пратэстанцкім канонам і догмам, таму для гэтых канфесій ён быў ерэтыком.*

# СЫМОН БУДНЫ І БЕЛАРУСКІ МЕНТАЛІТЭТ

## Да 400-годдзя з дня смерці вялікага асветніка

Аднак, калі на гэта паглядзець больш шырока, не толькі з канфесійна-рэлігійнага, але і з культуралагічна-філасофскага пункту гледжання, то тут мы можам убачыць не індывідуальны канфлікт чалавека з афіцыйнай царкоўнай установай, пануючым веравучэннем, а супярэчнасць эпохі, адвечны канфлікт, які, па розных прычынах, абвастрыўся ў эпоху еўрапейскага Адраджэння. Я маю на ўвазе глабальную спрэчку, якая ў гэты час адрадзілася з новай сілай, паміж верай і чалавечым розумам, тэалогіяй і філасофіяй, навукай і рэлігіяй, дагматызмам і скептыцызмам, свабоднай думкай і патрабаваннем не выходзіць за межы рэлігійнага канона. Сам не жадаючы таго, у пошуках рэлігійнай, маральнай і іншай ісціны С.Будны сышоў са шляху тэалогіі і стаў на небяспечны шлях свабоднай філасофіі. Як вядома, канфлікт гэты не быў вырашаны ні ў XVII, ні ў XVIII, ні ў XIX стагоддзях, ён не вырашаны і ў наш час і хутчэй за ўсё не будзе вырашаны ніколі. Вядома таксама, што гэты канфлікт суправаджаўся гвалтам, крывёю, ахвярамі і з аднаго, і з другога боку. У той жа час лепшыя розумы вынайшлі адзіна магчымы спосаб ідэйнага суіснавання: узаемная цярпімасць, талерантнасць.

Вялікая культурна-гістарычная заслуга С.Буднага заключаецца ў тым, што ён адным з першых у еўрапейскай культуры, разам з Эразмам Ратэрдамскім, Мішэлем Мантэнем, Анджэем Фрычам Маджэўскім, Янам Замойскім, Львом Сапегам, Мялеціем Смятрыцкім і іншымі абвясціў духоўную свабоду, рэлігійную талерантнасць ментальнасцямі цывілізаванага грамадства. Але ж тое, што зрабіў С.Будны, ён мог зрабіць толькі ва ўмовах, якія спрыялі творчай дзейнасці. Менавіта такія ўмовы існавалі ў Беларусі ў другой палове XVI стагоддзя.

Жыццё, а тым больш творчасць С.Буднага немагчыма зразумець без адэкватнага ўяўлення пра беларускі менталітэт эпохі Адраджэння, пра характэрныя рысы і спецыфіку развіцця духоўнай культуры Беларусі XVI — пачатку XVII ст. Паспрабую акрэсліць толькі некаторыя, асобныя моманты гэтай праблемы.

Перш за ўсё выкажу некаторыя меркаванні наконт пытання: што ўяўляла сабою Беларусь у той час — Усход ці Захад, а больш канкрэтна — да якога тыпу належыць духоўная культура Беларусі часоў С.Буднага: усходняга ці заходняга?

Адказаць на гэтае пытанне не так проста, як здаецца. Бо найперш трэба высветліць, які змест мы ўкладваем у паняцце «Усход» і «Захад», маючы на ўвазе, што «Усход» і «Захад» — гэта не геаграфічныя, а культурна-тыпалагічныя, цывілізацыйныя паняцці. Так што, як гэта ні парадаксальна, «Усход» можа быць на Захадзе і «Захад» на Усходзе. Дык што ўяўляе сабою духоўная культура Беларусі XVI — пачатку XVII ст., — культура часоў Сымона Буднага? Гістарычныя факты і існуючыя даследаванні даюць падставу трактаваць беларускі менталітэт гэтага часу і як «Захад», і як «Усход», і як сінтэз «Захаду» і «Усходу». Каб падрабязна не тлумачыць што ёсць сінтэз «Захаду» і «Усходу», спашлюся на асобу С.Полацкага. У цэлым жа я схіляюся да думкі, што беларускі менталітэт XVI і нават XVII стагоддзяў — гэта пераважна «Захад» /у ім прысутнічаюць і ўсходнія элементы, але ж ўсё-такі заходнія — дамінуюць/.

Не прэтэндуючы на вычарпальны аналіз, паспрабую вызначыць некаторыя ментальнасці заходняга тыпу культуры на Беларусі. Адначасова адзначу асобныя, супрацьлеглыя ім ментальнасці, характэрныя для духоўнага, рэлігійнага, палітычнага жыцця «Усходу».

Бясспрэчна, што ментальнасці залежалі ад характару сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця беларускага народа ў XVI-XVIII стст. Тагачасным беларусам уласцівыя тыповыя заходнія, раннебуржуазныя рысы. Гэта — развітое гарадское жыццё з цэхавай сістэмай, вечавымі традыцыямі і магдэбургскім правам, што ў свой час адзначаў Максім Багдановіч, і чаго, у прыватнасці, не было на еўрапейскім Усходзе /за выключэннем блізкіх да Беларусі Ноўгарада Вялікага і Пскова/. Гэта прадстаўнічая палітычная сістэма з соймамі і соймікамі, з прававымі актамі, прывілеямі і статутамі, якія абмяжоўваюць вялікакняскую ўладу і падпарадкоўваюць яе і ўсё грамадства закону. Гэта — развітая шматканфесійная сістэма адукацыі /праваслаўныя брацкія, пратэстанцкія і каталіцкія школы/, магчымасць пры наяўнасці сродкаў і здольнасці атрымліваць адукацыю ў замежных універсітэтах /права выезду за мяжу жыхароў усіх станаў ВКЛ было афіцыйна зафіксавана Статутам 1566 г./. Так, у сваім лісце да Івана IV А.Курбскі пісаў, што ў адрозненне ад Маскоўскай дзяржавы ў ВКЛ «обретаются» людзі вельмі вопытныя не толькі «в грамматических и риторских, но и в диалектических и философских учениях». Гэта — шырока распаўсюджанае ў ВКЛ кнігадрукаванне на беларускай, царкоўнаславянскай, лацінскай, польскай мовах, што было немагчымым на таталітарным Усходзе /друкарні існавалі ў Берасці, Вільні, Нясвіжы, Заблудаве, Лоску, Любчы, Менску, Магілёве, Слуцку і інш./. Гэта — існуючыя ў ВКЛ зборы старажытных рукапісаў і кніг, бібліятэкі, якія належалі як царквам, касцёлам, манастырам, школам, так і прыватным асобам. Напрыклад, знакамітая, выяўленая ўпершыню Г.Галенчанкам, прыватная бібліятэка С.Рысінскага. Гэта таксама вялікая колькасць замежных і айчынных выданняў антычных аўтараў, еўрапейскіх гуманістаў і рэфарматараў. /На Усход, у Масковію—Расію, усё гэта трапляе толькі ў пятроўскую і пасляпятроўскую эпоху/. Гэта — немагчымы ва ўмовах Маскоўскай дзяржавы і тыповы для ВКЛ плюралізм царкоўна-рэлігійнага жыцця, існаванне тут побач з традыцыйным праваслаўем каталіцызму, ісламу, юдаізму, адносна свабоднае распаўсюджанне розных пратэстанцкіх плыняў /лютэранства, кальвінізм, евангельска-рэфармацкая вера, арыянства і іншыя ерэтычныя з пункту гледжання праваслаўя і каталіцтва рэлігійна-філасофскія вучэнні/. Трэба адзначыць таксама, што само заходняе праваслаўе не было ідэалагічна аднародным. Яно зазнавала ўплыў Рэфармацыі, гуманізму. Існавала фундаменталісцкая, маскоўская плынь і рэфармісцкая /дзеячы Супрасльскага, Астрожскага культурных цэнтраў, Лаўрэнці Зізаній і інш./. Пазаканфесійнай, хрысціянска-гуманістычнай з'яўлялася, як вядома, дзейнасць Францыска Скарыны. Гэта, далей, росквіт магнацка-шляхецкага, у меншай ступені бюргерскага, мецэната. Гэта — асабістыя кантакты беларускіх дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, прыватных асоб з вядомымі рэлігійнымі дзеячамі, пісьменнікамі, філосафамі і да т.п.

Дык якія ж ментальнасці характэрны для беларускай культуры XVI — пачатку XVII ст.?

Калі ўсходняму культурнаму комплексу ўласцівы манапалізм духоўнага жыцця /адзіная рэлігія, адзіная ідэалогія, канфесійная і інтэлектуальная нецярпімасць і да т.п./, то характэрнай рысай заходняга тыпу духоўнай культуры і ў прыватнасці духоўнай культуры ВКЛ XVI -- пач. XVII ст. з'яўляецца плюралізм — шматканфесійнасць, рэлігійная, інтэлектуальная цярпімасць, нават да ерэтыкоў і атэістаў. Вядома, і першая, і другая тэндэнцыі прысутнічаюць і на «Усходзе», і на «Захадзе», але ўсё ж ва ўсходняй культуры дамінуе манапалізм, а ў заходняй — плюралізм.

Наступныя амбівалентныя ментальнасці — гэта свабода і несвабода ў сваіх шматлікіх праявах. У культурах заходняга тыпу, у тым ліку і духоўнай культуры ВКЛ часоў С.Буднага, дамінуючай тэндэнцыяй выступае свабода. У культурных комплексах «Усходу», а да такіх у той час належала Руская дзяржава /пакуль Пётр Вялікі не адчыніў «акно ў Еўропу»/, дамінуе тэндэнцыя несвабоды — рэлігійнай, палітычнай, індывідуальнай, духоўна-творчай і да т.п.

Палітычнай мадыфікацыяй свабоды і несвабоды з'яўляецца, з аднаго боку, характэрная для ВКЛ пач. XVII ст. ідэя прававой дзяржавы, згодна з якой дэкларавалася, што жыццё і маёмасць чалавека павінны абараняцца законам і ўладай; з другога боку — ідэя нічым не абмежаванай, таталітарнай улады, дзе жыццё, маёмасць, годнасць падданага — кім бы ён ні быў: селянінам ці баярынам — цалкам залежаць ад волі самаўладцы.

Ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне першая ідэя — ідэя прававой дзяржавы — у сваім класічным выглядзе была сфармулявана ў прадмовах Льва Сапегі да Трэцяга Статута Вялікага княства Літоўскага. Менавіта Сапега сцвярджаў, што «естесмо невольнікамі прав для того, абысмы вольнасти уживати могли». Па думцы канцлера «цель и скуток усих прав ест и мает быти на свете, абы кождый добрую славу свою, здоровье и маетность в целости мел». Усе ў грамадстве, сцвярджаў Сапега, — ад самага апошняга чалядніка і да караля — павінны падпарадкоўвацца закону. «Сам гаспадар, пан наш, на думку Сапегі, — і гэта было перакананне ўсяго беларуска-літоўскага адукаванага грамадства, — жадное звирхности над нами заживати не можеть, адно только, колько ему право допущаеть».

Другая ідэя, якая вынікае з усходняга менталітэту — ідэя неабмежаванасці ўлады цара і безумоўнай залежнасці ўсіх і кожнага ад яго волі — была сфармулявана Іванам Жахлівым у сваіх лістах да князя Андрэя Курбскага. Як адзначыў выдатны дарэвалюцыйны рускі і ўкраінскі гісторык М.Кастамараў, менавіта Іван Жахлівы «утвердил начало деспотического произвола рабского бессмысленного страха і терпения. Его идеал состоял именно в том, чтобы прихоть самовластного владыки поставить выше всего: и общественных нравственных понятий, и всяких человеческих чувств, и даже веры... И он достиг этого в Московской Руси...» Разважаючы пра бегства «московских людей» у Літву, г.зн. у ВКЛ /на Беларусь і Украіну/, Кастамараў сцвярджае, што яны туды ўцякалі не таму, што ў «московских людей были какие-нибудь идеалы в Литве», а таму, што «бежать в Литву им было и ближе, и подручнее, чем в другое государство: и язык, и обычаи там были для них ближе, чем в иной земле, и принимали их там радушно» і да т.п. І тут мы вымушаны не згадзіцца з Кастамаравым. Так, і этнічная роднасць з беларусамі і ўкраінцамі, і блізкасць мовы, веры — усё гэта адыгрывала вельмі значную ролю ў накіраванасці расійскай эміграцыі, але ж галоўнае, што іх прываблівала ў ВКЛ — гэта менавіта ідэалы, існуючыя там ментальнасці: адносная палітычная свабода, верацярпімасць і інш. Для Курбскага, напрыклад, спакойна жыць пад аховай закона, для Івана Фёдарава — свабодна выдаваць свае кнігі, для Арцемія — вольна думаць і распаўсюджваць свае рэлігійна-ідэалагічныя погляды, не баючыся зняволення ў манастыр ці калесавання.

Царкоўна-рэлігійнай мадыфікацыяй паняццяў свабоды і несвабоды, як ужо часткова адзначалася, з'яўляецца — у першым выпадку, ідэя верацярпімасці, канфесійнага і інтэлектуальнага плюралізму, у другім — ідэя нецярпімасці да іншаверцаў і іншадумцаў. Ідэя канфесійна-рэлігійнай верацярпімасці была дамінуючай у ВКЛ у другой палове XVI ст. Яна зафіксавана ў знакамітай Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г., якая цалкам увайшла ў тэкст Трэцяга, сапегаўскага Статута ВКЛ 1588 г. /разд. 3, арт. 3/. Нягледзячы на ўвядзенне царкоўнай уніі /1596/ і ўзмацнелую дыскрымінацыю ў Рэчы Паспалітай праваслаўя і пратэстанцтва, гэтай жа ідэі яшчэ ў 20-х гг. XVII ст. прытрымліваўся канцлер Леў Сапега, пра што пераканаўча сведчыць яго ліст да І.Кунцэвіча ад 12 сакавіка 1622 г.

Калі ў Маскоўскай дзяржаве «праваслаўная хрысціянская вера» з'яўлялася не толькі манапольнай канфесіяй, але і кансалідуючым пачаткам грамадства, то ў ВКЛ, дзяржаве шматканфесійнай, кансалідуючым пачаткам магла быць толькі верацярпімасць, толькі талерантнасць. Гэта ўжо ў 70-х гг. XVI ст. добра зразумелі найбольш дальнабачныя грамадскія і дзяржаўныя дзеячы і ў іх ліку С.Будны. На гонар беларуска-летувіскага грамадства — і ў гэтым вялікая роля належыць частцы гуманістычна настроенай беларускай шляхты і магнатаў — у дзяржаўнай палітыцы другой паловы XVI ст. ВКЛ дамінуючай з'яўлялася ідэя талерантнасці. У сваіх «Успамінах» беларускі шляхціц з-пад Ляхавіч Фёдар Еўлашоўскі, які жыў у другой палове XVI ст., піша: «Помне бовем... седялэм у столу князя Балтромея Недвіцкого, каноніка віленскага, з преднейшими слукгами влохами его. Тые же се, кгды доведели, жем евангелик, дивовалисе барзо, яко ме смял князь каноник на обяд свой взывать. А кеды им он преложил, жем в нас з того жадна ненависть не бывa и милуемысе яко з добрыми приятелы, хвалили то влоши, мовечы, же ту бог жыве, а кганили свое домове права...»

Характэрная для эпохі Адраджэння інтэнцыя свабоды даволі моцна выявілася ў станаўленні нацыянальнай свядомасці. Гэта — адзін з істотных момантаў беларускага менталітэту першага Адраджэння. Прыярытэт тут належыць Францішку Скарыну, які даў свайму народу не толькі кнігадрукаванне і нацыянальную Біблію, але і моцнае пачуццё Радзімы, роднай мовы і культуры, першы пачаў абуджаць нацыянальную свядомасць беларусаў. С.Будны не толькі ў пераносным, але і ў прамым сэнсе /справа ў тым, што скарынаўскім шрыфтам быў надрукаваны ў 1562 г. у Нясвіжы беларускі «Катэхізіс», аўтарамі якога былі С.Будны і яго паплечнікі Л.Крышкоўскі і М.Кавячынскі/ з'явіўся пераемнікам Скарыны. Адным з першых ён звярнуўся да беларусаў не на царкоўнаславянскай, а на роднай мове. Менавіта ён заклікаў князёў, г.зн. тых, ад каго ў той час залежала культура, каб яны «не толькі в чужоземских языцех кохали, але бы ся тэж и того здавна славного языка словенского розмиловати и оным ся бавити рачыли», г.зн. каб яны не толькі спрыялі, але і карысталіся роднаю моваю. На жаль, інтэнсіўны ўздым нацыянальнай

(Працяг на стар. 12)

**Анатоль Вялюгін**

# БЫЦЦАМ ДАДОМУ ВЯРНУЎСЯ З ГАЛАКТЫКІ...



## КВІТНЕЕ СОН

На згон зімы грачыны грай
і крыгі пруць наўпрост.
Бярозавы святлісты гай
не скіне шапкі гнёзд,

не скіне шапкі прад табой —
сякеру ты прынёс
да голых, спуджаных бядой,
заплаканых бяроз.

Слязу пачуеш,
апрача
базара шлюбных дзюб:
салодка ў горле гарлача
крапліна хлюп ды хлюп...

Ліловы квет, у цвеце сон,
сцюдзёны скрыгат крыг, —
чароўны Грыг!
Астральны звон,
крануўся промняў Грыг.

Ляшчыны дым, грачыны крык
на скібы баразён —
вясна гартае чарнавік
маіх астатніх дзён.

*1993*

## НА СМУТНЫХ РОСТАНЯХ

Памяці бронза,
скарбовае золата,
нафты растопіцы
і малака, —
усё,
што здабыта
сярпом і молатам,
пушчана
з малатка.

Коўзка стратэгам
на кладачках тактыкі —
нэндза, пустэча
прамоў і папер...

Быццам дадому
вярнуўся з Галактыкі:
дзе, ў якім часе
жыву я цяпер?

Шэсці і мітынгі
з клёкатам кратэра.
Крамкі-шпакоўні
ля белых калон.
Крамаю стаўся
і Дом літаратара,
і барахолкай
гудзе стадыён.

Рай а ці пекла
будуючы нанава,
у «мерседэсы»
пасела шпана —
сьвяла, сцямнела
кажуркай бананавай
чырвань білета
у партвертуна.

Шопы з путанамі,
бомжы з наркотамі —
густа гірсою
зарос лексікон.
Офісы, офісы
скаляцца дотамі —
ставяць паханы
дзяржаву на кон.

Пойдуць на продаж
радовішчы з пушчамі?..
Светлай Сафіі
сабор — з малатка?!.
Нават да матчынай
мовы трывушчае
цягнецца хіжа
прыблуды рука.

Крэскамі чорнымі
/мёртвымі зонамі/
значаць на карце
атруту атрут.

Крыкма крычы,
каб дзірою азонавай
не засмактала
зняверваны люд!

Ціхія, мройныя
любыя пространі,
хто вас,
нядобры,
тугой завалок?

Капаць калінам
крывёю
на ростані
з беглымі ценямі
смутных аблок.

*1993*

## САЛАЎІ

Лясной чаромхі шугавея —
ад паху салавей!
Пад кожным ліссцікам шалее
разбойнік салавей.

Яны, чуваць, усе салісты,
майстры, чуваць, майстры!
Не спяць ашпараныя свістам
дарогі і двары.

Раскаты жарсці навальнічнай.
Сядзелі ж ціхама
пад ліссем Афрыкі трапічнай,
пакуль мяла зіма.

Пакуль алешнікі калелі,
пяюн ляцеў здалёк
і на дванаццатым калене
у лядзе сала пёк.

Маленькі, шэры, а царуе
да ліпеня пяюн,
булькоча, дудкаю чаруе
дуброву, як лясун.

Мяце чаромхі шугавея —
ад чаду салавей!
Пад кожным ліссцікам шалее
разбойнік салавей.

*1993*

## СІНІ ПОШУГ БЛІСКАВІЦ

Пыл і смага сцялі горла.
Не драмі, джыгіт, гані!
На шампур дарогі горнай
скрозь
нанізаны агні.

***ПЕРАКЛАДЫ***

Тэнэсі УІЛЬЯМС

# ТРАМВАЙ «ЖАДАННЕ»

***Эсэ***

У ЗІМКУ спаўняецца тры гады з тае пары, як у Чыкага прайшла прэм'ера «Шклянога звярынцу» — гэтай падзеяй закончыўся адзін перыяд майго жыцця і пачаўся іншы, і як ён адрозніваўся ад папярэдняга па ўсіх вонкавых прыкметах уявіць сабе, напэўна, няцяжка. Мяне раптам выцягнулі з найглыбейшае невядомасці і выштурхнулі ў знакамітасці; заўсёды няўпэўнены ў сваім заўтрашнім становішчы насельнік танных мэбліраваных пакойчыкаў, я апынуўся раптам у шыкоўных апартаментах першакласнага гатэля на Манхэтэне. І гісторыя мая — зусім не выключэнне. Поспех нярэдка ўрываецца ў жыццё амерыканцаў вось так раптоўна. Нездарма казка пра Папялушку — наш любімы нацыянальны міф, асноватворны камень кініндустрыі, а можа, і самое Дэмакратыі. Я так часта бачу ягонае ўвасабленне на экране, што ён ужо змушае мяне пазяхаць; і не тое каб я ў ім разупэўніўся — я проста пытаюся ў сябе: каму ён патрэбны? Калі ў чалавека такія цудоўныя зубы ды валасы, як і ў кінагероя, то ён, бясспрэчна, знойдзе шлях, на якім няблага ўладкуецца ў жыцці, і можаце закласці свой апошні долар ці ўвесь наяўны ў Кітаі чай, што яго гвалтам не зацягнеш ні на адзін сход, дзе абмяркоўваюцца пытанні, якія трывожаць грамадзянскае сумленне.

Не, гісторыя мая — ніякае не выключэнне, але ў той самы час яна і не зусім звычайная, і калі вы гатовы прыняць мае не дужа пераканаўчыя запэўніванні ў тым, што я п'есы свае я пісаў, абсалютна не разлічваючы на такую паваротку справы /а многія ж не хочуць верыць, што драматург можа мець якуюсьці іншую мэту, апрача поспеху ў публікі/, то, мабыць, ёсць сэнс параўнаць гэтыя два перыяды.

Жыццё, якое я вёў да таго, як спазнаў вялікі поспех, вымагала стойкасці, я адчайна караскаўся ўверх па адвеснай скале, абломваючы пазногці, і калі мне ўдавалася залезці хоць на дзюйм вышэй, чым напярэдадні, то я з усяе сілы чапляўся за камень голымі рукамі, — і ўсё ж гэта было адмысловае жыццё, бо менавіта на такое і разлічаны чалавечы арганізм.

Толькі пасля таго, як барацьба была закончана, я ўсвядоміў, як шмат жыццёвай сілы забрала яна ў мяне. І вось я выбраўся на нейкую роўную пляцоўку, але рукі мае ўсё яшчэ сутаргава малацілі па паветры, а лёгкія ўсё яшчэ ліхаманкава ўбіралі яго, хоць дыхаць стала лёгка. Нарэшце я дамогся забяспечанасці.

Я сеў, агледзеўся — і раптам глыбокая туга агарнула мяне. Спярша я вырашыў, што проста яшчэ не паспеў прызвычаіцца-прыстасавацца да новага становішча. Вось прачнуся ўранку ў апартаментах першакласнага гатэля, у вокны якога даносіцца прыглушаны шум Іст-Сайдскага праспекта, пачну радавацца іх элегантнасці ды цешыцца ўсімі выгодамі, усведамляючы, што апынуўся на Алімпе — у нашым, амерыканскім іго варыянце. Зірну ўранку вунь на той зялёны кілім і залюбуюся ім. А тое, што цяпер яго шоўк нагадвае мне каламуць на стаячай вадзе — гэта так, часова.

Але ўранку бяскрыўдны зялёны кілім здаўся мне яшчэ больш агідным, чым напярэдадні ўвечары, і ўвогуле я ўжо занадта атлусцеў для 125-доларавых апартаментаў, якія мне зняў адзін знаёмы, чалавек вельмі свецкі. Ні з таго ні з сяго ў нумары пачалі ламацца рэчы. Ад канапы адваліўся бок. На паліраванае мэблі з'явіліся выпаленыя цыгарэтамі сляды. У вокны, якія я забыўся зачыніць, уварвалася залева і затапіла нумар. Але пакаёўка неадольна прыводзіла ўсё ў парадак, а цярпенне адміністрацыі было бязмежнае. Вечарынкі, якія зацягваліся ці не да раніцы, не бянтэжылі яе. А суседзяў маіх, бадай, нічым нельга было патрывожыць, хіба што гранатаю.

Ежу мне падавалі ў нумар. Але гэта таксама перастала забаўляць. Я заказаў абед па тэлефоне, і да таго часу, як яго ўкочвалі ў дзверы, нібыта труп на століку-каталцы з гумовымі калёсікамі, у мяне знікала ахвота есці. Неяк заказаў біфштэкс з выразкі і пламбір з шакаладам, але ўсё было сервіравана так хітра-мудра, што я прыняў вадкі шакалад за соус і паліў ім біфштэкс.

Вядома, гэта былі ўсяго толькі малазначныя прыкметы душэўнае неўраўнаважанасці, і неўзабаве яна выявілася ў формах, нашмат больш непрыемных. Я адчуў, што раблюся абыякавы да людзей. Ува мне ўздымалася хваля цынізму. Усе размовы гучалі так, быццам некалі, даўным-даўно, іх запісалі на стужку і вось цяпер прайграюць. Мне здавалася, што ў галасах маіх сяброў няма больш ні сардэчнасці, ні шчырасці. Я пачаў падазраваць іх у фальшы. Перастаў тэлефанаваць ім, сустракацца з імі. Ва ўсім бачыў бессэнсоўную ліслівасць і выходзіў з раўнавагі.

Калі хто-небудзь казаў мне: «Мне так падабаецца ваша п'еса!» — мне рабілася гэтак мотасна, што я нават не мог выціснуць з сябе ў адказ: «Дзякую». Словы захрасалі ў мяне ў глотцы, і я пахамску паварочваўся спіною да чалавека, які раней заўсёды быў шчыры. Цяпер я ўжо не ганарыўся п'есаю — яна мяне раздражняла: можа, таму, што адчуваў я сябе зусім спустошаным і баяўся, што іншай мне не напісаць. Я перапраўляў ся ў жывы труп і разумеў гэта, але ў той час у мяне не было такога сябра, якому б я даверыў настолькі, каб мог адвесці яго ўбок і расказаць, што са мною адбываецца.

У такім дзіўным стане я знаходзіўся месяцы тры, а напрыканцы вясны вырашыў зноў легчы на аперацыю вока — перадусім дзеля таго, каб схавацца ад свету за марлевай павязкаю. Гэта была чацвёртая па ліку аперацыя, і тут, бадай, варта згадаць, што вось ужо пяць гадоў, як у мяне з'явілася ў левым воку катаракта: некалькі разоў мне праколвалі яе іголкаю і нарэшце зрабілі аперацыю на мышцы вока. /Вока ў мяне захавалася. І досыць пра гэта./

Што ж, марлевая павязка была мне карысная. Пакуль я адлежваўся ў бальніцы, сябры, да якіх я быў такі няўважлівы, якіх абражаў — каго чым, пачалі наведваць мяне, і мне, пагружанаму ў змрок і боль, здавалася, што галасы іх перамяніліся — дакладней, я не адчуваў у іх болей тае дужа непрыемнае перамены, што мроілася мне раней — і цяпер яны гучалі гэтаксама, як у тыя незваротныя дні, калі я быў зусім невядомы. Галасы зноў сталі шчырыя, сардэчныя, у іх зноў чуўся чысты гук праўдзівасці ды разумення — менавіта тое, за што я аддаў ім некалі перавагу перад астатнімі.

У непасрэдна фізічным сэнсе слова зрок мой не надта палепшыўся: аперацыя мела поспех частковы /зрэшты, радужная абалонка з выгляду стала чыстая, незамутнёная, і зрэнка апынулася там, дзе і павінна быць, ці прыкладна там/, аднак у пераносным сэнсе яна выклікала зрух нашмат важнейшы.

Калі марлевую павязку знялі, я ўбачыў, што ўсё ў свеце стала на свае месцы. Я выехаў з першакласнага гатэля, дзе займаў такія гожыя апартаменты, склаў рукапісы і сякія-такія вандзэлкі з пажыткамі, што трапіліся пад руку, і з'ехаў у Мексіку — краіну простых страсцей, дзе з цябе хутка злятаюць фанабэрыстасць і пыха, народжаныя поспехам; краіну, дзе бадзягі, прастадушныя, бы дзеці, спяць, скруціўшыся, на маставой, і дзе чалавечыя галасы, асабліва калі не ведаеш мовы, гучаць

Прывід белага духана
у чынары пад крылом:
сонца ў бочках,
дым духмяны
і сябрына за сталом.

Варта прошласці глыбіннай —
вежы з моракам байніц,
дзе трапеча галубінна
сіні пошуг бліскавіц.

Тур, здабыты ў час Тамары,
меў карону на рагах.
Стронга — прышлай байды мара —
б'ецца ў срэбных берагах.

Чэзне дым легенд і казак,
цхне лоўчая мана, —
зноў пра бурны дзень Каўказа
закіпае гамана.

Зноў з абрэзамі абрэкі,
плошчы з рыкам: «Карабах!» —
крышаць лёд і камень рэкі
з пенай злосці на губах.

Рог турыны —
цар гасцініцы,
стронга ў зоркавай брані...
Знікла ўсё
пад гул лавіны,
згасла
ласка дабрыні.

Зязлі свечкі, сэрца слепла
ў бросні сытнае маны.
Рай зямны,
ты стаўся пеклам
звад, разборак і... вайны.

Скінь, Каўказ, ланцуг патронны,
сцёршы соль крутой слязы, —
хай з плячэй звісаюць гроны
вінаграднае лазы!

Ладзь масты і выструнь рэйкі.
Выйдзе з пекла Карабах.
Хай буяняць толькі рэкі
з пенай злосці на губах.

*1989, 1993*

## ПЯТАЯ ПАРА ГОДА

Ручаіны з морскай сінізной,
хоць пускай караблік папяровы.
На дрывотні ярраснай вясной
зацвілі бярозавыя дровы.

Кволае зяленіва расткоў
ледзь прашыла мокрую бярсту.
Раніцай ганяе галубоў
чалавек смяротнага ўзросту.

Над чырвоным шыферам двара
белае анёлаў трапятанне.
Мусіць, года пятая пара —
у каханне
вечнае вяртанне.

*1993*

## ПСАЛОМ ПАЭЗІІ

*Вставай, хто серцем кучерявий!*
*Павло ТИЧИНА*

Псалом
схілеецца чалом:
Ой, люлі... —
над калыскаю
і стогне ў соснах
над бугром,
аплаканым вятрыскамі.

Расяна
пошапты замоў
шасцяць
у жыцце хвалістым
і ходзяць
жорнамі віроў
пад берагам абвалістым.

Спрадвек
зарыцаю псалом
расце
з любові ціхае —
не з той,
што ў нэндзы пад крылом
піскліва
вершам ціўкае.

Няўцешна
журыцца пагляд
сінечаю асенняю
у позніх
бройлерных пісклят
і сысункоў Арсенневай.

У кузні
слова на агні
куецца
чорнай доляю,
каб заквітнець
у вышыні
святарнай жырандоляю.

Святлу
метафар залатых
зарэць
над чэзлай славаю.
Жыве Паэзія
у тых,
хто сэрцам кучаравыя!

*1993*

## ПАД ЧОРНЫМ КРЫЛЛЕМ

Адвечны плач не ў стэпе за лясамі,
між наспаў будка поўніцца журбой:
— Пісьмо табе пісала я слязамі,
сумнотай запячатаю сваёй...

Машын паток — то скрыгатны, то
плаўны.
Запырскан стол агдамам і луской.
Самотны плач бабылкі Яраслаўны,
журботны спеў на звалцы гарадской:

— Пісьмо табе пісала я слязамі...
Калматы дым, і чорнае крыло,
І гэты спеў не ў стэпе за лясамі,
дзе лукі вояў смагаю звяло.

*1993*

гэтаксама пяшчотна, як і птушыныя. Майго штучнага, публічнага «я», створанага гульнёю люстэркаў, тут не было — і я зноў стаў самім сабою.

А каб знайсці сябе канчаткова, я на нейкі час запыніўся ў Чапале і пачаў працаваць над п'есаю «Ноч за покерам» /пазней — «Трамвай «Жаданне»/. Толькі ў працы мастак можа адшукаць рэальнасць і задаволенасць, бо сапраўдны свет не мае над ім такое ўлады, як свет, ім выдуманы, і таму, раз ён не выломваецца з упарадкаванае будзённасці, для яго не так ужо і істотна, якое жыццё весці. Найлепшыя яму ўмовы — тыя, у якіх праца не толькі ладзіцца, але і становіцца патрэбаю.

Мне самому лепш за ўсё працуецца дзе-небудзь у аддаленым месцы, сярод чужых людзей — толькі каб там было дзе нармальна паплаваць. Але будзённае жыцце абавязкова патрабуе ад чалавека пэўных, няхай і самых невялікіх, намаганняў. Няварта цалкам перакладваць клопат аб сваім побыце на іншых — трэба больш рабіць самому. Ад гатэльнага абслугоўвання ўвесь час адчуваеш сябе няёмка. Ні перад кім на свеце не бывае мне так няёмка, як перад пакаёўкамі, афіцыянтамі, пасыльнымі, насільшчыкамі і г. д., бо яны зноў і зноў напамінаюць пра няроўнасць, якую мы прызвычаіліся лічыць чымсьці натуральным. Калі бачыш, як лядашчая бабуля ў знямозе ад цяжару, пыхкаючы, цягне цераз увесь калідор вядро з вадою, каб падцерці за ўпітым пастаяльцам з ліку асабліва адзначаных поспехам, на душы робіцца гэтак моташна, цяжка, што проста крывішся праз сорам за наш свет, дзе такое не толькі церпяць, але нават лічаць прамым доказам таго, што ўсе калёсікі ў механізме Дэмакратыі круцяцца ладна, без якогасьці ўмяшання зверху ці знізу. Ніхто не павінен прыбіраць гразь за іншымі. Гэта блага для абодвух бакоў — але асабліва, відаць, для таго, за кім прыбіраюць.

Я не менш за астатніх разбэшчаны разнастайнымі формамі лёкайскай абслугі, на якую нашае грамадства прызвычаілася разлічваць і ад якой яно залежыць. Нам трэба было б рабіць усё для сябе самім або прыстасаваць для гэтага машыны, нашую расхваленую тэхніку: яе ж прынята лічыць новым светачам нашага жыцця. Мы сталі падобныя да чалавека, які накупіў груду ўсялякіх рэчаў для турысцкага паходу: і каноэ, і палатку, і рыбацкія снасці, і сякеру, і паляўнічыя стрэльбы, і шарсцяныя коўдры, — аднак пасля таго, як аснастка і правізія былі належна, з веданнем справы ўпакаваны, яго раптам апанавала нерашучасць, і ён так і сядзіць на тым самым месцы, што і ўчора, і пазаўчора, і пазапазаўчора, і час ад часу падазрона паглядвае скрозь кісейныя занавесы на неба, баючыся, што яснасць яго — падманлівая. Выдатная наша тэхніка — пасланая Богам мажлівасць для смелага пошуку, для прагрэсу, скарыстацца якою мы не рашаемся. Цяперашнія нашы ідэалы і ўяўленні — зусім такія ж, як і тры стагоддзі таму. Зрэшты, не. Выбачайце. Цяпер ужо нават дэклараваць іх стала небяспечна!

Але я перайшоў ад вузкае тэмы да шырокае і залішне адхіліўся ўбок, а гэта зусім не ўваходзіла ў мае планы, так што дазвольце мне вярнуцца да таго, пра што я гаварыў раней.

Усё гэта, вядома, празмернае спрошчванне. Адмовіцца ад спакусаў бяздумнага і бяздзейнага жыцця зусім не так проста. Нібыта можна раптам узяць ды сказаць сабе: надалей буду жыць так, як жыў раней, да таго, як на мяне нізрынуўся гэты самы Поспех. Але раз вы ўжо цалкам усведамляеце, што жыццё без барацьбы пустое, то галоўны сродак уратавання — у вас у руках. Раз вы ўжо ўсведамляеце, што сэрца чалавека, ягоныя цела і мозг прайшлі цераз распаленае ў разліку на сутыкненні /барацьбу стварэння/; што, калі ўсе сутыкненні адпрэчаны, чалавек становіцца падобны да мяча, якім зразаюць маргарыткі; што зусім не беднасць, а раскоша — воўк ля ягоных дзвярэй, а зубы гэтага воўка — дробная пыха, самазадаволенасць і размагнічанасць, народжаныя Поспехам, — дык вось, калі вам усё гэта вядома, то вы, прынамсі, ведаеце, адкуль чакаць небяспекі.

Тады вы разумееце, што вашае публічнае «я», тая Персона, якою вы з'яўляецеся ў вачах грамадства, калі ў вас ёсць «імя» — проста фікцыя, гульня люстраў, і адзінае вашае сапраўднае «я», якое мае права на жыццё — тое нябачнае свету, патаемнае «я», якое існуе з вашага першага ўздыху, складаецца з вашых учынкаў і, значыцца, пастаянна знаходзіцца ў працэсе станаўлення, што кіруецца вашай воляю. А калі вы ўсё гэта ведаеце, то здолееце выйсці незнявечаным з катастрофы, імя якой — Поспех!

Уратавацца ніколі не позна — хіба што вы моцна, абедзвюма рукамі, абдымаеце гэтую багіню-распрасуку, як называў славу Уільям Джэйс, і ў гэтых задушлівых абдымках вы набылі тое, чаго заўсёды так прагнуў, у тузе па доме, хлопчык, які ў вас сядзіць: поўную бяспеку і мажлівасць сядзець склаўшы рукі. Я мяркую, забяспечанасць — адзін з відаў смерці, яна можа прыйсці ў выглядзе лавіны ганарараў і заспець вас каля шыкоўнага, выгнутага ў форме ныркі плавальнага басейна, дзе-небудзь у Бэвэрлі-Хілз ці ў любым іншым месцы, дзе ўмовы рэзка адрозніваюцца ад тых, якія зрабілі вас мастаком — калі вы і праўда мастак ці былі ім калісьці або збіраліся стаць. Спытайцеся ў любога, на чыю долю выпаў такі вось поспех: на што ён яму патрэбны? Каб атрымаць прамы адказ, прыйдзецца, бадай, увесці таму чалавеку сываратку, ад якой пачынаюць гаварыць праўду, дый і то ў яго вырвецца са стогнам адно-адзінае слоўца, якому ніяк не месца на старонках добрапрыстойных выданняў.

Што ж сапраўды патрэбна мастаку? Усёпаглынальны інтарэс да людзей і іхніх спраў, а яшчэ — пэўная доля спагады і маральны стымул, бо менавіта яны спачатку і былі штуршком да таго, каб перавесці жыццёвы вопыт на мову фарбаў, музыкі ці руху, паэзіі ці прозы — словам, чаго хочаце, адно б гэта было дынамічна ды выразна, — вось што вам трэба, калі ў вас і на самай справе сур'ёзныя намеры. Уільям Сараян напісаў адмысловую п'есу на гэтую тэму: пра тое, што душэўная чысціня — адзіны від поспеху, патрэбны чалавеку. «У адпушчаны табе тэрмін жыцця — жыві!». Тэрмін гэты невялікі, і час знікае незваротна. Вось і цяпер мы страчваем яго; я — пакуль пішу гэтыя радкі, вы — пакуль чытаеце іх, і гадзіннік так і будзе пастукваць: «Ст-ра-ціў! Ст-ра-ціў! Ст-ра-ціў!» — калі толькі вы не пакладзеце ўсю душу на тое, каб не даць часу знікнуць бясследна.

**Пераклаў з англійскай мовы**
**Алесь АСТАШОНАК**

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ



**Аўгіння КАВАЛЮК**

## «ЗНОЎ ПЕСНЯ ЦІХАЯ ВЯСНЫ...»

●

Вяртае да жыцця краіна,
Зноў квеценъ,
Хоць і разбіта каляіна
І многа смецця...
Зноў песня ціхая вясны
Ўплятаецца у нашы сны,
Блакіт над лугам і
над полем.
А нада мной махае голлем
Вецер...
Зноў квецень.

●

Паясок жыццёвы тчэцца,
А жыццё, яно таўчэцца,
То на месцы, то ў дарозе,
На спякоце, на марозе.
І хоць смейся, хоць ты плач —
Будзе так, як хоча ткач.

●

Сябе пытаемся не раз:
Што там наперадзе у нас.
За лабірынтам лабірынт
Закручваецца цяжка вінт
І з кожным кругам ўсё цяжэй,
А ці да ісціны бліжэй?

●

Ад тваіх гарачых вуснаў
Масток стрыманасці хруснуў,
Перайшлі з табой парог...
Хто ж каханне не зберог?
Хто яго згубіў, калі?
А шчаслівыя былі...

●

Паразважай па-чалавечы:
Чужыя рукі не сагрэюць
плечы,
Чужым вачам не заглянуць
углыб,
Чужым вачам не ўчуці
ўсхліп.
Мяне чужому не аддай,
І сам чужое не спаткай.

●

Нібы ў шафе, цесна...
Нехта кліча ў весну,
У яе бясконцасць,
Дзе абдыме сонца
І душу і цела.
А знаёмы скажа:
— Ты памаладзела.

●

*Валянціну ГРЫЦКЕВІЧУ*

Развітваецца сакавік,
Апошні ўсхліп апошняй сцюжы,
Сцюдзёны холад дзесьці знік,
А сакавік вясёлы, дужы
Вясну прыгожую вядзе,
Каб усміхнулася раздолле.
І ўсё даўжэйшым кожны дзень
І прыгажэе наваколле.
І адступаюць смутак, жаль...
Вясною лепей бачыць вока
Яшчэ нязведаную даль,
Дарога цягнецца далёка.

*г. Санкт-Пецярбург*



*Эпохі беларускага тэатра пазначаны імёнамі, сярод якіх адметна вылучаецца імя рэжысёра Уладзіміра МАЛАНКІНА. Ён пайшоў ад нас пятнаццаць гадоў таму, а ў наступным годзе мы б святкавалі ягонае шасцідзесяціпяцігоддзе. Штомесяц у афішы Рускага тэатра Беларусі /нагадаем, што ставіў ён з поспехам і ў нацыянальных тэатрах/ пазначаны ягоны спектакль «Адзіны спадкаемца» Ж. Ф. Рэньяра, — вось ужо амаль дваццаць гадоў...*

# ЛАНДЫШЫ ДА КАЛЯДАЎ

## *Барыс Луцэнка пра Уладзіміра Маланкіна*

Я спаткаўся з Уладзімірам Андрэевічам у Маскве, калі паступаў у ГІТІС. На іспытах прысутнічаў іранічны чалавек, які ўвесь час перашэптваўся з Марыяй Іосіфаўнай Кнэбель, а перад трэцім турам запрасіў мяне для гутаркі. «Слухай, — звярнуўся ён да мяне, — навошта табе Масква? Паехалі ў Мінск, я цяпер у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце набіраю курс...»

Гэта быў шэсцьдзесят другі год. І вучыцца ў Маланкіна было вельмі й вельмі цяжка. Ён умеў давесці чалавека да працоўнага стану... агрэсіі, шоку, стрэсу, да пастаяннай несупакоенасці. Якраз мы спаткаліся на адным курсе з Раеўскім... Цяпер са смехам магу згадаць, як мы з Валерыем Мікалаевічам гэтак крыўдавалі на настаўніка, што... збіраліся па-мужчынску з ім паразумецца дзесьці па-за інстытутам. Маланкін быў абсалютна непрадказальным чалавекам. Настрою, імпульсу, штуршка хапала для найвялікшых змен альбо зрухаў. Але была адна якасць, якую я ацаніў ад пачатку нашага кантактавання й калегавання: калі хтосьці знаходзіцца ў, так бы мовіць, дабрабытным супакоеным стане, ён выбівае з яго, растрывожвае, раскатурхвае... Але калі ўжо табе кепска, блага, брыдка, дык ніхто іншы, а Уладзімір Андрэевіч падтрымае цябе. І скажу шчыра, мы гэтым паціху карысталіся. Мы заўсёдна крыху падыгрывалі яму, маўляў, і стыпендыя малая, і з жытлом цяжка, творчыя праблемы закруцілі... Мне здаецца, што ён, прайшоўшы школу Аляксея Дзмітрыевіча Папова і Марыі Іосіфаўны Кнэбель, дый сам ад прыроды чалавек дыхтоўных ведаў і разумення жыцця, стараўся нас чымсьці... развярэдзіць. Развярэдзіць, вядома, творча. Хоць была свая праграма, якой ён мусіў-такі прытрымлівацца, ён даваў нам, сваім студэнтам, спрабаваць і працаваць, так бы мовіць, у прыёмах ды з методыкамі розных школ, кірункаў, з рознымі тэатральнымі ідэямі... /Спачатку нашым рэжысёрскім курсам кіраваў К. Саннікаў, гэтаксама чалавек адметна творчы, і калі яны спатыкаліся разам на занятках, найлепшай тэатральнай школы няможна было ні ўявіць, ні зажадаць/.

Маланкін пачаў кіраваць намі з другога курса. На маё сённяшняе разуменне — а мы, студэнты, пераймалі Маланкіна нават у сваіх работах, — Маланкін сам пераймаў Дзмітрыя Аляксеевіча Арлова. Ягоную іранічную манеру, напрыклад...

Я рады, што прайшоў маланкінскую школу, — з усімі хібамі ды нястачамі тагачаснага агульнага інстытуцкага навучання. Праўда, я лічу, што тады школа — па вялікім рахунку — благая была паўсюдна, ад першаступеннай, пачатковай, да вышэйшай. Яна, на жаль, была зарыентавана на ўсярэдненую адзінку, а ніяк не на асобу. Але школа — неабходная! Думаю, што калі б мы вучыліся ў іншага педагога, нам бы тады шэнціла меней. Маланкін — асоба, якая стварала вакол сябе нейкае магнітнае поле, якая праменіла такую моцную творчую энергію, што не падпарадкавацца ёй было проста немагчыма. Маланкін рабіў тэатр з жыцця — не менш цікава, як на сцэне. Як часта ён «выклікаў агонь на сябе»! Цяпер з кім ні размаўляю, дык чую, што ўсе мы паціху, прабачце, ненавідзелі Маланкіна, але гэта была дзіўная нянавісць, — менавіта яна цвяліла пастаянную прагу да справы, да навукі, да творчасці. Напрыклад, у паказах, у так званых нашых вынятках, якія мы ставілі самастойна, ён патрабаваў альбо вымагаў пастаяннай навізны, навюткасці, найноўшасці. Ніякіх «класічных прачытанняў». Ніякага «традыцыйнага падыходу». Ён вымагаў творчага вырашэння, — асабістага, твайго. Пасля школы Маланкіна я не баяўся потым у тэатры працаваць з акцёрамі. Ну а прынцыпы нашага ўсярэдненага навучання, якому ўвесь час супрацьстаяў Маланкін, вы цудоўна ведаеце: з нас рабілі вырадкаў ды калек. Выстаяць выпадала няшмат каму. А вось Маланкін і выстойваў, і супрацьстаяў... Мы пасябравалі.

Ён лічыў, што чалавека на курсе трэба навучыць самастойна думаць, не баяцца літаратуры, фактаў, ацэнак, у тым ліку і сваіх уласных, — на гэтым фармуецца асоба. А ўжо потым, — як там пойдзе ў гэтай асобы з асваеннем прафесіі рэжысёра, — асабістая справа асобы. Ён часцяком паўтараў: «Навучыць рэжысуры няможна, а вось навучыцца — льга». Праўда, сам ён вучыў нас рэжысуры па самым вялікім рахунку. Я запісваў амаль усе ягоныя рэпетыцыі, разумеючы, што перадусім ён шмат увагі аддае акцёру, размінае яго, падводзіць да ролі... А размінае, трэба заўважыць, па-за рамкамі матэрыялу п'есы, даводзіць да пэўнасці, гнуткасці, да растрывожанага стану. Я зразумеў гэта падчас рэпетыцый спектакля «Фальшывая манета» паводле Горкага, дзе былі заняты ўсе будучыя рэжысёры. Я іграў там сляпога на адно вока, і Маланкін чапляўся на кожнай рэпетыцыі, вымагаючы ад мяне «свідруючага вока»: маўляў, яно ж у майго персанажа адно! Памятаю, як доўга не атрымлівалася сцэна, дзе я прадстаўляў сваю жонку іншаму персанажу, — я не спаў ночы пасля ягоных рэпетыцый. І толькі пасля паказу /альбо падказкі?/ Маланкіна я вырашыў, што трэба зыходзіць з розніцы ва ўзростах і знешнасці майго аднавокага, — Маланкін застаўся задаволены. Дарэчы сказаць, што, акрамя рэжысуры, мы атрымалі самыя пэўныя

# АКРАМЯ ПАШАНОТЫ...

***Свядома пазбягаючы параўнанняў з колішняю задумаю рэжысёра Уладзіміра Маланкіна ды практыкаю выканання /варта толькі працытаваць старыя рэцэнзіі/, прапаную нават не погляд — позірк на бліскуча ўвасобленыя колісь рэй характараў ды асэнсаванне становішчаў, якімі гэтыя характары мусяць выпрабоўвацца.***

Слушнае, хоць і нацягнутае параўнанне: «Адзіны спадкаемца» ўжо выдае на тутэйшую... «Прынцэсу Турандот» — хто не ведае гісторыі выбітнага спектакля Яўгена Вахтангава? Бліскаўкі акцёрскага выканання / свежасць ацэнак, імправізацыйнасць, лёгкае дыханне ў трохсотгадовых драматургавых варунках, непрадказальнасць паваротак сюжэта ў залежнасці ад учынкаў персанажаў/, бадай, самае істотнае, што вылучае нядаўні семсот сорак трэці ці семсот сорак пяты спектакль /глядацкая частка тэатра, падобна, збілася з ліку/. Часцей жа ён бачыцца нібы праз ... затуманенае шкло знакамітай «чацвёртай сцяны»... Дык вось, пра параўнанне. Пра тутэйшую «Турандот». Ні рукі ў кішэнях, ні нязмушанае падцягванне нагавіцаў, ні накручванне пасмаў на пальцы, ні дзяжурнае закатванне вачэй, як і спевы пад разладжаную гітару не выклікаюць прыкрасці з нагоды згубленай стыльнасці камедыі. Эстэтыка пастаноўкі, калі можна ўсур'ёз памінаць пра эстэтыку, арыентуючыся на сённяшні стан спектакля, састарэла яшчэ да другой перамены складу выканаўцаў /іх адбылося чатыры/. Ніхто з акцёраў на маёй памяці і не настойваў на падкрэслена побытавым ды абвострана лагічным трактаванні сваіх персанажаў, — спадчына дзядзькі Жаронта мусіла б прыдацца кожнаму, але выпадае, натуральна, звадліваму ды прадбачліваму маладзёну-пляменніку. Цяпер на стыльна камедыйныя звады спадкаемцаў падобныя толькі праз акцёрскія намаганні, бо самая спадчына ў выглядзе перадусім домаразваліны дакляруе адно — паталагічную скупасць Жаронта Аляксандра Ткачонка, — дом вось-вось абрынецца на галовы... не героям — акцёрам. А прадстаўляцца хваравітым жміндам не пасуе Ткачонкаваму герою, за іншым часам вырашанаму... весела ды не без маралі. Да стану адрыны ягонае жытло даведзена натуральна — за дзевятнаццаць гадоў эксплуатавання спектакля. Ужо з пятага рада партэра на галечу ўсіх без выключэння персанажаў самотна пазіраць: нагавіцы самага нешляхетнага выгляду, выцвілы паркаль апранахаў кабет, зжоўклыя карункі на кашулях, паношаныя панчохі, стаптаны абутак... Да вырашэння Уладзіміра Маланкіна гэтыя рызманы дачынення не маюць, аднак...

Зрэшты, хоць дамок парыжскага скупенды /?/ Жаронта рыпіць ды развальваецца, дэкарацыя пакуль не паваліліся, мацуючы хаўрус найзацікаўленых у спадчыне. Кожны з адметнага квартэту /да Аляксандра Ткачонка далучаюцца Вольга Клебановіч, Валерый Бандарэнка ды Андрэй Душачкін/ мае на ўвазе сваю шарагова... непараўнальную зваду-жадобу. Аксюмароны спектакля, вызначаныя Маланкіным, усё яшчэ чытаюцца выдатна: гэткая... дабрадзейная памаўзлівасць кожнага разам з відавочнаю перакананасцю ва ўласнай прыстойнасці! На сцэне ўвесь час дзеецца такое, што дабрачыннасцю ніяк не назавеш: служанка Жаронта ды слуга Эраста-пляменніка разам з ім самім маракуюць над тастаментам, недвухсэнсоўна даючы зразумець старому, што і паміраць трэба своечасова! Апраўданне ў кожнага падрыхтавана яшчэ за тры эпізоды да рашучага ўчынку. Старога рабуюць, мушу заўважыць, без асаблівае пажадлівае прагі, без шаленства й злабы, — рабуюць весела, крадкомназіраючы адно за адным. То Эраст /Андрэй Душачкін/ са спадарыняй Аргант /Зоя Асмалоўская/, маткаю магчымай Эраставай нявесты, прадэманструюць прыхаваны двубой характараў: яму руляць дзядзькавы грошы не менш за нявесцін тытул, а матухна Аргант, чытаючы па вачах ды інтанацыях, настойвае на шанаванай сямейнай дабрачыннасці, — ды так, што Эраст раз-пораз усмешліва... перасмыкнецца ад прыкрасці, упарта davод-



*Сцэна са спектакля «Адзіны спадкаемца» Ж.Ф.Рэньяра ў рэжысуры У.Маланкіна. Валерый Бандарэнка /Крыспен/, Аляксандр Ткачонак /Жаронт/, Вольга Клебановіч /Лізэта/, Андрэй Душачкін /Эраст/.*

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

ўяўленні пра акцёрскую школу Уладзіміра Маланкіна. І дапамагло нам гэта надзвычайна...

Маёй дыпломнай работай сталася сцэна Антыгоны і Крэона з «Антыгоны» Жана Ануя, — вось вам яшчэ адна якасць Маланкіна! Ён разумеў, што п'еса гэтая, мякка кажучы, не рэкамендавана для пастаноўкі ў савецкіх тэатрах, але заахвочваў займацца з ёю студэнтаў, паміж іншым маючы на ўвазе падзяліць з імі ўвесь цяжар магчымай адказнасці або незадаволенасці... Раеўскаму ён дазволіў рабіць выняткі з «Самазабойцы» М. Эрдмана, — тут і смеласць, і педагагічны такт, і выхаванне рыхтавалі вялікі плён на будучыню...

Заахвочваў нас як мага больш глядзець, — калі згадаць нашу практыку ў Маскве, дык менавіта з парады й рэкамендацый Маланкіна мы, беларускія студэнты-рэжысёры, траплялі на самае-самае, касавае ды найпапулярнае, альбо — на лепшае. З нагоды такой усёеднасці Маланкін смяяўся, кажучы, што арганізм мусіць увабраць у сябе як мага больш, — калі-небудзь адгукнецца ў рабоце...

Найлепшым чынам наш час супаў і ў тэатры. Праўда, ніхто так не крытыкаваў мае пастаноўкі, як Маланкін, — наколькі ён меў рацыю, я цяпер разумею. Памятаю, як складана ішлі ў мяне рэпетыцыі «Зацюканага апостала», — нават з Макаёнкам сварыўся, пра што зараз шкадую. Дык вось, Маланкін пастараўся перамяніць мае заняткі, прапанаваўшы... паехаць з ім на лодцы ў падарожжа! У тым падарожжы ён зрабіў мяне загадчыкам гаспадаркі, і я замест творчых пошукаў мусіў займацца пошукамі круп ды хлеба на прыстанках... Маланкін найвыбітна ведае прыроду, — зрабіў я тады адкрыццё. Прыроду рэчаў, — дадам цяпер. Ён усё мог адрамантаваць, зрабіць... Мог вырасціць ландышы да калядаў... Лепшых кветак я не бачыў...

Працавалі над «Апошнімі» Горкага. Аднойчы выпадкова патрапілі да Кармуніных, і Люда Кармуніна паказвала нам свой сямейны альбом. «Вось! — занепакоіўся Маланкін. — Вось глядзі, гэта — вочы Каламійцава! Гэта вялікае дзіця, у яго мусібыць дзіцячы погляд!» У яго быў надзвычайны нюх на акцёраў, — ён ведаў ім цану, і без парады Маланкіна я нікога ў трупу Рускага тэатра Беларусі тады не браў. Да гэтага часу памятаю рэпетыцыі «Узыходжання на Фудзіяму», — спектакль ставіў Маланкін, і менавіта на ім «уводзіў» мяне як галоўнага рэжысёра тэатра. Аднойчы ён папрасіў мяне прыйсці на прагон і... выказацца пра тое, што ўбачу, перад артыстамі. Я мусіў, хоць і засмуціўся. Гэта быў перадусім педагагічны акт... Але і цяпер, прызнаюся, я не люблю выступаць перад трупай, — лепей чарговаму рэжысёру пераказаць усе мае заўвагі, а ён усё, што лічыць патрэбным, няхай сам даводзіць да акцёраў...

...Па-мойму, Маланкін мог бы штогод ставіць у Рускім тэатры. Згадваю трагічныя хвіліны рэпетыцый «Мальера»: Маланкін захварэў. І, па-мойму, сябе нават пачаў супастаўляць з Мальерам, — маўляў, гэта будзе на карысць спектаклю. Памятаю той пракляты вечар, калі хворы Маланкін злаваў з прычыны занятай сцэны, — тэатр мусілі ўзнагароджваць Чырвоным сцягам. Незадаволенасць перакінулася на акцёраў... А ў чатыры раніцы — званок: «Барыс, Валодзя памёр». Я, згадваючы тую раніцу, як цяпер памятаю, не мог знайсці адзенне. Вось як іграць смерць блізкага чалавека? Дастаткова не знайсці з першага разу кашулю, нагавіцы... Мая жонка рызыкнула сказаць, мо гэта розыгрыш? Як бы я хацеў, каб гэта быў розыгрыш...

Маланкін атаясаміў свой лёс з лёсам Мальера, — разумення ён дамагаўся і ад акцёра. Маланкін сам умеў выбітна паказаць, — ягоныя паказы няможна было паўтарыць. Дарэчы, ягоныя паказы ў «Адзіным спадкаемцы» Філатаву ды Ткачонку, — знойдзеная характарнасць, бліскучая імправізацыйнасць, — я бачыў на свае вочы. Спектакль — сутыкненне асобаў ды характараў, — а ў росквіт вядомага часу па сцэне сноўдаліся ўсё больш таварышы, а ніяк не кабеты ды мужчыны... Спектакль жыве па сённяшні дзень, і гэта шмат пра што сведчыць! — хацелася б паднавіць яго, тым больш, я ведаю, што стаяла за кожнай сцэнай, за кожным эпізодам, і якія задачы ставіліся акцёрам, якія рэпеціравалі першымі...

---

зячы матцы /дачка тут блытаецца паміж іншым/ сваю пашаноту /так і просіцца з класікі: «Няўжо ў вас да мяне нічога няма, акрамя пашаноты?». Пэўна адпланаваная і, мяркую, трохфарбная роля хораша адрэтушавана ды закцэнтавана акцёрам: дачыненні такога Эраста з ружовай дабрадзейнай Ізабэлай /Алена Пастрэвіч/ нікога не падмануць...

Здаецца, парачка Лізэта-Крыспен сышлася амаль выпадкова і перадусім — намаганнямі Вольгі Клебановіч і Валерыя Бандарэнкі. У выкананні Валерыя Бандарэнкі шараговая сімпатыя да Лізэты або падсвядомая вабнасць правакуюць проста вадаспад разлікаў, жаданняў, прызнанняў, захопаў, нападаў на жаночыя дабрачыннасці; Вольга Клебановіч пацвельвае партнёра, патрапляючы, так бы мовіць, у такт намаганням ягонага персанажа: усё валіцца на Крыспена! То Эраст, то каханая Лізэта раз-пораз «падстаўляюць» яго — натарыусам, Жаронту, аптэкару Клістарэлю /адметна характарная роля выканана Яўгенам Лявонцьевым/, нават адно аднаму! У Бандарэнкавага Крыспена няма пэўнасці ў каханні; служанка Жаронта яго задавальняе як найвыгаднейшая партыя, — Лізэта наскрозь бачыць ягоныя няхітрыя мужчынскія падлікі, валодаючы вышэйшай матэматыкай... дабрадзейнага падману. І — таксама лічыць, весела, радасна, да фіналу! Праўда, Вольга Клебановіч не пашкадуе для гераіні жаноцкасці ды аддавальнай захопленасці Крыспенам. А што да развіцця дачыненняў, дык іх цудоўна накрэсліць маленькая мімічная фарсавая сцэна Крыспена з Эрастам напрыканцы першага акта, у якой Андрэй Душачкін давядзе, так бы мовіць, рэшту прыстойнасці свайго Эраста /мяжа між тым вызначана проста: рабі як выгадней/, — той вымагае з Крыспена тлумачэнняў: слуга, ратуючы спадчыну ад расцягвання па кавалках, прадстаўляўся Жаронту ў ролях уяўных сваякоў. Крыспен амаль выпетраны, стомлены прадстаўленнем і хоць пачуваецца пераможцам, ды прадчувае магчымыя непрыемнасці. Красамоўныя жэсты і ненайграннасць ацэнак Бандарэнкі на красавіцкім спектаклі цудоўна падкрэсліваў Душачкін, зацікаўлена прыскорваючы рашучасць ягонага персанажа ды адначасова трымаючы дыстанцыю — на ўсялякі выпадак. А выпадак надарыцца хутка: кемлівы Крыспен сыграе ролю... Жаронта перад натарыусамі, складаючы тастамент /натарыуса Скрупуля з ягонаю жалезнаю ... пранiклівасцю кручкатвора ўвасобіў Іосіф Ражба; Гаспара, каларытнага памочніка — Віталь Быкаў/. Як вужака на патэльні закруціцца Бандарэнкаў герой, падтрыманы няпэўнаю дапамогаю хаўруснікаў: Жаронт такі акрыяе ды пачне пакутліва згадваць абставіны складання найважнай паперыны!

Колькі разоў на маёй тэатральнай памяці спектакль ператвараўся ў бенефіс Аляксандра Ткачонка! Ягоны Жаронт, кароль хворых, трымае тон ды ўзровень запатрабаванняў да партнёраў, надаючы адметнага каларыту кожнай сцэне. Па-ранейшаму вохкае зала, калі Ткачонак, спінай да яе, хістаецца проста на беражку падмосткаў; па-ранейшаму выбухі шчырага рогату з дамешкам спачування суправаджаюць кожны крок ягонага персанажа. Але роля Жаронта, якая, здавалася б, перадусім вымагае яскравай характарнасці ды тэхнічнай выбітнасці, на красавіцкім прагглядзе набыла іншы кшталт: камічны стары, недарэка з летаргічнымі прыпадкамі, блазен, які асмеліўся балабоніць пра ўласны шлюб з маладзенькай Ізабэлай, прастакаваты ёлупень, што слухае ўсіх і кожнага ды ніяк не вырашыць, каго ж паслухацца, недавярак ад хваробы, з якога прастарэкуюцца /хто ў вочы, хто з пашанотаю/ усе і кожны, раптоўна — перадусім акцёравым намаганнем — у старой фарсавай форме прапануе хіба не новы змест, выдаючы на філасофію старасці, якая паблажліва дазваляе даводзіць сябе да летаргіі, але не памыляецца ні ў людзях, ні ў спадкаемцах, ні ў іх патаемных намерах. Але іншых, інакшых /лепшых?/ яму не прычакаць, дый хто давядзе, што гэтыя — горшыя? Яны проста пільнуюць сваё, як Жаронт — сваё... Не магу сцвярджаць, што Аляксандр Ткачонак ссоўвае альбо мяняе націскі першапачатковай задумы рэжысёра /скуль мне цяпер з пэўнасцю пра яе меркаваць?/, але раней, раней, калі Жаронтава ўбранне яшчэ не выдавала на жабракова, смеху і шчырага рогату ў зале зазвычай было мора, а цяпер з гэтага мора выплываеш з залатою рыбкаю-стрэмкаю, — тая нібыта выпадкова патрапляе ва ўсеагульны глядацкі гумор: шчымлівасць адыходу Жаронта, убогі выгляд ягонага жытла, разліковая прыстойнасць акружэння, нарэшце, самое паветра залы, якое зусім не шчодра сілкуе радасцю спектакль, вымагаюць прыцішыць смех ды пільней узірацца ў чатыры дабрадзейныя паставы ў фінале...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

---

**КОНКУРСЫ**

# У СЦЕНАХ, ЯКІЯ ПОМНЯЦЬ...

***Першы Міжнародны конкурс піяністаў імя С.В.Рахманінава быў прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння і 50-годдзя з дня смерці кампазітара***

ПЕРВЫЙ МЕЖДУНАРОДНЫЙ
КОНКУРС ПИАНИСТОВ
ИМЕНИ С.В. РАХМАНИНОВА



МОСКВА 1993

Гэта была доўгачаканая падзея. Першыя ж гукі вялікай рахманінаўскай музыкі ў Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі быццам абвясцілі новае свята ў нашым культурным жыцці. Першы Міжнародны рахманінаўскі — гэта сціплая даніна генію, які падараваў чалавецтву скарбы сапраўднай духоўнасці, мастаку, перад якім схіліўся свет, вялікаму музыканту, які насіў тры кароны — кампазітара, піяніста і дырыжора. Сімвалічна, што конкурс праходзіў у Маскоўскай кансерваторыі, сцены якой памятаюць і Рахманінава-студэнта, і трыумфальныя выступленні сталага Майстра, і дзе лунае Ягоны дух.

Разам з групай калег, запрошаных Аргкамітэтам з розных краін далёкага і блізкага замежжа, я меў магчымасць сачыць за конкурсным жыццём. Цікавасць да яго была вялікая. Шэраг адметнасцяў адразу ж вылучыў гэты конкурс у лік самых цяжкіх і прэстыжных музычных спаборніцтваў. Тут і выключна складаная праграма /толькі з твораў Рахманінава/, і такія нетыповыя для большасці конкурсаў выпрабаванні, як выступленне ў камерным ансамблі і ў якасці канцэртмайстра. Няпроста напярэдадні І тура прайсці і папярэдняе адборачнае праслухоўванне, ад якога вызваляюцца толькі лаўрэаты міжнародных конкурсаў. І, нарэшце, асаблівую адказнасць надае музыкантам выступленне ў Маскоўскай кансерваторыі, якая з'яўляецца сусветна прызнаным цэнтрам фартэпіяннага мастацтва.

Разумееш трапятлівае хваляванне канкурсантаў, дазнаўшыся пра склад міжнароднага журы. У яго ўвайшлі масцітыя прафесары Маскоўскай кансерваторыі Вера Гарнастаева, Сяргей Дарэнскі, Яўгеній Малінін; вядомыя замежныя выканаўцы і педагогі: Фані Уотэрман і Рычард Бакет з Вялікабрытаніі, Даніэль Полак з ЗША /віцэ-прэзідэнт конкурсу/, Янаш Шальем са Швецыі і іншыя. Узначаліў журы выдатны піяніст і педагог народны артыст СССР прафесар Віктар Мяржанаў. З імем гэтага музыканта звязана не толькі сама ідэя конкурсу, але і мноства іншых «рахманінаўскіх» ініцыятыў: правядзенне курсаў Вышэйшага фартэпіяннага майстэрства на радзіме кампазітара, удзел у музычных фестывалях яго памяці. Невыпадкова В.Мяржанаў з'яўляецца прэзідэнтам Таварыства імя С.Рахманінава.

На гэтым конкурсе журы абрала прагрэсіўную форму судзейства. Наўмысна адмовіліся ад адкрытага абмеркавання пасля ІІІ тура, зважаючы на тое, што члены журы нярэдка з'яўляюцца педагогамі фіналістаў. На гэты раз пераможцаў і іх іерархію вызначала сума сярэдніх балаў за ўсе выступленні, і лічба гэтая рассакрэчвалася для членаў журы толькі пасля заканчэння конкурсу. Пры гэтым яны не ацэньвалі ўласных вучняў. Такім чынам, ствараліся ўмовы для максімальнай аб'ектыўнасці.

Склад удзельнікаў ва ўзросце ад 17 да 35 гадоў быў досыць разнастайны. Акрамя музыкантаў, якіх мы прывыклі называць «нашымі», прыехалі піяністы з Фінляндыі, Вялікабрытаніі, ЗША, Кітая, Паўднёвай Карэі, Японіі. Асабліва сур'ёзным выпрабаваннем рахманінаўская праграма сталася для іншаземцаў. Для выканання гэтай музыкі недастаткова добрага прафесіяналізму, неабходна нарадзіцца з рускай душой. «Цяжкасць», якая ўжо вядомая па конкурсах імя П.Чайкоўскага, і якая, пэўна, адлюстроўвае тое галоўнае, што родніць музыку двух вялікіх аўтараў. Загадкавая «руская душа» адкрылася толькі Хадэа Харада з Японіі. Адзіная з іншаземцаў, яна аказалася ў ліку 15 музыкантаў, дапушчаных да ІІ тура, а потым стала і лаўрэатам V прэміі.

Галоўнае адкрыццё — юная пераможца конкурсу, 17-гадовая Вольга Пушачнікава. Яна вучаніца вядомага педагога Я.Цімакіна, сярод знакамітых гадаванцаў якога, напрыклад, — Міхаіл Плятнёў. У В.Пушачнікавай не толькі абаяльнасць юнацтва і майстэрства, без якога немажлівае, напрыклад, выкананне найскладанага Трэцяга канцэрта Рахманінава, у ёй адчуваецца велізарны творчы патэнцыял, і гэта, відаць, вызначыла выбар журы. Другая прэмія — у студэнта Маскоўскай кансерваторыі Максіма Філіпава, трэцяя — у 20-гадовага пецярбуржца Марка Вайнера.

Прадстаўніком нашай рэспублікі на конкурсе быў студэнт V курса Беларускай акадэміі музыкі Цімур Сергяеня. Ён ужо вядомы як пераможца конкурсу піяністаў. Цяперашняе яго выступленне ў Маскве, асабліва на І туры і ў камерным раздзеле ІІ тура, выклікала мноства сімпатый. У гэтым я пераканаўся, абменьваючыся думкамі з калегамі, наведваючыся ў ложу прэсы, якая асвятляла конкурс. Нельга папракнуць таленавітага музыканта за тое, што ён не выйшаў у фіналісты. Конкурс ёсць конкурс, высокі яго ўзровень, моцныя канкурэнты. Дастаткова сказаць, што з васьмі пераможцаў шэсць ужо з'яўляюцца лаўрэатамі найцяжэйшых міжнародных конкурсаў, прычым трое — уладальнікамі першых прэмій. У такім разе годнаснае выступленне Цімура на вельмі адказных музыканцкіх спаборніцтвах можна лічыць поспехам.

Асаблівай падзеяй конкурсу была прысутнасць на ім унука кампазітара — Аляксандра Барысавіча Рахманінава, які жыве цяпер у Францыі. У час эканамічных цяжкасцей немалаважная яго фінансавая падтрымка: спецыяльна для пераможцы конкурсу ім устаноўлена прэмія ў 10 тыс. амерыканскіх долараў.

... А пакуль сённяшнія лаўрэаты атрымліваюць першыя запрашэнні. Ужо вядома, што пераможца конкурсу выступіць на фестывалі ў Люцэрне. 4 чэрвеня адбудзецца канцэрт лаўрэатаў у Вісбадэне. І што асабліва радуе — раней за шмат каго іншага ігру маладых лаўрэатаў пачулі ў Мінску. Яны былі запрошаны Беларускай дзяржаўнай філармоніяй на фестываль «Мінская вясна», прысвечаны юбілею С.Рахманінава.

Дарэчы, у адным з канцэртаў «Вясны» мы пачулі таксама беларускіх піяністаў — пераможцаў конкурсу на лепшае выкананне твораў Рахманінава, нядаўна праведзенага Беларускай акадэміяй музыкі.

**Уладзімір НЕХАЕНКА,**
дэкан фартэпіяннага і кампазітарска-музыказнаўчага факультэта Беларускай акадэміі музыкі, дацэнт

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# «ГРАМАДЗЯН СУВЕРЭННАЙ РЭСПУБЛІКІ ТРЭБА ВЫХОЎВАЦЬ!»

Пакуль не напісана гісторыя беларускай культуры, можна пачуць шмат недарэчных меркаванняў з абгрунтаванымі высновамі пра нашу мову. Асабліва ўвіхаюцца рускія асаднікі ў размовах і сродках масавай інфармацыі. Я не гісторык і не філолаг, але хачу сказаць пра нашу мову хоць у кароткім артыкуле.

Калі ў XIV стагоддзі было заснавана Вялікае княства Літоўскае, у якасці дзяржаўнай мовы прынялі — беларускую. Ёй карысталіся тры чвэрці насельніцтва, пісаліся летапісы, вяліся дыпламатычныя справы. Так цягнулася амаль 300 год. Пагроза з боку Аўстрыі, Прусіі і Расіі вымусіла Вялікае княства Літоўскае пайсці спачатку на ваенны, а потым і эканамічны саюз з Польшчай. У 1569 годзе была заключана Люблінская унія, па якой Вялікае княства Літоўскае стала часткай Польшчы. Расія, аднак, не адмовілася ад намеру далучыць амаль «рускамоўную» Літву. Царскую палітыку праводзіла праваслаўная царква. Ёй процідзейнічаў каталіцкі касцёл. Людзі хваляваліся немаведама з-за чаго. Нашы мудрыя продкі вырашылі зрабіць сваю царкву праз унію праваслаўнай і каталіцкай. У гэтай царкве богаслужэнне вялося на беларускай мове, а не на стараславянскай ці польскай.

Палякі як маглі ўмацоўвалі маналітнасць садружнасці. З 1697 года было ўведзена абавязковае карыстанне польскай мовай, як адзінай дзяржаўнай. Гэтым хацелі паланізаваць беларускае насельніцтва. Вельмі прыкра, але з гэтым згадзіліся на сойме Вялікага княства магнаты-беларусы. Польская мова стала і літаратурнай. Веданне яе лічылася прэстыжным для культурнага чалавека. Першымі паланізацыі падвергліся, вядома, дваране /па- нашаму — шляхта/ праз дзяржаўную службу, культуру, рэлігію. Ішла паланізацыя даволі паспяхова і добра ўкаранілася. 3-га траўня 1791 года згодна з Канстытуцыяй, прынятай соймам у Варшаве, Вялікае княства Літоўскае наогул перастала існаваць і было далучана да Польшчы. Гэта яе, аднак, не выратавала ад чарговага падзелу. Тым не менш, палякі свайго дасягнулі. Калі пасля 1793 года ўсё Вялікае княства Літоўскае з часткай Польшчы было далучана да Расіі, шляхта амаль зусім не ўспрыняла рускую мову. Нават у канцы XIX стагоддзя, праз сто год прымусовай русіфікацыі, асноўная частка памешчыкаў лічылася польскага паходжання. Так, па статыстычных звестках аб Мінскай губерні за 1876 год, з 6058 землеўладальнікаў 1953 былі рускага пахождання, а 4136 — польскага. Як бачыце, пра беларусаў няма і гаворкі. Наша нацыя доўгі час была пазбаўлена сваёй інтэлігенцыі. За ўсё XVIII стагоддзе не было надрукавана ніводнага мастацкага твора на беларускай мове.

Асноўным носьбітам нашай мовы быў народ. Сваю мову, культуру, звычаі ён не мяняў ніколі. Мабыць, вось чаму ў нас захавалася так многа самабытнага.

Цікава адзначыць, што руская шляхта таксама не была маналітнай па нацыянальным складзе. Згодна з дадзенымі т.Лемэрсэра-Кэлькэтэя, змешчанымі ў кнізе «Мангольскі свет», у канцы XIX стагоддзя ў Расіі 156 самых багатых сем'яў былі татарскага паходжання, 233 — польскага і літоўскага /палякі, беларусы/, а 168 былі Рурыкавічы /украінцы/. Тым не менш, яны стваралі культуру, якую цяпер завуць рускай.

Пасля паўстання 1830 — 1831 гадоў царызм пачаў фарсіраваць русіфікацыю. Перш за ўсё ўзяліся за адукацыю. У 1834 годзе ў Віцебску адкрылі рускую настаўніцкую семінарыю. У 1840 годзе ўведзена абавязковае навучанне на рускай мове, зачынены ці ператвораны ў цэрквы ўсе уніяцкія касцёлы. Мясцовых настаўнікаў выслалі ўглыб Расіі. Замянілі іх новымі, рускімі, якім значна павысілі аплату. З таго часу многія расійскія інтэлігенты носяць беларускія прозвішчы. Сярод іх шмат адукаваных людзей, якія не забываліся на свае карані. На жаль, ёсць і такія, што перарадзіліся ў янычараў.

У пачатку XX стагоддзя большая палова шляхты ўсё-такі была русіфікавана. Засталіся толькі сяляне і рамеснікі. За іх узяліся як след, асабліва перад рэвалюцыяй 1905 года. Але працэс адраджэння нацыі нельга было спыніць. Этнографы і фалькларысты І.Грыгаровіч, П.Шпілеўскі, П.Шэйн, М.Нікіфароўскі, Е.Раманаў, Я.Карскі і іншыя зрабілі навуковыя распрацоўкі беларускай мовы. Многія паэты і пісьменнікі сталі пісаць свае творы па-беларуску. Царскаму ўраду прыйшлося адступіць і згадзіцца на выданне «Нашай Нівы» і яшчэ некалькіх беларускамоўных газет. Між іншым, нягледзячы на вялікія намаганні, сяляне як гаварылі па-беларуску, так і працягвалі. Больш таго, да іх пачала далучацца інтэлігенцыя. Быў у нас і светлы дзень. 16 студзеня 1916 года нямецкі фельдмаршал Гіндэнбург, свяці, Божа, над яго душою, аддаў загад, паводле якога беларуская мова аб'яўлялася ў нашым краі роўнай з іншымі мовамі. Адразу было адчынена каля 300 беларускіх школ і семінарый. Шкада, што цягнулася гэта нядоўга. Пасля рэвалюцыі і ўстанаўлення дзяржаўнасці спачатку 25 сакавіка 1918 года — БНР, а потым — БССР на кароткі час наша мова стала ізноў дзяржаўнай. Аднак, пачынаючы з 1930 года, пачалося праследаванне «нацдэмаў». Дасталося і мове. Яе «упрощали» і нішчылі да самага пачатку вайны. Вядомую граматыку Б.Тарашкевіча «модернизировали». Носьбітаў культуры і мовы — інтэлігентаў ізноў «пачысцілі» пасля вайны ў 1949 годзе. А чаму не супраціўляліся? Калгасны лад у сялян, бездухоўнасць інтэлігенцыі паралізавалі нацыю. Усё, што хоць трошкі адраджалася, глушылі спецыяльныя расійскія асаднікі. Рознымі метадамі заахвочвалася міграцыя беларусаў у Расію, а рускіх — наадварот. Дастаткова адзначыць, што ў канцы 80-х гадоў кожны пяты беларус жыў за межамі сваёй рэспублікі. У райкомах, гаркомах і абкомах рускія былі другімі сакратарамі партыі і адказвалі за падбор і размяшчэнне кадраў. Вынікам гэтага стала небывалая русіфікацыя. На асноўных пасадах у дзяржаўным апараце пераважае руская нацыянальнасць. Яна і задае тон. Дайшло да таго, што калі на прадпрыемстве ці ў навуковай установе хто загаворыць на беларускай мове, на яго глядзяць, прабачце, як на дурня. У арміі яшчэ сёння ставяць на месца — «говорите нормальным языком!». Больш таго, у Вярхоўным Савеце толькі тры ці чатыры дзесяткі дэпутатаў могуць свабодна карыстацца дзяржаўнай мовай, астатнія сяк-так і мараць аб двухмоўі. У грамадскіх месцах і ўстановах нашу мову ўжо, быццам бы, церпяць. Можа, закон дапамагае, а, можа, сталі трохі пабойвацца большасці. Сапраўды, паспрабавалі б сказаць што ў суседняй Прыбалтыцы. Там адразу дадуць адпор.

А чаму мы такія рахманыя? Людзі сталі абыякавыя. Ат, нешта будзе. А чаго варта калгаснае рабства? Мая маці толькі ў 80 год, перад смерцю, атрымала пашпарт. Часткова гэтая палітыка дзейнічае і сёння. Для сялян — каб не ехалі ў горад, для інтэлігентаў — за мяжу.

Другі, не менш важны момант, — нас пазбавілі нашай гісторыі. Прыпомніце, як узрушыліся рускія, калі восенню 1992 года мы святкавалі перамогу пад Оршай на рэчцы Крапіўна. А чаму б не зрабіць гэта сапраўды святам для ўсіх? Можна святкаваць яшчэ перамогу пад Грунвальдам, Ляхавічамі, Полацкам і іншых месцах. Дзякуй Богу, было іх дастаткова. Гэта паспрыяе і еднасці нацыі. Вось яўрэі больш як 2000 год таму адзін раз перамаглі сірыйцаў у Макавейскай вайне, а святкуюць перамогу і сёння. Бо гэта дазволіла ім другі раз асвяціць свой храм у Іерусаліме і застацца самімі сабой, як нацыя.

Сёння большасць Вярхоўнага Савета хоча ўвесці двухмоўе і прынізіць зноў беларускую мову. Аргументы раскідваюцца ў сродках масавай інфармацыі направа і налева. А мы церпім.

Мусіць, трэба ажывіць фельдмаршала Гіндэнбурга. Нашы людзі выберуць яго ў Вярхоўны Савет, каб растлумачыў дэпутатам тое, што ўсім даўно вядома: «У кожнай дзяржавы павінна быць свая мова і свая сімволіка. Ёсць не згодныя? Кругом! Шагам марш! Туды, адкуль прыйшлі!» Вядома, гэта будзе супярэчыць нашым звычаям, але, згадзіцеся, нельга, каб меншасць так цынічна садзілася на голаў большасці. Выхоўваць трэба грамадзян суверэннай рэспублікі!

**Вячаслаў ПІЛІПЧЫК**

*г.Мінск*

# СЫМОН БУДНЫ І БЕЛАРУСКІ МЕНТАЛІТЭТ

*(Пачатак на стар. 5)*

культуры ў ВКЛ, пачынаючы з сярэдзіны XVI ст., паступова пачаў згасаць, на што былі свае прычыны. І гэты спад, гэты адкат у нацыянальнай культурнай палітыцы кіруючых колаў адным з першых заўважыў лепшы сябра і аднадумец С.Буднага Васіль Цяпінскі. У сваёй прадмове да «Евангелля» ён ад імя адраджэнскай беларускай інтэлігенцыі выявіў боль за занядбанне культуры і мовы.

Лёсавызначальным фактарам, які істотна ўплываў на беларускі менталітэт, прычым, не толькі XVI — першай паловы XVII ст., але і ў наступныя стагоддзі, было геапалітычнае становішча ВКЛ, якое можна вызначыць наступным чынам: паміж Усходам і Захадам, або Рускай дзяржавай і Польшчай.

Блізкасць культур, моў і веры ўсходнеславянскіх народаў — гэта фактар, які дзейнічае і сёння ў адносінах паміж імі. Аднак існавалі і іншыя фактары, якія ўплывалі на адносіны паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, беларусамі і рускімі. Перш за ўсё, гэта фактары палітычныя, барацьба за гегемонію ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне, якая пачалася амаль што адразу пасля распаду так званай Кіеўскай Русі, паміж першымі вялікімі князямі ВКЛ і Масквы.

Справа ў тым, што вялікія князі маскоўскія аб'явілі сябе адзінымі спадкаемцамі ўлады кіеўскіх князёў, хаця гістарычна на гэтую ролю з няменшай падставай маглі прэтэндаваць полацкія, навагрудскія, мінскія, віцебскія і іншыя беларускія галіны рурыкавічаў. Пасля ўтварэння ВКЛ сцверджаная тут абеларушаная дынастыя гедымінавічаў уступіла ў саперніцтва з маскоўскімі рурыкавічамі. Барацьба цяпер ішла паміж дзвюма самастойнымі і незалежнымі дзяржавамі і магла вырашыцца толькі на падставе моцы. «Хроніка Літоўская і Жамойцкая» сведчыць: «Дмитрий, великий князь московский... умыслил под Литвою Киевское, Витебское и Полоцкое княство войною доходити, обецуючы... Литву всю огнем и мечем завоевати» /ПСРЛ, т.32. М., 1975, с.60/. Пасля ўзмацнення Маскоўскай дзяржавы, вызвалення яе ад татарскага іга і паступовага пераўтварэння ў шматнацыянальную ўзрастаюць імперскія амбіцыі маскоўскіх вялікіх князёў, а потым і цароў. Фармуецца ідэалогія трэцерымізму /«Масква — трэці Рым»/, канцэпцыя маскоўскага цара як адзінага спадчынніка ўлады кіеўскіх князёў, як гаспадара не толькі «ўсяе Вялікія», але і «Малыя і Белыя Русі». Гэтая імперская ідэя прадвызначала і знешнюю палітыку Рускай дзяржавы, яе адносіны з ВКЛ, а потым і з Рэччу Паспалітай.

Крытычным пунктам у палітычных адносінах паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ з'явілася Лівонская вайна, якая прынесла шмат няшчасцяў і беларускаму, і рускаму народам. М.Кастамараў, як і некаторыя іншыя рускія гісторыкі, лічыў Лівонскую вайну вялікай палітычнай памылкай Івана IV, які замест таго, каб накіраваць войска супраць Крымскага ханства і пазбавіць дзяржаву ад заўсёдна пагражаючай рускім землям навалы /менавіта так яму радзілі Адашаў, Сільвестр, Курбскі/, накіраваў яго супраць адзінакроўных і адзінаверных братоў рускіх — беларусаў.

Лівонская вайна, боязь падпасці пад таталітарна-дэспатычную уладу маскоўскага цара-тырана адштурхнулі беларускіх магнатаў і шляхту ВКЛ ад Усходу, прымусілі іх больш шчыльна звязаць свае інтарэсы з Захадам, інтарэсамі польскіх магнатаў і шляхты, пайсці на больш цесную палітычную і ваенную кансалідацыю з Польшчай, рымскай царквой; абумовілі неабходнасць з дзвюх бед выбіраць меншую. «Шляхецкія вольнасці шляхецкай рэспублікі, — пішуць сучасныя беларускія гісторыкі В.Мялешка, З.Капыскі, П.Лойка, — павярнулі пануючы клас беларускіх зямель у бок Польшчы, заставіўшы адвярнуцца ад самадзяржаўнай Расіі» /Скарына і яго эпоха. Мн., 1990, с.58/. Менавіта ў часы Лівонскай вайны і пасля яе ўзмацнілася палітычная, ідэалагічная і культурна-рэлігійная экспансія Захаду, паскорана пайшоў працэс каталізацыі і паланізацыі. Сумным вынікам Лівонскай вайны была тая акалічнасць, што многія беларусы ў часы «рускай смуты» апынуліся як інтэрвенты пад мурамі Масквы, ды і ў самой Маскве.

Трэба прызнаць, што геапалітычнае становішча паміж «Сцылай» Польшчы і «Харыбдай» Маскоўскай дзяржавы істотна ўплывала на ўсе бакі жыцця беларуска-летувіскага грамадства, у тым ліку на развіццё духоўнай культуры.

С.Будны быў адным з тых беларускіх інтэлігентаў, якія, пратэстуючы супраць усходняй дэспатыі, былі рашучымі праціўнікамі заходняга рэлігійна-ідэалагічнага прымусу, выступалі за свабоднае развіццё беларускай культуры, інтэлектуальную і рэлігійную талерантнасць, духоўную свабоду, заканапраўе. С.Будны з вялікай прыязнасцю і павагай адносіўся і да расійскіх прагрэсістаў — першадрукара Івана Фёдарава, вальнадумца, прыхільніка талерантнасці Арцемія /дарэчы, апошні ў сваіх лістах называў Буднага «возлюбленный брате»/ — з аднаго боку, і да еўрапейскіх гуманістаў — палякаў Анджэя Фрыча Маджэўскага, Яна Каханоўскага, італьянца Ларэнца Валы, галандца Эразма Ратэрдамскага — з другога. Як Скарына, Цяпінскі, Сапега, Волан, браты Зізаніі, Смятрыцкі і іншыя, Сымон Будны з'яўляўся адным са стваральнікаў беларускага менталітэту эпохі Адраджэння, такіх яго ўсталяваных у грамадскай свядомасці паняццяў і пачуццяў, як нацыянальна-культурная, рэлігійная і інтэлектуальна-творчая свабода, заканапраўе, павага да чалавечай годнасці і чалавечага таленту — незалежна ад канфесійнай, нацыянальнай, рэгіянальна-дзяржаўнай прыналежнасці.

**С.ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук**

**P.S.** Пасля таго, як гэты артыкул быў здадзены ў рэдакцыю, 24 лютага аўтар разам з Іванам Саверчанкам і групай віцебскіх і полацкіх настаўнікаў, работнікаў культуры і студэнтаў, якую ўзначальваў энтузіяст беларускага краязнаўства Алег Куржалаў, наведаў некаторыя мясціны, дзе жыў, пісаў і друкаваў свае творы Сымон Будны, менавіта, Заслаўе, Лоск; дзе ён скончыў свае дні — Вішнева.

Вялікае ўражанне на ўсіх нас зрабіла наведванне Лоска, дзе беларускі мысліцель правёў свае лепшыя гады, і асабліва лоскай школы. Вучні віталі нас на цудоўнай беларускай мове. «У нас ніколі не было альтэрнатывы, якой мовай карыстацца і на якой выкладаць ва ўсе часы — толькі на роднай, толькі па-беларуску», — сказала нам загадчыца навуковай часткі Яніна Кананові ч. У школе даўно створаны музей Сымона Буднага, заснавальнікам якога з'яўляецца Іван Кананові ч, былы выкладчык гісторыі, цяпер пенсіянер. /Дарэчы, Кананові чы — «фірменнае» лоскае прозвішча/. Яніна Кананові ч апавядае, што школьны музей прывёў у захапленне Алега Лойку, які паўжартам-паўсур'ёзна сказаў, што тут матэрыялу на некалькі дысертацый.

І падумалася: як гэта добра, што ў народа ёсць духоўная апора, якая дапамагае яму захоўваць сваю культуру, сваю мову, сваю нацыянальную годнасць.

**С.П.**

ПРЭМ'ЕРЫ

## Глядзіце, дзеці, казку



У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі рэспублікі — прэм'ера. Тут пастаўлены дзіцячы спектакль на беларускай мове «Вясенняя песня». Музыку да яго напісаў беларускі кампазітар Віктар Войцік, лібрэта — Святланы Клімковіч. Паставіла вясёлую займальную казку рэжысёр-пастаноўшчык Сусана Цырук, музычны кіраўнік — дырыжор Глеб Аляксандраў, мастак-пастаноўшчык — Юрый Харыкаў.

БЕЛІНФАРМ

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ*

У ТВОРЧЫХ САЮЗАХ

## Бахаўскі семінар

Калі ўважліва прасачыць за музычнымі падзеямі, якія адбыліся ў Мінску падчас школьных канікул, то побач з канцэртамі, аглядамі, конкурсамі на вялікіх і маленькіх пляцоўках адметна акрэсліўся метадычна-практычны семінар па «вузкім» прафесійным /фартэпіяна/ профілі пад назвай «Творы І.С.Баха ў педагагічным рэпертуары. Праблемы стылю». Семінар быў арганізаваны Рэспубліканскім ліцэем пры Беларускай акадэміі музыкі, Саюзам музычных дзеячаў Беларусі і яго Мінскім гарадскім аддзяленнем. Сабралася каля 300 удзельнікаў з усіх куткоў Беларусі: выкладчыкаў, студэнтаў, навучэнцаў. Вядучая семінара — Вера Носіна, дацэнт Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных. Чатыры дні яна была для ўдзячных слухачоў і лектарам, і выкладчыкам з паказам адкрытых заняткаў, сваёй педагагічнай работы /канцэрт вучаніцы ССМШ пры Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных Ліды Рэзнікавай/, і выканаўцай уласнай канцэртнай праграмы, і наогул, асобай надзвычай цікавай. У праграме семінара ўдзельнічала дацэнт РАМ Ірына Іванова. Дзейнасць Мінскага аддзялення Саюза музычных дзеячаў Беларусі /старшыня праўлення У.Кузьменка/ толькі пачынаецца, і ў яго планах — аналагічныя семінары па ўсіх спецыянальнасцях і напрамках.

Э.А.

ТЭАТР

## Жабкі спяваюць

«Жабкі і чарапашка» У.Караткевіча /п'еса Сяргея Кавалёва/ зазналі святло рампы 16 красавіка ў Маладзечанскім лялечным тэатры «Батлейка»; музычным прадстаўленнем /музыка Уладзіміра Кур'яна/ названы спектакль стваральнікамі, а менавіта — рэжысерам Віктарам Калядзічам /гэта ягоны дыпломны спектакль, Віктар сёлета атрымлівае дыплом рэжысёра-лялечніка/ ды мастаком Валерыем Рачкоўскім. Усе ролі ды спевы ў спектаклі выконвае Ірына Камышава.

## Чаруюць... «Суніцы»

Аляксей Якімовіч вядомы ў рэспубліцы як дзіцячы пісьменнік сваімі кнігамі «Гордзіеў вузел» /1987 г./ і «Эльдарада просіць дапамогі» /1989 г./. «Чарадзейныя суніцы» — гэта ягоны дэбют у драматургіі. Спектакль пастаўлены рэжысёрам Сяргеем Бачковым у Слонімскім беларускім драматычным тэатры.

Вясковыя сябры Янка /Мікалай Сцешыц/ і Алеська /Іна Ёрш/ заблудзілі ў лесе. Блукаючы, яны сустракаюцца з пачварай /Віктар Багушэвіч/, якую прываліла дрэва. Дзеці выратавалі пачвары жыццё, і за гэта атрымалі ўзнагароду — чарадзейныя суніцы розных колераў. Паспытаўшы іх, Янка і Алеська трапляюць у казачны свет, дзе гаспадарыць і кіруе пан Смактун /Аляксандр Камінскі/ са сваім стражнікам /Юрый Грасевіч/, а таксама пан Альхоўскі /Уладзімір Навумік/ і пані Крывулька /Вікторыя Сямёнава/...

Як і прынята ў казцы: у «Чарадзейных суніцах» шчаслівы фінал, — з песняй і музыкай, якую напісаў для спектакля яго рэжысёр Сяргей Бачкоў.

С.ЧЫГРЫН

*На здымку: сцэна са спектакля «Чарадзейныя суніцы».*

*Фота М.СУПРУНА*

ВЫСТАВЫ

## Паспяшайцеся ў Нацыянальны музей...

Мы распавядалі ўжо аб выставе «Жыве Беларусь», прысвечанай 75-годдзю Беларускай Народнай Рэспублікі. Тым не менш, ёсць патрэба нагадаць пра яе зноў, зважаючы хоць бы на тое, што цікавасць да выставы вялікая. Калі вы не пабывалі яшчэ ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі — паспяшайцеся зрабіць гэта. Нагадваем яго адрас: г.Мінск, вул.К.Маркса, 12. Музей працуе штодзённа, акрамя серады, з 11 да 18 гадзін. Даведкі можна атрымаць па тэлефоне 27-43-22, па ім жа прымаюцца і заяўкі на экскурсіі.

У музеі вас чакае знаёмства з унікальнымі матэрыяламі, якія аб'яднаны па тэмах «Беларусь і палітыка русіфікацыі ў XIX ст.», «Развіццё нацыянальнай ідэі ў пачатку XX ст.», «Абвяшчэнне БНР і яе дзейнасць», «Беларускія арганізацыі па-за межамі Беларусі», «Нацыянальнае жыццё Заходняй і Усходняй Беларусі ў міжваенны час», «Дысідэнцкі рух па Беларусі 60-80-ых гг.», «Беларускае замежжа».

## Творы Марачкіна ў Светлагорску

Пашчасціла аматарам выяўленчага мастацтва Светлагорска і гасцям горада. Два месяцы ў мясцовай карціннай галерэі «Традыцыя» працавала выстава твораў заслужанага мастака Беларусі, загадчыка кафедры жывапісу Акадэміі мастацтваў Аляксея Марачкіна. За гэты час тут пабывала некалькі тысяч прыхільнікаў яго таленту. Яны яшчэ раз пераканаліся, як паслядоўна А.Марачкін у розных жанрах распрацоўвае нацыянальную тэматыку.

На творчым рахунку мастака партрэты многіх славутых людзей Беларусі, пачынаючы з далёкай мінуўшчыны. Гэта Сімяон Полацкі, Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Рагнеда, Мікола Гусоўскі і многія іншыя.

У кнізе водгукаў з'явіліся ўдзячныя словы, у якіх захапленне такімі творамі, як «Сакавік», «Купальскім ранкам», «Трыумф Мураўёва-вешальніка», «Хто з вас без граху?», «Успамін аб роднай вёсцы», «Партрэт Ірыны», «Кветкі маёй Радзімы». І вядома ж, не засталіся па-за ўвагай творы, аб'яднаныя ў трыпціху: «Зніч», «Зянон», «Аляксандр».

І вось А.Марачкін разам з жонкай Ірынай Сяргееўнай і сынам Ігарам прыехаў у Светлагорск на закрыццё выстаўкі. Шмат шчырых слоў пачуў мастак ад народнага дэпутата Беларусі, старшыні гарадскога Савета народных дэпутатаў А.Якабсона, намесніка загадчыка гарадскога аддзела народнай адукацыі В.Кавалёвай, прадстаўніка цэлюлозна-кардоннага камбіната Р.Мурашкі і іншых.

Госць падзяліўся думкамі аб уласнай творчасці, месцы мастака ў нашым грамадскім жыцці, правёў своеасаблівую экскурсію па творах, выстаўленых у дзвюх залах.

Аляксей Антонавіч падарыў карціннай галерэі «Традыцыя» адну са сваіх графічных работ і паабяцаў, што неўзабаве светлагорцы змогуць пабачыць выставу твораў мастакоў суполкі «Пагоня», якую ён узначальвае.

І.КАТЛЯРОЎ



*А.Марачкін выступае перад удзячнымі гледачамі.*

*Фота В.СТРЫБУКА*

ДРУК

## «Марк Шагал» і мецэнаты

Кніжка «Марк Шагал. Асноўныя даты жыцця і творчасці» выдадзена на радзіме славутага мастака ў Віцебску.

Аўтар выдання віцебскі краязнаўца Аркадзь Падліпскі сабраў пад адну вокладку самыя розныя, у тым ліку малавядомыя факты з жыцця Марка Шагала. Безумоўна цікавая кніжка наўрад ці ўбачыла б свет у наш цяжкі час, калі б усе матэрыяльныя клопаты па яе выданні не ўзяло на сябе малое прадпрыемства «Макраміцэты».

Прыемна, што сярод прадпрымальнікаў ёсць людзі, якія разумеюць мастацтва і спрыяюць яго развіццю.

## Трэці нумар «Мастацтва»

Розныя праблемы эстэтыкі закранаюцца ў артыкулах А.Цітова «Капітал, бюракратыя і культура» і Я.Шунейкі «Інтравертызм». У раздзеле «Тэатр» выступаюць Т.Ратабыльская /«Сны маюць вочы...»/ і Ж.Лашкевіч /«Напачатку было слова...»/; у раздзеле «Гісторыя мастацтва» — Т.Габрусь /«Готыка ці барока?»/ і Т.Блінова /«Езуіцкі музей у Полацку»/; у раздзеле «Выяўленчае мастацтва» прадстаўлены: Э.Пугачова /«Ігар Бархаткоў»/, В.Буйвал /«Неба стрэлы і думкі ўскрыліла»/, У.Пракапцоў /«Сонечны зайчык над замкам»/, тут жа прапануецца аўтабіяграфія М.Шчакаціхіна «З поўнай свядомасцю сваёй праваты...»

Сшытак «Музыка» — інтэрв'ю Т.Мушынскай з дырэктарам «Беларускай капэлы» Я.Паплаўскім /«Непараўнальна вышэй за першы...»/, справаздача з «круглага стала» — «Наша цывілізацыя на стыку дзвюх цывілізацый...», развагі Г.Пікарды «Патрэбна фундаментальная рэканструкцыя беларускай музыкі» /запіс Т.Кляновіч/, фрагменты з кнігі Р.Туркава-Камінскай «Я не хачу больш быць адважнай» /пераклад з англійскай Т.Лук/.

Прадстаўлены раздзелы «Мастацкае фота», «Экран», ёсць падборка «Хроніка мастацкага жыцця», «Старонкі календара».

ЛІТКУР'ЕР

## Паведамляе «Беларус»

«Беларусь. На гістарычным раздарожжы» — пад такім загалоўкам і пад грыфам Калумбійскага універсітэта ў выдавецтве Уэств'ю Прэс /ЗША/ у чэрвені выходзіць кніга Я.Запрудніка, у якой даецца агляд гісторыі Беларусі ад глыбокай старажытнасці /з часоў княжання Рагвалода/ па сённяшні дзень. Выданне цікавае тым, што будзе ілюстравана 30 здымкамі і 8 гістарычнымі картамі.

Пра гэта паведамляе ў сваім чарговым, сакавіцкім за сёлетні год нумары газета «Беларус». Указваецца і адрас, куды трэба слаць заяўкі на новае выданне.

У гэтым жа нумары «Беларуса» ёсць і іншая кніжная інфармацыя. У выдавецтве Мілбрука выйшла брашура Кельвіна Госнэла «Беларусь, Украіна і Малдова», што адрасуецца ў першую чаргу моладзі. У ёй закранаюцца самыя розныя аспекты жыцця Беларусі. Выданне ілюстраванае, ёсць тут здымак вядомай нашай гімнасткі В.Корбут.

Выдавецтва Лернэра задумала серыю кніг пра кожную з 15 рэспублік былога Савецкага Саюза. Разлічана яна на амерыканскіх школьнікаў. Першай ластаўкай стала кніжка пра Беларусь. На чацвёртай старонцы вокладкі змешчаны дзве беларускія паштоўкі: адна з адлюстраваннем Пагоні, другая — бел-чырвона-белага сцяга.

Выдавецтва ж Беларускага дабрадзейнага адукацыйнага фонду выпусціла другое выданне «Універсальнай дэкларацыі правоў чалавека» ў апрацоўцы В.Пятроўскага. Кніжка знаёміць чытача і са старажытнымі прававымі дакументамі, у прыватнасці, са Статутам Вялікага княства Літоўскага.

Расказвае «Беларус» і пра выданні, што выйшлі ў нас. Гэта — «Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфармацыі і вылічальнай тэхніцы», складзены М.Савіцкім і выпушчаны МП «Гаспад», а таксама даведнік на беларускай, рускай і англійскай мовах «Магчымасці дзелавога супрацоўніцтва», выдадзены Інфармацыйна-камерцыйным цэнтрам пры Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

А.М.

## Ушанаванне лаўрэатаў



Чарговая літаратурная вечарына ў Коласавым доме была прысвечана сустрэчы з леташнімі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Якуба Коласа. Адкрыў і вёў пасяджэнне загадчык аддзела музея І.Курбека. Пра творчасць С.Грахоўскага, А.Жука і перакладчыцкую дзейнасць В.Сёмухі гаварылі Т.Грамадчанка і Л.Казыра. Лаўрэаты адказалі на пытанні прысутных. Дырэктар музея З.Камароўская ўручыла ім памятныя сувеніры. У канцы вечарыны прагучаў магнітафонны запіс песні «Мой родны кут» у выкананні Данчыка.

С.ІВАНЧЫК

*Сядзяць /злева направа/ Сяргей Грахоўскі, Васіль Сёмуха, Алесь Жук. Выступае І.Курбека.*

*Фота П.ЖОЎЦІКАВА*

## У гасцях у дзятвы

Апошнім часам віцебскія літаратары правялі шэраг сустрэч са школьнікамі. Яны прайшлі ў Наваполацкай дзіцячай бібліятэцы імя С.Маршака, у абласным Палацы культуры прафсаюзаў, у сярэдняй школе N I Віцебска. Дзеці цёпла віталі Н.Гальпяровіча, У.Папковіча, Г.Кірылава, А.Салтука, іх калег з гарадоў і вёсак В.Бародзіч, В.Пчолку, Н.Давыдзенку і іншых.

А.САКАЛОЎСКІ

## Вяртанне «Нарысаў ...» М.Шчакаціхіна

Пад эгідай Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны /фінансавана самім таварыствам і галоўным упраўленнем па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь/ у выдавецтве «Навука і тэхніка» з'явіўся факсімільны выпуск «Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва», што выйшлі ў друкарні Інстытута беларускай культуры ў 1928 годзе і мелі рэзалюцыю: «Дазваляецца выпусціць у свет. Неадменны сакратар Інстытута Беларускае Культуры В.Ластоўскі».

Асновай нарысаў, як вядома, сталі матэрыялы, распрацаваныя М.Шчакаціхіным пры падрыхтоўцы курса гісторыі беларускага мастацтва, упершыню прачытанага ў 1923-1924 навучальным годзе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Дапоўненыя, у нечым перагледжаныя, яны павінны былі стаць першым томам важнай даследчыцкай працы маладога навукоўца /на час выдання кнігі М.Шчакаціхіну было трыццаць два гады/. На жаль, намаганні руплівага адраджэнца так і не былі завершаны. Арыштаваны ў ліку іншых вядомых вучоных, М.Шчакаціхін улетку 1930 года быў высланы за межы Беларусі і ў 1940 годзе памёр ад туберкулёзу.

«Нарысы...» багата ілюстраваны, пасляслоўе напісаў А.Ліс. Ён жа нагадвае, што гэта іх трэцяе выданне, другое было ажыццёўлена беларускім замежжам.

ВАРВАРСТВА

## Крыжа на іх няма...



Нават варварствам назваць цяжка тое, што зрабілі з царквой у вёсцы Краснае /на здымку/, якая размешчана на стыку двух раёнаў — Хойніцкага і Чарнобыльскага. Сюды збіраліся вернікі з усіх навакольных вёсак. Нават чарнігаўская саступала гэтай царкве па прыгажосці і багацці іконаў.

3 мая 1986 года вёска Краснае, якая знаходзіцца за 8 кіламетраў ад Прыпяці, была цалкам выселена. Браць з сабою не дазвалялася нічога...

Сёння на дзвярах царквы няроўным старэчым почыркам выведзена: «Дай Бог, каб уваскрэс наш храм і наша сяло». Людзі дагэтуль вераць у цуд. Можа, Гасподзь і пачуе...

Тэкст і фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ

# ШЛЯХ МІЖ БЕРАГОЎ

## *Лёс Міхала Запольскага*

Колькі ні мудрагельствуй у пошуках азначэнняў культуры — а іх быццам бы назапашана ўжо больш як паўтары сотні, — самае галоўнае так ці інакш зводзіцца да таго, што заўсёды мела просты назоў: Памяць. Бо што ж, як не яна, дапамагае адчуць і зразумець наканаванае месца ў прасторы і часе, перадае ўсведамленне адметнасці і лучнасці з астатнім светам, захоўвае спрадвечную існасць... карацей, вызначае культурны ўзровень як асобы, так і нацыі?

Пэўна, пры іншых умовах такія пытанні маюць звычайна тэарэтычны сэнс. А вось нам (з перавернутай гістарычнай свядомасцю, з дужа заблытанымі ўяўленнямі пра свой радавод, з амаль страчанымі традыцыямі нацыянальнага духоўнага акту) гэта ставіць самую надзённую практычную задачу. І не будзе ў нас права звацца культурнай нацыяй, пакуль не зможам аднавіць усе повязі з папярэднікамі, пакуль не вернем растраляваную спадчыну.

Гэта, вядома, задача няпростая і доўгатэрміновая. Асабліва ў дачыненні да тых, хто ўвасабляў беларускасць на пачатку XX стагоддзя, а затым падчас конавага і дагэтуль непазбытнага «разлому», быў выкінуты са свайго асяроддзя, адлучаны ад жыватворных каранёў. Ужо сам па сабе прымус ліхой долі спазнаць глыбіннае значэнне такой характэрнай для беларускага светаадчування прыказкі, як «Мілы той куток, дзе абрэзалі пупок», — драма. Вядома, што большасць нашых супляменнікаў-эмігрантаў на чужой глебе ўкаранялася пакутліва. А як жа змераць пакуты таго, хто мусова пакінуў Радзіму, не знайшоў прытулку ў іншых краях, вярнуўся-такі назад, але і ў родным асяродку прыняты быў горш за чужынца?.. І ўвесь час жудасна авантурная і мутная плынь «вялікай палітыкі» гнала скрозь віры, бязлітасна шпурляла між берагоў, ды яшчэ і сляды ўсе імкнулася замыць, што называецца, дарэшты.

Так вось і сталася, што імя, пра якое мы заводзім гаворку, альбо зусім нічога, альбо надзвычай мала кажа нават самым дасведчаным спецыялістам. Яго не знайсці ні ў вядомых працах па гісторыі нашай культуры, ні ў даведніках. Прычым, тут не канкрэтная чыясьці віна. Як і не заслуга аўтара гэтай публікацыі, бо асноўныя факты ён атрымаў чыста выпадкова, дый цяпер валодае звесткамі няпоўнымі, а можа, і не зусім дакладнымі.

Уласна, калі выкладаць усё па парадку, дык варта ўдакладніць, што матэрыялы, падпісаныя М.Запольскім, Міхалкам Запольскім, мне трапіліся пры даследаванні беларуска-югаслаўскіх літаратурных сувязей даўно. Гэткі подпіс мае шэраг публікацый перыядычнага друку Заходняй Беларусі, дадаткова пазначаных у большасці сваёй як «пісьмы з Сербіі», «ад нашага карэспандэнта». Былі жаданне і патрэба высветліць, што тут да чаго. Гэта мог быць вынайдзены рэдакцыйнымі работнікамі прыём завабіць чытачоў, надаць больш вагі сваім выданням (у нас свае замежныя карэспандэнты!) — адным словам, містыфікацыя. Аднак магло стацца, што з аўтарскага актыву нехта напраўду часова знаходзіўся ў Сербіі, адтуль пасылаў допісы, толькі пад псеўданімам. Як само гучанне скарыстанага неаднойчы прозвішча, так і наяўнасць падпісаных ім нататкаў пра Дасітэя Абрадавіча, славутай постаці сербскай культуры XVIII стагоддзя (якая, між іншым, мае дачыненне да Беларусі), наводзіла на думку, што такі матэрыял мог падрыхтаваць дасведчаны філолаг — напрыклад, М.(Доўнар)-Запольскі. Думкі такія, на жаль, дакладных пацвярджэнняў не знаходзілі, аднак і не абвяргаліся, бо, яшчэ раз падкрэслім, навуковая і даведачная літаратура звестак, дачынных да ўсяго згаданага, не давала. Пазней, у артыкулах, прысвечаных такім выданням, як «Наша праўда» і «Наша справа» (аўтар А.Ліс) і «Праваслаўны беларус» (аўтар не названы), «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» (т.4, с.55 і 361) змясціла ініцыял з прозвішчам у пераліках аўтараў, што супрацоўнічалі ў тых выданнях. Ды тое да таямнічай постаці нічога не дадало.

Але вось неяк Вера Міхайлаўна Лумбіна, выкладчыца сербскахарвацкай мовы ў БДУ, прапанавала азнаёміцца з прыватным архівам, які, на яе думку, павінен мець культурна-гістарычнае значэнне, таму што дазваляе высветліць многія бакі неардынарнай асобы і вельмі складанага лёсу. Справа тычыцца пісьменніка-беларуса, які з «першай хваляй» эміграцыі трапіў у Югаславію. Ужо першыя ўдакладненні пераканалі, што гэтак вось неспадзявана разблытваецца даўняя загадка. Аказваецца, М.Запольскі — рэальная, значная і незаслужана забытая постаць у беларускім культурным адраджэнні. Пра што і сведчыць багаты збор дакументаў, друкаваных і рукапісных тэкстаў, фотаматэрыялаў, якія цяпер захоўвае Марыйка Стойчава Шуплева-Запольская, нявестка ягоная, па-нашаму — Марыя Сцяпанаўна.

Адбылося знаёмства з гэтай інтэлігентнай і прыязнай жанчынай, а таксама з архівам, які яна зберагае. І вось які пункцір лёсу пачаў акрэслівацца.

Запольскі Міхал Мікалаевіч нарадзіўся 21 студзеня 1893 года (так адзначана ў пасведчанні, якое выдаў пазней Акруговы савет дэпутатаў Сафіі, Балгарыя). Месца нараджэння — хутчэй за ўсё вёска Калядзічы, што згадваецца ў творах, альбо Мінск, таму што ёсць сямейны фотаздымак, зроблены ў Мінску. Сацыяльнае паходжанне пакуль што не высветлена. Калі меркаваць па здымку і некаторых ускосных звестках, дык можна прыйсці да высновы, што з мяшчан ці з заможных сялян. У бацькоў, апроч Міхала, было яшчэ пяцёра дзяцей: сын Пятро, дочкі Аляксандра, Вольга, Надзея і Клаўдзя.

Нельга з дакладнасцю весці гаворку пра адукацыю Міхала Запольскага. Відавочна, што ён не быў самавукам, што даволі рана не проста выявіў літаратурныя схільнасці, але і пачаў выступаць у друку. Ёсць шэраг твораў, якія датуюцца пачаткам 1910-х гадоў. Можна зрабіць дапушчэнне, што служыў у царскай арміі. Верагодна, быў мабілізаваны ў пачатку першай сусветнай вайны, а потым, маючы сярэднюю адукацыю, пасля адпаведнай падрыхтоўкі, атрымаў афіцэрскае званне. Рана завёў сям'ю. Ажаніўшыся з Марыяй Васільеўнай Хаменкай, прыкладна ў 1914 годзе, меў дачку Ніну. Немагчыма вызначыць, якіх пазіцый трымаўся ў палітыцы, а вось захаваныя творы сведчаць, што літаратурнай працаю займаўся ўвесь гэты час.

У эміграцыю падаўся пры канцы 1919 — на пачатку 1920 г. Разам з жонкай і дачкой. Відаць, не без палітычных матываў і без адкладу, таму што па дарозе ў чужы свет, на параходзе, які выйшаў з Адэскага порта, нарадзілася другое дзіця — сын Барыс. Прытулак давялося шукаць у Каралеўстве сербаў, харватаў і славенцаў — спачатку ў Сараеве, потым у Бялградзе, тады ў Панчаве. Удаецца атрымаць працу на чыгунцы, дзе спярша часова, а затым і стала займае пасаду чыноўніка экспедыцыйнай службы на Бялградскай, Панчаўскай, потым зноў Бялградскай станцыях. Пра настроі, з якімі жыў эмігрант Запольскі, сведчаць ягоныя творы таго часу — вершы «На чужыне», «Сон», «Песня начою», «Хто ж другі заплача...», а таксама згаданыя вышэй «Пісьмы з Сербіі». Вось фрагмент аднаго такога пісьма («Пад спеў кашавы»):

> «Задумаўся... пабеглі навыперадкі думкі пра родны край. Пра вёску, пра долю Беларусі.
>
> Эх, каб моц! каб грошы! Цяпер голас грошы не толькі мае ўвагу, але ў кожным здарэнні мае перавагу, і знайдзі я сяння які-небудзь захаваны скарб, дык, кажу вам, нават заўтра беларускі народ прыдбае тысячы неспадзяваных дабрадзеяў!
>
> Але чалавек я невялікі, захаваны скарб толькі ў казках знаходзяць — і яшчэ больш нудна, яшчэ больш цісне ў грудзёх...»

Нуду і цяжкія думкі прагнаць, бадай, не ўдавалася. Толькі-толькі ўладкаваліся, пачалі зводзіць канцы з канцамі, як памерла дачка. Няпроста было гадаваць і вучыць сына, а не за доўгім часам з'явіўся на свет брат яму — Аляксандр. Служба, дзякуй Богу, дазваляла сяк-так трымацца матэрыяльна. А вось духоўныя патрэбы ўвесь час, нягледзячы на занятасць, звярталі да пісьменніцтва. Міхал Запольскі тады быў не толькі карэспандэнтам газет і часопісаў, сябрам культурных арганізацый Заходняй Беларусі. Ён спрабаваў таксама хоць неяк рэалізаваць свае творчыя магчымасці і на сербскахарвацкай мове. І, можна засведчыць, не без поспехаў. Каб гэта не ўспрымалася як галаслоўнае сцвярджэнне, звернемся да фактаў: часопіс «Жэлэзнічкі венац» за лепшае апавяданне-фельетон з жыцця чыгуначнікаў узнагародзіў Запольскага прэміяй памерам у 400 дынараў (N15 за 1933 г.). Ды гэта не ўсё. Названы часопіс выдаў асобнай кніжкаю апавяданні пад загалоўкам «Паравоз» (Бялград, 1934), другі зборнік апавяданняў — «На чыгуначных рэйках», таксама ў Бялградзе — убачыў свет яшчэ праз пяць гадоў. Апроч гэтага, як сведчаць шматлікія матэрыялы архіва, у газетах і часопісах Югаславіі змяшчаліся напісаныя ім творы самых розных жанраў. Лёс нібыта даваў шанцы здзейсніцца як літаратару.

Але распачалася другая сусветная вайна, у час якой, вядома, было не да пісьменніцкіх клопатаў. А грамадзянска-палітычную пазіцыю Міхала Запольскага дакладна асвятляе характарыстыка, выдадзеная Панчаўскім гарадскім народна-вызваленчым камітэтам 25 лістапада 1944 года, пасля таго, як былі прагнаны акупанты: «Названы ў час акупацыі быў цалкам сумленных палітычных і маральных паводзін, не з'яўляўся членам ніякіх фашысцкіх арганізацый...» Больш таго, сын Барыс (натуральна, бацька не ведаць пра гэта не мог) браў удзел у антыфашысцкім руху, ваяваў на баку партызан.

Нягледзячы на ўсё гэта, пасля вайны і ўтварэння ФНРЮ насталі зноў жорсткія выпрабаванні, абумоўленыя крызісам югаслаўска-савецкіх узаемаадносін. Цітаўская ўлада, быццам бы антысталінісцкая, паводле ўсіх з'яў, вяла палітыку надзіва падобную да сталінскай. З 1948 года распачаліся жорсткія ганенні, уціск і рэпрэсіі ў дачыненні да ўсіх, хто падазраваўся ў магчымай няправавернасці. Дзіўна, але пад рэпрэсіямі апынуліся даўнія палітэмігранты, праціўнікі Сталіна і савецкай улады, што называецца, па духу. Міхала Мікалаевіча Запольскага звальняюць з працы толькі за тое, што ён паходжаннем звязаны з тэрыторыяй СССР. Неўзабаве арыштоўваюць і саджаюць у палітычную турму сына Барыса, які пасля вайны папрацаваў у прадстаўніцтве кампаніі «Філіпс», паказаў вялікія здольнасці ў галіне электратэхнікі. Пасля арышту Барыса і абвяшчэння яму прысуду ўся сям'я за 24 гадзіны мусіла пакінуць тэрыторыю краіны. Меншы сын Аляксандр, які вучыўся на марака, падаўся шукаць долі ў Польшчы, а Міхал Мікалаевіч з Марыяй Васільеўнай перабраліся ў суседнюю Балгарыю і там чакалі, не ведаючы, што рабіць далей. На шчасце, старэйшага сына праз год з нечым выпусцілі, дзякуючы зарукам уплывовых саратнікаў партызанскай пары. Ён, перажыўшы здзекі, катаванні, тры вывады на расстрэл, уз'яднаўся з бацькамі, акрыяў, пачаў вучыцца ў Сафійскім політэхнічным інстытуце, які выдатна скончыў, а потым і знайшоў сабе палавіну — Марыйку Стойчаву Шуплеву, студэнтку медыцыны. За гэты час Міхал Мікалаевіч змог уладкавацца, як і ў Югаславіі, працаваць на чыгунку, а таксама спрабаваў вярнуцца да літаратурных заняткаў. Прынамсі, даваў допісы ў балгарскія газеты.



Міхал ЗАПОЛЬСКІ

Між тым нібыта мяняўся палітычны клімат у Савецкім Саюзе. І эмігрантаў з Югаславіі пачаў спакушаць заклік Мікіты Хрушчова вяртацца на радзіму — тут іх, маўляў, чакае поўная рэабілітацыя, высокі савецкі дабрабыт, працаўладкаванне па спецыяльнасці і г.д. Сапраўднай веры ў абяцанкі не было. Да таго ж сын ужо меў сваю сям'ю, пабраўшыся з балгаркай і такім чынам парадніўшыся з яе краінай... Але ж запрашала зямля продкаў, і гэта перамагло: вырашылі прыняць грамадзянства СССР, і пакінулі Балгарыю ўсе, разам з юнай нявесткай.

Далей усё адбывалася па законах драматургіі абсурду. Сям'я, ці, дакладней, дзве сям'і Запольскіх былі накіраваны ў стэпавы саўгас Радзішчава Новаузенскага раёна Саратаўскай вобласці, дзе Міхала Мікалаевіча ўладкавалі на працу кладаўшчыком, Барыса Міхайлавіча — механікам перасоўнай электрастанцыі, а жыць дазволілі — прычым, «у парадку выключэння» — пад дахам нейкай гаспадарчай будыніны. Цалінныя ўмовы дзейнічалі перш за ўсё на жанчын. У хуткім часе цяжка захварэла Марыя Васільеўна і, не выздаравеўшы, там і была пахавана. Далей жыць на чужыне не заставалася моцы. У дадатак да ўсяго брат і сёстры, якія жылі на Беларусі, па вядомых прычынах аднаўляць сваяцкія сувязі не спяшаліся (ішоў тады 1955 год). Нарэшце сястра Вольга Мікалаеўна адважылася-такі і, паводле тагачасных правілаў, паслала афіцыйны выклік, прыняты, натуральна, як ратунак.

Больш за тры з паловаю дзесяцігоддзі Міхал Мікалаевіч Запольскі быў адарваны ад Бацькаўшчыны. І ўрэшце рэшт вярнуўся. Яму, ужо шасцідзесяцідвухгадоваму, да таго ж навучанаму ўсім папярэднім вопытам, было зразумела, што выпрабаванні яшчэ не скончыліся, бо не мяняюцца раптам і канчаткова палітычныя сістэмы. Аднак сілы надавала родная зямля пад нагамі; акрамя гэтага, побач былі высокаадукаваны, з рэдкай тады спецыяльнасцю тэлевізійшчыка-інжынера сын і сардэчная, руплівая нявестка. Сын, дарэчы, хоць і не без праблем, паколькі быў палітэмігрантам і беспартыйным, знайшоў сабе працу інжынера на рэспубліканскай студыі тэлебачання, якая тады толькі стваралася, а ў хуткім часе стаў там вядучым спецыялістам. Дзякуючы яму сям'я перабралася з пакойчыка, які наймала нароўні з студэнтамі ў доме згаданай Вольгі Мікалаеўны, у Калодзішчы. Там, у будынку мясцовага радыёвузла, Барысу Міхайлавічу дазволілі заняць пад жытло адно памяшканне.

Сяк-так наладжваўся побыт. Міхал Мікалаевіч атрымаў накіраванне на працу ў Інстытут харчовай прамысловасці лабарантам, адначасова не пакідаючы надзеі, што зможа ўключыцца ў культурнае жыццё рэспублікі. Першая спроба аказалася няўдалай: газета «Советская Белоруссия» яго прапановы адпрэчыла.

Адштурхнуты і зняверaны, ён пазней знайшоў разуменне і спагаду ў супрацоўніцы газеты «Сталинская молодежь» Лідзіі Міхайлаўны Васкоўцавай. Гэтая жанчына, вядома ж, рызыкавала, але нязменна спрыяла, каб колішні замежны карэспандэнт заходне-беларускіх выданняў мог хоць неяк сцвердзіцца ў змененых абставінах і вярнуцца да звыклай справы. Тады ў рускамоўнай маладзёжцы пайшоў шэраг публікацый балгарскай тэматыкі — напрыклад, «Журнал дружбы», «Столетие читалищ», «88-летний поэт», «Столетие театра», «Хорошая традиция».., праўда, з подпісам нявесткі — Марыйкі Ст.Шуплевай-Запольскай. «Перадаверанае» аўтарства маюць, дарэчы, і разлічаныя на калектывы мастацкай самадзейнасці п'есы-аднаактоўкі, і адрасаваны балгарскай газеце «Литературен фронт» артыкул пра К.Крапіву, і аўтарызаваны пераклад апавядання Н.Яворскага «Маці». Акрамя згаданага, пасля прыезду ў Мінск пісаліся творы розных жанраў для дзяцей, гумарэскі, вершы, абразкі-ўспаміны, рабіліся пераклады. Толькі ў друк папасці ім так і не давялося.

10 кастрычніка 1956 года, у другую сваю восень пад вернутым небам Радзімы, Міхал Запольскі адышоў на вечны спакой. На студзень 1993 года прыпадае ягоны круглы — 100-гадовы — юбілей. Адзначыць яго варта ўсім, хто ўсведамляе сябе нашчадкам не толькі па крыві, але і па агульнай справе. Скарыстоўваючы нагоду, вельмі карысна было б атрымаць звесткі-ўспаміны людзей, якія ведалі

М.М.Запольскага (а такіх, бадай, можна яшчэ знайсці), паставіць гэтае імя на яму адпаведнае месца ў гісторыка-літаратурных даследаваннях і ў новых выданнях энцыклапедычнага характару, а галоўнае — не даць прапасці архіву.

Тармазіць справу можа сумненне ў значнасці асобы. Таму ўдакладнім: М.Запольскі, мяркуючы па ўсім, не прэтэндаваў на ролю класіка нацыянальнай літаратуры і ад нас не чакаў, што будзем перабольшваць значэнне ягонага наробку; пры ўсім гэтым зразумела, што развіццё культуры забяспечваюць не адны класікі, што роля пісьменніка не заўсёды вызначаецца аб'ёмам надрукаванага. Так што нам трэба проста ўважліва паставіцца да спадчыны, якая, магу засведчыць, надзвычай цікавая і разнастайная. А каб пазбегнуць галаслоўнасці, спынюся на некаторых матэрыялах архіва.

Перш за ўсё прыцягваюць увагу рукапісы на беларускай мове. Сярод іх — тэкст (напісаны сінім чарнілам у сшытку з 70 пранумараванымі лістамі) «Жыццё і каханне». Самім аўтарам на тытуле пазначана, што гэтая драма ў 3-х актах, «дзея робіцца ў Менску. Пара — 1909—1914 гг.», а ў канцы — месца і дата напісання: «Serbie, 1922». Нельга абмінуць і такую дэталь: на тытуле маецца выканаьы чырвоным чарнілам запіс: «Беларускае Грамадзяньскае сабране сведчыць, што Конкурсная Камісія ад 16 лютага 1923 г. прысудзіла другую прэмію і што Рада Старшынь Бел. Грам. Саб-ня зацвердзіла. Прэдседацель Старшынь (подпіс неразборлівы), м.Вільна, 3.VIII. 1923».

У добрым стане дайшла яшчэ адна п'еса на беларускай мове — «Мана каханьня», драма ў 3-х дзеях (Мінск, 1918, машынапіс). Апроч гэтага, маюцца рускамоўныя драматычныя тэксты — напрыклад, «Однажды в полночь (Железнодорожный этюд)» і сербскахарвацкамоўныя — «Дэвоячкі новац».

Вялікую частку рукапіснай спадчыны складаюць вершы — пераважна без даты напісання. Асабліва цікавай, калі ісці ад сучаснага літаратурнага кантэксту, можа быць, паэма «Рагнеда»— твор значны аб'ёмам, зместам і, паводле першых уражанняў, мастацкімі якасцямі. Нельга абмінуць таксама ўвагаю пераклады на беларускую мову балгарскіх казак.

Зразумела, пры долі выгнанніка, пераменах месца жыхарства, ды яшчэ палітычна-цэнзурна-мытных забаронах, чыстках, якія даводзілася праходзіць, немагчыма было сабраць усё да купы. Тым не меней збор друкаваных твораў таксама атрымліваецца досыць значны. Калі размяркоўваць у храналагічным парадку, трэба пачаць з невялічкай кніжкі, без вокладкі, якую склалі два апавяданні (кароткія аповесці) на 85 старонках: «Мечтатель» і «Иван Похилко». Час выдання прыпадае недзе на 1914—1919 гг.

Таксама на рускай мове цэльнасць уяўляюць сорак два вершаваныя тэксты. Хоць і ў гэтым выпадку няма ні вокладкі, ні тытула, лад размяшчэння твораў і друкарская нумарацыя старонак ад 1-й да 24-й даюць права меркаваць, што перад намі цэлая кніжка, выдадзеная прыкладна ў 1913—1918 гадах.

З рускамоўнай спадчыны можна прыгадаць яшчэ апавяданні «Клад (быль)», «Маскарад», «Бывает», драматычную мініяцюру ў вершах «В степи», паэму з 14 раздзелаў «Нюся-белорусска» (пазначаны месца і час напісання: Ярмолинцы-Минскъ, 1917), вершы.

Паказальна, што і ў рускамоўных тэкстах лейтматыў вось які: «Я сын Белоруссии милой»...

Што М.Запольскі, як мог, трымаўся беларушчыны, сведчаць выразкі з газет і часопісаў — вершы «І нудна...», «У карчме», «Грамада», «Хай гора, нядоля і шчэнт...», «Брату», «Беларусу»; апавяданні «Захаваны скарб», «Маці», «Влада Нядобры», а таксама некалькі разоў спамянёныя «Пісьмы з Сербіі», якія ўяўляюць сабою творы розных жанраў.

Як ужо адзначана, у Сербіі ён выдаў дзве кнігі апавяданняў. Абедзве дайшлі да нас у добрым стане. Калі скампанаваць усе творы для дзяцей — а маюцца вершы, казкі, апавяданні, сцэнічныя мініяцюры, абразкі, — дык можна з іх, захаваных як выцінкі з газет і часопісаў, скласці добрую кнігу. Акрамя ж іх, шмат «дарослых» апавяданняў, фельетонаў, гумарэсак, інфармацыйных нататак.

Усё гэта асвятляе ролю М.Запольскага яшчэ з вельмі істотнага боку — як сувязнога паміж беларускай культурай і іншымі, па волі лёсу яму таксама блізкімі.

Неразабранымі пакуль што застаюцца многія дакументы, паводле якіх акрэсліцца яшчэ больш дакладны жыццяпіс. Але і тое, што падлягло першапачатковаму разгляду, вымушае надалей не пакідаць без увагі асобу з лёсам тыпова беларускім — і па жорсткім наканаванні, і па здольнасці іх вытрываць, захоўваючы пры гэтым сваю годнасць.

**Іван ЧАРОТА**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# АБ ЧЫМ МАЎЧЫЦЬ МУЗЕЙНЫ ЗВОН

Сталі ўжо звычайнай з'явай патрабаванні /часта ва ультыматыўнай форме/ царквы вярнуць ёй неадкладна будынкі і маёмасць, некалі канфіскаваную ў яе савецкай уладай і перададзеную ўстановам культуры — клубам, музеям, карцінным галерэям і г. д. Давайце паразважаем над гэтымі фактамі. Бясспрэчна, экспрапрыяцыя царкоўнай маёмасці была незаконнай і яе трэба аддаваць яе сапраўдным уладальнікам. Але тут узнікае шмат праблем, вырашаць якія трэба з такім разлікам, каб не нанесці вялікую шкоду хоць бы тым жа ўстановам культуры. Не забудзем, што, заняўшы ў свой час будынкі былых цэркваў і манастыроў, музеі, бібліятэкі, архівы выратавалі іх ад канчатковага разбурэння, разрабавання, аддаўшы шмат сродкаў на іх рэстаўрацыю і добраўпарадкаванне.

Сёння кіраўнікі царквы быццам забылі пра павагу да культуры, пра патрэбы народа ў тых духоўных каштоўнасцях, што існуюць па-за рэлігіяй. Патрабаванні святароў вярнуць ім усё, што некалі належала царкве, літаральна з кожным днём становяцца ўсё больш настойлівымі і бескампраміснымі. І тлумачыцца гэта, па маім перакананні, іх нізкай культурай, няўменнем, а хутчэй нежаданнем па-хрысціянску са «смирением» ставіцца да думкі апанентаў.

Прадбачу, што нехта са святароў, прачытаўшы гэтыя радкі, скажа: «вы, спадар аўтар, так бы не гаварылі, каб зведалі на сабе ўсе «прелести» таталітарнага рэжыму, як гэта давялося адчуць царкве». Я такога папроку не заслужыў. У 19 гадоў ад нараджэння я стаў палітзняволеным і 11 гадоў правёў у турмах, лагерах, такіх, напрыклад, як Варкуталаг. Пасля ўцёкаў з лагера, калі мяне ўсё-такі злавілі і збілі да паўсмерці, начальнік турмы ў Варкуце, куды мяне прывезлі, глянуўшы на мяне, сказаў: «Мерцвякоў не бяру».

У Варкуце, дарэчы, мне ўдалося ўратаваць ад смерці двух святароў: праваслаўнага і уніяцкага. Калі я быў брыгадзірам, стараўся браць веруючых, таму што заўсёды паважаў людзей, якія вераць у высакародныя ідэі, няхай і не так, як я.

Вярнуўшыся з Варкуты ў Крычаў у кастрычніку 1950 года, я пачаў збор экспанатаў для музея, пра які марыў з дзяцінства. Мяне тады не бралі на работу /нават фізічную/, таму што вісела клеймо «ворага народа», асуджанага за «контрреволюционный саботаж». Але ў вольныя хвіліны я ішоў да старэйшых, да краязнаўцаў, якія добра ведалі гісторыю Крычаўшчыны, наогул Магілёўшчыны.

Пра тое, як ствараўся музей, у свой час было нямала расказана і ў газетах, часопісах, па радыё і тэлебачанні. Нават вядомы пісьменнік С. С. Смірноў 8 мая 1971 года прысвяціў музею цэлую перадачу па Усесаюзным тэлебачанні. Адным словам, музею было аддадзена шмат сіл і здароўя. Вядома, не толькі майго. Ніколі не забуду ветэранаў вайны, былых палітвязняў, старых сялян і рабочых, якія самааддана дапамагалі мне. Цяпер мне 71 год, 13 з іх я цяжка хварэю на сэрца, але дапамагаю свайму музею, якім кіруе Наталля Марозава, мая старэйшая дачка.

Нядаўна мне стала вядома, што святары некаторых цэркваў на Магілёўшчыне выступілі з патрабаваннем «вярнуць» ім найбольш каштоўныя экспанаты нашага музея. І сярод іх — звон. Дарэчы, славуты звон — яму нават прысвечаны артыкул у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». Звон гэты — мастацкі помнік майстэрства беларускіх ліцейшчыкаў. Надпіс на ім сведчыць, што ён адліты для Пятніцкай царквы за сродкі «Фёдара Казла, жыхара Крычаўскага». У 1934 годзе /калі была зачынена Пятніцкая царква/ звон гэты быў перададзены пажарнай камандзе горада Чэрыкава. У вайну яго схавалі на дне ракі Сож, а пасля вызвалення Чэрыкава, увосень 1943 года, звон зноў трапіў у пажарную.

Аднойчы знаёмы чэрыкаўскі пажарны паведаміў мне: «Ёсць рэдкі звон. Прыехаў зборшчык металалому, дае за яго ладную цану. Прыязджай». Я прыехаў. Мне яго аддалі нашмат танней, ведаючы, што я збіраю музей за свае грошы, што доўга сядзеў па турмах. У першай музейнай экспазіцыі звон красаваўся на самым відным месцы і прыцягваў усеагульную ўвагу наведвальнікаў. Вернікі, гледзячы на яго, хрысціліся, што, відаць, дало падставу актывістам таварыства «Веды» абвінавачваць мяне ў распальванні рэлігійных пачуццяў, а па тым часе абвінавачанне гэтае пагражала вялікімі непрыемнасцямі, ды яшчэ мне, нядаўняму гулагаўцу.

З тае пары і жыве славуты звон у музеі. І вось цяпер святары збіраюцца яго з музея забраць, хоць не могуць не разумець, што звон застаўся цэлы таму, што трапіў у музей. Помню, у 1958 годзе, калі па цэрквах збіралі ацалелыя званы, каб адправіць іх у пераплаўку, я параіў аднаму знаёмаму святару схаваць іх звон. Ён адмовіўся, збаяўся, і звон у гэтай царквы забралі і адправілі на пераплаўку.

І яшчэ наконт экспанатаў рэлігійнага паходжання, на якія сёння прэтэндуе царква. У рэшце рэшт, яна не можа не разумець, што ў музеі з імі знаёмяцца штогод сотні тысяч людзей, несучы з сабой радасць ад прычашчэння да чыстых крыніц прыгажосці.

Мне кажуць, што царква заўсёды была такой. Няпраўда. Са старажытных часоў праваслаўная царква ў Расіі, на Украіне, у Беларусі спрыяла развіццю культуры, пісьменнасці, мастацтва. Яна стварала і цікавейшыя музеі. У той жа «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», на якую я ўжо спасылаўся, змешчаны артыкул пад назвай «Магілёўскі царкоўна-археалагічны музей», у якім былі сабраны рэдкія іконы 15—18 стст., плашчаніца 1560 года, мітра Магілёўскага архіепіскапа Георгія Каніскага, выдатнага літаратара і гісторыка культуры, якім захапляўся Пушкін. Там былі каралеўскія граматы Магілёву, літургічная пацыр і многае іншае. У тым жа, трэцім, томе энцыклапедыі на старонцы 621 змешчаны артыкул пра Мінскі царкоўна-археалагічны музей. Для яго быў пабудаваны на епархіяльным двары спецыяльны будынак, які захаваўся і сёння.

З павагай стаўлюся да беларускага экзарха — уладыкі Філарэта, і спадзяюся, ён зацікавіцца стварэннем музея гісторыі праваслаўнай царквы ў Беларусі. Мы, краязнаўцы, — дапаможам у гэтай справе. У нашым крычаўскім музеі ёсць, дарэчы, малюнкі цэркваў горада XVIII ст., малюнак царкоўнапрыходскай школы XVIII ст. і іншыя экспанаты. Мы заўсёды памятаем пра ролю рэлігіі ў гісторыі Радзімы.

У чытача можа ўзнікнуць пытанне: а ці з'яўляецца вернікам сам аўтар? Адказваю — не, але з вялікай павагай стаўлюся да веруючых усіх веравызнанняў. І таму лічу, што ўсім нам, і вернікам і атэістам, трэба паважаць адзін аднаго, не падбухторваць да канфрантацыі, якой і так зараз хапае. Нам няма чаго дзяліць, бо робім агульную справу — адраджаем бацькаўшчыну.

**М. МЕЛЬНІКАЎ,**
**заслужаны работнік культуры Беларусі**

**АВОХЦІ МНЕ**

# ДУРНОТЫ

## Зааблочнік

Паэта хадзіў па зямлі
Як прарок,
Катэгорыямі мысліў высокімі.
Ды ўрэшце свой заснаваў ларок
І спакойна гандлюе сокамі.

## Таварыш

Ён любіць кан'юнктурныя
вятры,
Умелец горла драць з любой
нагоды.
Ён ненавідзіць слова спадары,
Бо стукачы —
Таварышы заўсёды.

## Падтрымка Беларусі

Магілу сама сабе рые жывая,
І, быццам бы сумны
з прычыны тае
Сусед,
Што вялікім сябе называе,
Рыдлёўку ямчэйшую ёй прадае.

## Высозны талент

Паэзія благала: SOS!
На выручку з'явіўся Сыс.
На ўсіх глядзеў,
Бо быў высоз —
На талент,
Зверху ўніз.
А без вясёлага Сыса
Пегас застаўся б без аўса!

## Клумак думак

Нёс клумак думак
Пан павук
У Акадэмію навук.
І навуковы кіраўнік,
Ну, як бы бацька хросны,
Параіў,
Каб імпэт не знік,
Удасканальваць кросны.

## Загадка маладзёнам

А хтосьці кагосьці камусьці
Прынёс
І паклаў у капусце.
А потым малое кугакала
У люльцы чамусьці заплакала.

## Адну!

Двухмоўе дай старому партуну!
Дагэтуль пад чырвоным сцягам
клымае.
Ён толькі за імперыю адну —
Ядзіную і нецялімую!

## Прывык

Пясняр трупярняў і магіл
Прывык да тоўстай каліты
І радыеактыўны пыл
Ператварае ў залаты.
Раней яму дзядзькі з ЦК
Чыны адмервалі з цюка.

**Савось АВОСЬ**

## ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

Майская афіша ДЛ, як і ў іншыя месяцы, багатая на мерапрыемствы. 5 мая можна прыйсці на прэм'еру фільма **«Спецперасяленцы»**, выпушчанага творчым аб'яднаннем «Тэлефільм» /аўтар сцэнарыя Г.Дзядзечкіна, рэжысёр В.Жыгалка/.

Вечарына **«Радок, апалены вайной»** — яна запланавана на 6 мая — адбудзецца ў гонар пісьменнікаў-ветэранаў.

Ажно тры вечары госцем у Доме літаратара будзе **беларуская аўтарская песня**. Не забудзьцеся: 10, 17 і 24 мая!

Музычная сустрэча **«І музыкай душа напоўніцца...»** пройдзе 14 мая.

Мікола Федзюковіч адзначае 50-годдзе. Яго аўтарскі вечар **«Перажываю лепшую вясну...»** — 19 мая.

**Прэм'ера кнігі** В.Супрунчука «З плоці і крыві» збярэ прыхільнікаў творчасці гэтага празаіка 20 мая.

**Творчая сустрэча** з аркестрам народнай музыкі «Спадчына» /мастацкі кіраўнік А.Скорабагатчанка/ пройдзе 21 мая.

25 мая — вечарына **«Мастак Міхась Філіповіч і мы»**. У праграме — кінафільм «Адлучэнне» творчага аб'яднання «Тэлефільм» /аўтар сцэнарыя У.Сцепаненка, рэжысёр В.Шавялевіч/, сустрэча з мастакамі творчай суполкі «Пагоня».

**Усе гэтыя мерапрыемствы пачынаюцца ў 18 гадз. 30 мін.**

Вечар жа, прысвечаны 110-годдзю з дня нараджэння Я.Маўра, пачнецца 12 мая а 15 гадз.

А 15 гадзіне 20 мая збіраецца секцыя паэзіі. На абмеркаванне выносіцца пытанне **«Паэзія на старонках маладзёжных выданняў»**. У гэты ж час 27 мая секцыя драматургіі праводзіць прачытанне п'есы Р.Баравіковай «Барбара Радзівіл».

**АБ'ЯВА**

## Дарагія суайчыннікі

**Калі вы за Адраджэнне Беларусі, беларускай мовы — прыходзьце на набажэнствы Беларускай евангельскай Царквы, якія адбываюцца штоаўторак у 18.30, па адрасе: Менск, вул.Гікалы, 4, Абласная бібліятэка імя Я.Маўра, 2-гі паверх.**

**Пішыце нам на адрас: 220117, Менск, Любімава, 21-56. Эрнст Сабіла /т.70-89-87/.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці актыўнага прапагандыста беларускага слова, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Ганны Паўлаўны РЫЖКОВАЙ і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

**Рэдакцыя часопіса «Вясёлка» выказвае глыбокае спачуванне першаму рэдактару, члену рэдкалегіі часопіса Васілю Вітку з прычыны яго вялікага гора — смерці ЖОНКІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Васілю Вітку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Мікалаю Лук'янаву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.**

*Не сакрэт, што гуманітарная навука Савецкай Беларусі існавала ў межах, вызначаных ідэалагічнымі догмамі. І хоць гэтыя догмы былі нам, беларусам, у свой час навязаныя, але прыжыліся ў нашым палітычным клімаце, і нават пачалі даваць атрутныя плады — нацыянальны і духоўны нігілізм. Найперш гэта выяўлялася ў гуманітарнай навуцы. Узяць хоць бы сумны лёс, што напаткаў «тэорыю балцкага субстрату», якая найбольш завершана была сфармуляваная ў 60-х — пачатку 70-х гадоў, калі па ўсім Савецкім Саюзе, не абмінаючы і Беларусь, пракацілася хваля цкавання так званых «нацыяналістаў». Гэта тэорыя ставіла пад сумненне славянскую «чысціню» паходжання беларусаў, а значыць, і само існаванне адзінай старажытнарускай народнасці, з якой нібыта вылучыліся рускія, украінцы і беларусы. Што ў сваю чаргу закранала палітычныя дактрыны, пабудаваныя на грунце этнічна абумоўленага адзінства ўсходніх славян. Таму і не дзіўна, што ў тагачаснай Акадэміі навук БССР тэорыя балцкага субстрату была прынята ў штыкі.*

*«Палітычныя амбіцыі пераважалі над навуковымі фактамі», — так лічыць аўтар гэтай тэорыі, доктар археалогіі Валянцін СЯДОЎ. Гутарка нашых карэспандэнтаў з вядомым навукоўцам адбылася ў Маскве, дзе той жыве і працуе.*

# БЕЛАРУСЫ — СЛАВЯНА-БАЛТЫ?

**-- Скажыце, калі ласка, якім чынам вы, здавалася б, далёкі ад Беларусі маскоўскі навуковец, прыйшлі да тэорыі «балцкага субстрату», тэорыі, якая цалкам змяніла ранейшае ўяўленне пра паходжанне беларусаў?**

-- У аспіранцкія гады я працаваў над тэмай «крывічы і саславяне», і мне выпала займацца курганамі. З вынікаў раскопаў на Беларусі і Смаленшчыне відаць, што гэтыя землі адрозніваюцца ад Кіеўшчыны, Наўгародчыны, Валыні, Польшчы асобным тыпам упрыгожанняў, якія можна супаставіць са старажытналетувіскімі і старажытналатышскімі тыпамі /нагрудныя, гарлавыя каралі, грыўні на шыю, культавыя змеі/. Найболей яны захаваліся на тэрыторыі сучасных Летувы і Латвіі, найменш на Беларусі і Смаленшчыне. У той час на Уладзіміршчыне, у Падмаскоўі, на Кіеўшчыне, на Валыні такіх упрыгожанняў няма наогул.

Вывучаючы пахавальны абрад, я заўважыў, што на Беларусі і Смаленшчыне побач з заходняй арыентацыяй славян, калі за паганскім часам мужчын хавалі тварам на ўсход, сустракаецца значная колькасць курганоў з усходняй арыентацыяй /у Латгаліі ды Жамойціі такіх курганоў раскапана колькі сотняў/.

Нам добра вядома фіна-ўгорская, іранская, балцкая гідраніміка, каб зрабіць выснову, што назвы рэк Беларусі і Смаленшчыны ў большасці балцкага паходжання.

**-- Раскажыце, калі ласка, у чым сутнасць вашай тэорыі?**

-- На падставе археалагічных дадзеных можна сцвярджаць, што ў канцы бронзавага і ў жалезным веку на тэрыторыі паўднёва-ўсходняга ўзбярэжжа Балтыйскага мора да вярхоўяў Дона, уключаючы ўвесь басейн Акі, і ад Падняпроўя да Кіеўшчыны жылі балты. Спачатку яны паслугоўваліся адзінымі балцкімі гаворкамі. Потым гэты арэал распаўся на тры часткі: Заходнія, Усходнія й Дняпроўскія балты.

З сярэдзіны І тысячагоддзя пачынаецца моцная міграцыя славян. Узнікае пытанне: ці пасунулі славяне балтаў? Курганныя матэрыялы сведчаць, што не. Балты ўдзельнічалі ў этнагенезе гэтых славянскіх плямёнаў, увайшлі ў іх склад, прынялі мову, а дакладней, яе розныя дыялекты.

Балцкія элементы на Беларусі і Смаленшчыне выяўляюцца найперш у гідраніміцы і дыялекталогіі, а таксама ў палеантрапалогіі. Пасля Беларусь склала аснову Вялікага княства Літоўскага і такім чынам адасобілася ад пскоўскіх, наўгародскіх ды маскоўскіх земляў. І фармаванне беларусаў праходзіла на аснове балцкага субстрату. Археалагічна гэта лёгка прасачыць.

**-- Калі і дзе вы ўпершыню выступілі са сваёй тэорыяй?**

-- Першы раз я выступіў у пачатку 60-х гадоў на археалагічнай канферэнцыі ў Мінску. І адразу ж маю тэорыю не прынялі. Як мне здавалася, з-за нейкіх палітычных матываў. Супроць найбольш рэзка выступіў тады Гарбуноў. Калісьці пры Сталіне ён быў Старшынёй Савета Міністраў Беларусі, а за Хрушчовым яго зрабілі сакратаром аддзялення гуманітарных навук АН БССР. Натуральна, ён быў вельмі далёкі ад усіх гэтых праблем. Самым сур'ёзным ягоным аргументам было: «Мы били готтов и балтов сюда не пускали». Відаць, тагачаснае кіраўніцтва хацела, каб беларусы былі «найбольш чыстым славянскім племем», а не «балцкім субстратам».

Палякі, якія былі тады на канферэнцыі, запрасілі мяне выступіць у Польшчы. У 1966 годзе я чытаў даклад аб «балцкім субстраце» ў этнагенезе беларусаў у Варшаве і ў Беларускім навуковым таварыстве ў Беластоку. У 1970-м выйшла мая кніга «Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья». Яшчэ раней, у 1967-м і 69-м, гэтай жа тэме я прысвяціў артыкулы ў часопісе «Советская этнография».

**-- Здаецца, пасля першай публікацыі і разгарэлася на старонках часопіса дыскусія?**

-- Так. На старонках «Советской этнографии» маімі апанентамі выступілі Жучкевіч, М. Грынблат, Траццякоў, Хабургаеў, здаецца, Бандарчык і іншыя. Паводле іх, этнагенез беларусаў трэба разглядаць на аснове старажытнарускай народнасці, а ніяк не балцкага субстрату. У другой маёй публікацыі я даў адказ на ўсе прыведзеныя аргументы. А беларусы ўсё нешта шумелі, былі незадаволеныя. Мне нават казалі, што пры разглядзе маёй доктарскай працы ў Вышэйшай Атэстацыйнай Камісіі ў Маскве беларусы выступалі супраць зацвярджэння маёй работы, маўляў, мой пункт гледжання палітычна шкодны. Але мяне падтрымалі іншыя навукоўцы, даводзячы, што навуковы пункт гледжання аўтара мае права на існаванне. Пасля дысертацыі я напісаў кнігу. Усе рэцэнзіі былі станоўчыя. Нягледзячы на некаторыя ўнёскі, прынцыпова ніхто супраць балцкага субстрату не выказаўся. У кніжцы я падаў мапы, антрапалагічныя табліцы, вымеры, з якіх відавочна, што, напрыклад, пахаванні дзесятага—трынаццатага стагоддзяў з усходняй арыенціроўкай маюць адну антрапалагічную пабудову, з заходняй — іншую.

**-- Усё ж якія аргументы выстаўлялі вашыя апаненты?**

-- Напрыклад, чаму балцкія ўпрыгожанні не дайшлі да XVIII стагоддзя /да этнаграфічнага часу/? Але да этнаграфічнага часу не дайшлі не толькі балцкія, але й славянскія ўпрыгожанні. Прамінула амаль тысячагоддзе, а ўпрыгожанні хутка мяняюцца, гэта ж — мода.

Таксама не дайшла ўсходняя арыенціроўка часткі могільнікаў, галоўным чынам з-за пашырэння хрысціянскіх канонаў пахавання.

Мне здаецца, што ў той палеміцы для маіх апанентаў галоўнае было — ідэя, а не факты. Дыскусіі са мной вялі не археолагі, а этнографы, гісторыкі. Неаднаразова крытыкаваў тэорыю балцкага субстрату Абэцэдарскі. Бадай што адзіны археолаг, які ўдзельнічаў у дыскусіі, быў член-карэспандэнт АН БССР, ленінградскі навуковец Траццякоў. Ён адзін з першых выступіў супроць маёй тэорыі, але праз 4—5 гадоў выдаў кнігу, дзе пісаў аб балцкім субстраце на Беларусі. Згаджаўся з маімі поглядамі і беларускі археолаг Аляксей Мітрафанаў, згаджаўся, але адкрыта не падтрымліваў. У кабінеце дапаўняў мае факты, дадаваў дадзеныя сваіх раскопаў, а ён іх праводзіў непасрэдна на Беларусі, я ж — на Смаленшчыне, і абагульняў назапашаны за некалькі дзесяцігоддзяў археалагічны матэрыял. Але адкрыта падтрымаць мяне не хацеў, казаў, што я выступлю ды з'еду ў Маскву, а яму тут заставацца.

**-- Як пры такой атмасферы дайшло да падрыхтоўкі канферэнцыі?**

-- Дакладна не ведаю, але, кажуць, з ініцыятывы аддзела навукі ЦК КПБ. Гэта мелася быць канферэнцыя, спецыяльна прысвечаная пытанню этнагенезу беларусаў.

Я атрымаў запрашэнне, даў згоду і даслаў тэзісы. На канферэнцыі павінны былі выступіць лінгвісты, этнографы, антраполагі, археолагі. Карацей, задума была маштабная. Мелася яна адбыцца дзесьці ў 1973 годзе. Але арганізатары, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР вырашылі на пленарныя пасяджэнні выставіць толькі даклады праціўнікаў тэорыі балцкага субстрату, а на больш дробныя, секцыйныя, дзе, дарэчы, грунтоўнай дыскусіі быць не можа, — прыхільнікаў. Гэта было не зусім прымальна, бо траціўся навуковы сэнс дыскусіі. Нават кіраўніцтва майго інстытута ў Маскве сумнявалася, ці варта ехаць на такую канферэнцыю, якая мелася быць не зусім навуковай па характары. Але я вырашыў усё ж ехаць.

За два месяцы да канферэнцыі ў тым жа часопісе «Советская этнография» з вельмі крытычным у мой адрас артыкулам выступіла супрацоўніца майго ж інстытута ў Маскве Салаўёва. У артыкуле былі сабраны ўсе магчымыя аргументы супраць маёй тэорыі. На аргументах Салаўёвай будавалі сваю крытыку многія мае навуковыя апаненты. З гэтага артыкула, на маю думку, вынікала толькі тое, што фактаў на карысць тэорыі балцкага субстрату гэтак багата, што аспрэчыць іх нельга, хіба толькі замоўчваць. Мяркуючы па тэзісах, якія выпусцілі напярэдадні планаванай канферэнцыі, праціўнікі /напрыклад, лінгвіст Філін/ будавалі сваю крытыку на аргументах Салаўёвай. Я даў адказ, паказаў, што ў гэтым артыкуле багата блытаніны, чалавек проста не разабраўся, аўтарка шмат чаго наблытала.

І вось, літаральна за колькі дзён да адкрыцця, канферэнцыю адмяняюць. Чуў я, што і тэзісы, за выключэннем асобных экземпляраў, панішчылі. Захавалі іх некаторыя навукоўцы, у некаторых бібліятэках ёсць.

**-- Што змянілася ў поглядах навукі на праблему этнагенезу беларусаў? Які сённяшні стан тэорыі?**

-- У навуцы бывае так, што з'яўляюцца новыя навуковыя дадзеныя, якія цалкам абвяргаюць альбо прынцыпова мяняюць ранейшы навуковы погляд. Што да этнагенезу беларусаў, дык фактаў на карысць тэорыі настолькі багата, што іншы пункт гледжання можа трымацца, як я ўжо казаў, толькі на няведанні альбо замоўчванні. 70-я і 80-я гады далі новыя факты. Падам толькі некалькі прыкладаў. Выдаў дзве кніжкі ўкраінскі мовазнаўца Непакупны. Адна называецца «Балты — ближайшие родичи славян», у другой даследуюцца балцкія элементы ў прыпяцкім Палессі, дзе ён даказвае, што, на падставе гідранімічных і лінгвістычных дадзеных, балты даходзілі да паўночнай Валыні. Непакупны зафіксаваў шэраг балтызмаў. Выявіць балтызмы ўдалося і пры аналізе пісьмовых крыніц XVII-XVIII стагоддзяў. У 1990 годзе ў Пскове адбылося чарговае пасяджэнне навуковага семінара па гісторыі Пскова і пскоўскай зямлі. З дакладам «Балтызмы ў беларускай мове» выступіў ковенскі мовазнаўца Рымша, які налічыў у беларускай мове некалькі соцень балтызмаў, хоць, безумоўна, нейкая частка іх можа быць аспрэчана. Што да самой Беларусі, дык у 70-х і 80-х гадах зноў якіх-небудзь дыскусій не ўзнікала. Але пры распрацоўцы навуковых праблем падобны пункт гледжання праводзіцца. Можна згадаць і нядаўнюю абарону доктарскай дысертацыі Уладзімірам Багамольнікавым /Гомельскі універсітэт/. Ён працуе на абмежаваным рэгіёне і не кранае тэорыю балцкага субстрату, але ўказвае, што балты з'яўляюцца кампанентай этнагенезу радзімічаў. Падкрэсліваецца, што этнагенез мог развівацца ў розныя бакі. У выніку мог перамагчы любы з элементаў. Такія прыклады навуцы вядомыя... Так, славянскае племя крывічоў пасялілася ва ўсходняй Латгаліі, але на гэтай тэрыторыі паступова асімілявалася і сталася латгаламі. Прыбалцкія фіны на Наўгародскай зямлі і славяне-крывічы склалі наўгародцаў.

Урэшце і я далей распрацоўваў тэорыю ў сваёй кнізе «Восточные славяне в VI-XIII веках», якая выйшла ў Маскве ў 82-м годзе.

**-- Як вы ацэньваеце той факт, што ў выдадзенай АН БССР у 1985 годзе кнізе «Этнаграфія беларусаў» тэорыя балцкага субстрату адназначна характарызуецца як навукова-неабгрунтаваная? У выдадзенай у 1989 годзе энцыклапедыі /!?/ «Этнаграфія Беларусі» наогул не згадваецца ні тэорыя, ні вашае імя? Гэта няведанне ці замоўчванне?**

-- На праблему этнагенезу беларусаў дагэтуль існуюць розныя погляды, дарэчы, не заўсёды абгрунтаваныя. Але для навукі карысна было б паставіць усе кропкі над «і». Можа, варта было б правесці канферэнцыю... Мне думаецца, што пасля яе тэорыя балцкага субстрату пераможа. Можа, варта было б выдаць навуковы зборнік «Этнагенез беларусаў», дзе прывесці розныя пункты гледжання. Пакуль жа існуюць два паралельныя пункты гледжання: «беларускі» і той, які, на маю думку, можна назваць навуковым. Я ўпэўнены, што ў навуцы будучыня за апошнім...

**Гутарку вялі Алеся СЁМУХА і Юры ВАСІЛЕЎСКІ**




ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:
Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара -- 33-25-25; адказны сакратар -- 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Тыраж 15.000. Нумар падпісаны 29.04.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12